# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА



ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

№ 22 (3692) 29 МАЯ - 4 ЧЭРВЕНЯ 1993 г.






## ЧАМУ ЗАСМУЧАНЫ ЛЁНІК?

Лявон Тарасэвіч /для сяброў — Лёнік/ — чалавек заняты. Ягоны час распісаны на некалькі гадоў наперад: Стакгольм, Нью-Йорк, Тэль-Авіў, Сеул ды іншыя прывабныя, прэстыжныя для творцы мясціны на ўсіх пяці кантынентах. Знайсці «вакно» ў гэтым шчыльным раскладзе дабыць цяжка. Тым болей, што мастак нічога не робіць знянацку, да імпрэзаў рыхтуецца грунтоўна. Ён павінен загадзя азнаёміцца з залай, дзе будуць экспанавацца творы, скласці канцэпцыю выставы і прадугледзець яе магчымыя карэкцыі. Ён вельмі сур'ёзна ставіцца да такіх «дробязей», як каталог, афіша.

Гаворка пра выставу Лёніка на Беларусі распачалася даўно, дамоўленасць аб ёй паміж Міністэрствамі культуры Польшчы і Беларусі дасягнута яшчэ два гады назад. З польскага боку, з боку самога мастака ўсё запланаванае зроблена ў тэрмін і якасна. А вось у наших «ответственных товарищей» іншы стыль работы: каталогу няма, не надрукаваны намаляваны мастаком плакат, а замест яго ў «пажарным парадку» зроблена прымітыўная шрыфтавая афіша, да таго ж з граматычнымі памылкамі.

У ноч перад вернісажам мастак не спаў. Можа, таму, што збылася ягоная мара — зрабіць вялікую выставу ў Менску /гаворка пра яе наперадзе/, і высокія пачуцці перапаўнялі ягонае сэрца? Не, проста не было калі. Каб выстава адчынілася ў абвешчаны афішай час, Лёнік быў вымушаны сам развешваць карціны...

Так сустрэлі ў Беларускай дзяржаве беларускага генія з Польшчы. Зразумела, усё можна спісаць на адсутнасць добрага ладу ў нашай дзяржаве, на эканамічны крызіс /маўляў, не да мастацтва.../, на цяжкую спадчыну савецкага сацыялізму на Беларусі.

Ды мне падаецца, усё значна прасцей. Мастака абразілі свядома. Мастаку /і ўсім, хто яго шануе, хто ганарыцца, што Лёнік — беларус/ далі зразумець: што хто б ты ні быў «там», на Захадзе, «тут» гэта не мае ніякага значэння. «Тут» усё папранейшаму, і галоўная фігура ў нашым мастацтве не творца, а чыноўнік.

**П.ВАСІЛЕЎСКІ**

КОЛА ДЗЁН

***На мінулым тыдні прэзідэнт Польшчы Лех Валенса «развёнзаў» парламент. Гэты, усё яшчэ экзатычны на абшарах краіны былой «народнай дэмакратыі» спосаб пераадолення крызісных з'яў, безумоўна, дасць дадатковыя аргументы як прыхільнікам, так і апанентам увядзення інстытута прэзідэнцтва на Беларусі. Аднак больш істотна, на нашу думку, іншае. Крызісы, нейкія надзвычайныя сітуацыі — нармальныя з'явы ў пераходны, няпэўны перыяд. Але павінна быць і сіла, якая ў адказны момант не пабаіцца дзейнічаць — энергічна, неардынарна, рашуча. Вядома, на законных падставах, у рэчышчы дэмакратычных працэсаў.***

## СТАТЫСТЫКА ТЫДНЯ

Як паведаміў Дзяржкамстат Беларусі, за студзень—красавік гэтага года грашовыя даходы насельніцтва ўзраслі ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года ў 11 разоў і склалі на душу насельніцтва 50,9 тысячы рублёў.

Разам з тым, агульнае перавышэнне даходаў над расходамі насельніцтва склала 64,6 мільярда рублёў. На гэтую суму людзі не набылі тавараў і не атрымалі паслуг.

Вось і думай, сярэднестатыстычная «душа», пабагацела ты ў 11 разоў ці пабяднела.

## СУСТРЭЧА ТЫДНЯ

На першым пасяджэнні Кансультацыйна-каардынацыйнага камітэта СНД старшынёй гэтага органа Садружнасці выбраны расійскі віцэ-прэм'ер Аляксандр Шохін. Разгледжаны структура і штатны расклад камітэта. Адным з намеснікаў старшыні ККК стаў выканаўчы сакратар СНД Іван Каратчэня.

Лінгвістычная заўвага: няўклюдныя назвы, абрэвіятуры палітычных наватвораў — СНД, ККК і інш. — прымушаюць моцна ўсумніцца ў іх жыццяздольнасці.

## МАРНАТРАЎСТВА ТЫДНЯ

Вярхоўны Савет зноў адклаў разгляд праекта Канстытуцыі Беларусі. У мяркуемым Асноўным Законе 153 артыкулы, з якіх ухвалена менш за палавіну. Калі справа пойдзе такімі тэмпамі, «Беларусь, твой народ дачакаецца...»

Не пастаянная і ганебная адсутнасць кворуму на парламенцкіх пасяджэннях сведчыць хутчэй за ўсё не столькі пра нядобрасумленнасць дэпутатаў-прагульшчыкаў, колькі пра абраную парламенцкай большасцю тактыку. Як толькі з'явіцца «думка» — з'явіцца і кворум.

## ЦЫТАТА ТЫДНЯ

У інтэрв'ю італьянскаму інфармацыйнаму агенцтву «АНСА» Старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч зноў выказаўся за «нейтральную парламенцкую Беларусь».

Характарызуючы становішча ў краіне, спікер парламента адзначыў, што «эканамічныя рэформы ідуць у рэспубліцы недапушчальна марудна». Адказнасць за гэта С.Шушкевіч ускладае на чыноўнікаў старой закваскі: «Гэта спецыялісты высокага класа, але ў рыначную эканоміку яны не ўпісваюцца. Прызвычаеныя працаваць у ранейшай жорсткай камандна-адміністрацыйнай сістэме размеркавання і ўраўнілаўкі, гэтыя людзі перабудавацца ўжо не могуць».

## ФОРУМ ТЫДНЯ

У Варшаве працуе III канферэнцыя беларускіх і польскіх гісторыкаў на тэму «Беларуска-польскія адносіны ў 1918—1945 гг.» Канферэнцыю наладзілі таварыствы «Беларусь—Польшча» і «Польшча—Беларусь», а таксама інстытуты гісторыі акадэмій навук Польшчы і Беларусі.

## ЗАХАДЫ ТЫДНЯ

6—7 ліпеня адбудзецца III Усебеларуская палітычная канферэнцыя. Для склікання і правядзення гэтай важнай падзеі створаны арганізацыйны камітэт. Мяркуецца даць палітычную ацэнку II Усебеларускай канферэнцыі 1925 года, разгледзець цяперашняе палітычнае становішча на Беларусі, выказацца з нагоды яе будучага дзяржаўнага і канстытуцыйнага ладу.

## НЕДАЎМЕННЕ ТЫДНЯ

Утвораны Беларускі камітэт салідарнасці з сербамі. Гэтая грамадская арганізацыя, старшынёй якой выбраны І.Чыгрынаў, ставіць за мэту аказваць падтрымку братняму славянскаму народу, які «падвяргаецца генацыду».

Віншуем Івана Гаўрылавіча. Што ж, «беларусы нічога не маюць», хай жа ім будзе ... сербскі камітэт.

КОЛА ДЗЁН





*Вы іх бачыце на правым здымку — лаўрэатаў Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь 1992 года у галіне літаратуры і мастацтва. На ганку дома Вярхоўнага Савета, пасля атрымання дыпломаў і знакаў новага ўзору — дыпломаў і знакаў лаўрэатаў Дзяржаўнай прэміі незалежнай і суверэннай Беларусі, — сфатаграфаваліся на памяць Эдуард Агуновіч, Галіна Гарэлава, Сяргей Грахоўскі, Мікола Ермаловіч, Алесь Жук, Сяргей Законнікаў, Алесь Звонак, Уладзімір Кін-Камінскі, Уладзімір Кур'ян, Віктар Манаеў, Яраслаў Пархута, Мікалай Пінігін, Мікола Селяшчук, Васіль Сёмуха і Алесь Уліцёнак. Уручаючы ім знакі і дыпломы, Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч адзначыў менавіта гэта: яны — першыя лаўрэаты «зусім беларускіх» прэмій.*
*На левым здымку С.Шушкевіч уручае дыплом лаўрэата старэйшаму нашаму паэту Алесю Звонаку.*

# ПАРТЫЯ ФРОНТУ

***Свой першы, устаноўчы, з'езд Беларускі народны фронт ладзіў «на эміграцыі», у Вільні. Другі — дома, у Мінску, на ўскраіне, у раёне заводаў і новабудоўляў. Трэці — у самым цэнтры сталіцы, у будынку Купалаўскага тэатра, побач з гмахам колішняга ЦК КПБ /тут цяпер Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь/. Нават гэтыя геаграфічныя акалічнасці выразна сведчаць, што Фронт набывае палітычную вагу.***
***Альбо такі факт. 19 чэрвеня 1991 г. Міністэрствам юстыцыі быў зарэгістраваны прыняты на Другім з'ездзе Статут БНФ. Аднак рэгістраваць эмблему Фронту — «Пагоню» — «таварышы» з міністэрства адмовіліся. Гэта пытанне мелася быць вызначаным у трохмесячны тэрмін. І сапраўды, 19 верасня 1991 года «Пагоня» была зацверджана ў якасці... Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь.***

Як вядома, з'езд прыняў Праграму БНФ. Пераказваць яе падрабязна не мае сэнсу, бо той, хто хоча, можа пагартаць апошні перадз'ездаўскі нумар «Навін БНФ» — яна была там цалкам надрукавана. Істотных карэктыў на з'ездзе ў праграму ўнесена не было, у асноўным праўкі стылістычнага характару. Таму нагадаю толькі яе асноўныя палажэнні.

Праграма складаецца з шасці раздзелаў. Першы носіць назву «Беларускі народны фронт «Адраджэнне» і мае зместам вызначэнне Фронту як «народнага руху палітычнага цэнтра», які скіроўвае сваю грамадска-палітычную актыўнасць да Свабоды, Незалежнасці і Адраджэння. БНФ імкнецца быць у згодзе з маральнымі прынцыпамі Справядлівасці, Салідарнасці і Дабра.

Другі раздзел — «Галоўныя каштоўнасці». Імі названы беларуская культурная традыцыя, маральнасць палітыкі, годнасць чалавечай асобы, вяршэнства агульнага дабра, справядлівасць, салідарнасць, нацыянальная ідэя, незалежная дзяржава.

Трэці раздзел прысвечаны умовам раскрыцця асобы, чацвёрты — сацыяльнай рынкавай гаспадарцы /гэта пераказ эканамічнай праграмы БНФ/, пяты — дзяржаўнаму ладу Беларусі. Шосты /»Беларусь у свеце»/ адлюстроўвае прынцыпы знешняй палітыкі, якія БНФ будзе праводзіць у жыццё пасля перамогі на парламенцкіх выбарах.

Гэта праграма, на падставе якой будзе фарміравацца перадвыбарчая платформа руху. На маючыя адбыцца выбары зарыентавана і стварэнне ў межах Фронту партыйнай структуры. Бо існуе рэальная небяспека, што бальшавіцкая большасць у Вярхоўным Савеце прыме дыскрымінацыйны закон, які пазбавіць грамадскія рухі права на ўдзел у выбарах. На гэты выпадак і створаны «юрыдычны парасон» над БНФ. Аднак, каб нават тэарэтычна не дапусціць, што партыя БНФ распачне дзейнасць асобна ад руху БНФ, і партыя і рух маюць адзінае кіраўніцтва. Сойм БНФ — гэта адначасова і Сойм Партыі БНФ, Старшыня БНФ — і старшыня Партыі БНФ, і гэтак далей.

На шляху трансфармацыі руху ў партыю, хай па іншых прычынах, ідуць летувіскі «Саюдзіс» і ўкраінскі «Рух». Лідэры гэтых уплывовых палітычных арганізацый Вітаўтас Ландсбергіс і Вячаслаў Чарнавіл былі гасцямі з'езда БНФ. Ведаючы прыхільнасць З.Пазняка і В.Чарнавіла да ідэі Балтыйска-Чарнаморскага Саюза, на прэс-канферэнцыі прагучала пытанне, ці не стане гэта сустрэча трох лідэраў апазіцыі з Беларусі, Украіны і Летувы для СНД тым, чым былі «Віскулі» для Савецкага Саюза. На што З.Пазняк запярэчыў: «Віскулі» рабілі людзі, якія маюць уладу, а тут сустрэліся апазіцыянеры». В.Чарнавіл нагадаў свае візіты ў Латвію і Эстонію і адзначыў узросшую ў гэтых краінах цікаўнасць да ідэі БЧС. А ўвогуле лідэр «Руху» ўяўляе гэты саюз, як эканамічнае аб'яднанне не толькі былых рэспублік СССР. На ягоную думку, «Балтыйска-Чарнаморская дуга» можа ахапіць тэрыторыю ад Скандынавіі да Адрыятыкі.

В.Ландсбергіс прызнаў ідэю БЧС слушнай, вартай увагі, але яшчэ не саспелай, над ёй трэба яшчэ доўга працаваць.

Былі на з'ездзе госці з Малдовы, Польшчы. У першы дзень у зале прысутнічалі паслы Кітая, Расіі, Польшчы. З'езд віталі прэзідэнт Саюза прадпрымальнікаў Беларусі, старшыня Каардынацыйнай Рады Беларускага Згуртавання Вайскоўцаў, прадстаўнікі партый блока «Рэферэндум».

Для мяне досыць дзіўна было пабачыць і пачуць на з'ездзе прадстаўнікоў Саюза палякаў Беларусі. Бо зусім нядаўна кіраўніцтва СПБ адкрыта дэкларавала свае шчыльныя стасункі з КПБ, выказвала агрэсіўную непрымірымасць да беларускага «нацыяналізму». Нават на рэферэндуме аб лёсе СССР сябры СПБ галасавалі за захаванне імперыі. А тут... Магчыма, кіраўнікі СПБ добра ўсведамляюць сваю палітычную вагу і цэляць б, каб нехта дужы /БНФ/ правёў іх у будучы парламент.

Пра небяспеку згоды з былой камуністычнай наменклатурай гаварыў на з'ездзе госць з Малдовы, прадстаўнік Хрысціянскіх дэмакратаў.

Апладысментамі, стоячы віталі дэлегаты з'яўленне на трыбуне з'езда В.Ландсбергіса. Ён прыгадаў канец 80-х гадоў, «гады нашага /БНФ і «Саюдзіса»/ палітычнага юнацтва», студзень 1991 года, калі дэпутаты Вярхоўнага Савета РБ ад апазіцыі БНФ прыехалі ў Вільню, каб аказаць маральную падтрымку летувіскім дэмакратам-незалежнікам. З прамовы спадара Ландсбергіса можна было зрабіць выснову, што сітуацыя вакол Летувы і Беларусі, непрадказальнасць у паводзінах колішняга «старэйшага брата» і агульнаеўрапейскія палітычныя тэндэнцыі вымагаюць больш шчыльнага супрацоўніцтва апазіцыйных сіл абедзвюх краін.

Спадар Чарнавіл /таксама цёпла сустрэты залай/ гаварыў аб неабходнасці стварэння бяз'ядзернай зоны паміж Заходняй Еўропай і Расіяй. Балтыйска-Чарнаморскі Саюз, дзе не будзе народа /краіны/-гегемона, як у былым СССР, дасць магчымасць краінам БЧС хутка і цывілізавана вярнуцца ў Еўропу.

Трэці з'езд БНФ прайшоў выключна арганізавана і пад знакам згоды ў шэрагах руху, пацвердзіў непахіснасць аўтарытэту З.Пазняка як лідэра БНФ, аўтарытэт ягонага бліжэйшага асяроддзя. Але з гэтага не вынікае, што не было спрэчак і дыскусій. Дэлегаты досыць жорстка выказваліся адносна сітуацыі пасля забароны рэферэндуму. На думку многіх, Фронт на той момант упусціў палітычную ініцыятыву, не здолеў абараніць інтарэсы і годнасць тых амаль паўмільёна грамадзян Беларусі, што паставілі свае подпісы за рэферэндум. Выказваліся меркаванні, што БНФ недастаткова працуе з моладдзю і з ветэранамі. «Не ўсе ветэраны — «сталінскія сокалы», што прызямліліся ў нашым Вярхоўным Савеце», — сказаў дэлегат С.Навумчык.

І ўсё ж такі за час ад з'езда да з'езда Фронт, яго кіраўніцтва не зрабілі стратэгічных памылак. Разам з тым інтэлектуальны патэнцыял БНФ дазваляе зрабіць правільныя высновы з тактычных пралікаў і выйсці на будучыя выбары з праграмай, патрэбнай і зразумелай людзям Беларусі.

**П.ВАСІЛЕЎСКІ**

# АДСТУПЛЕННЕ СКОНЧЫЛАСЯ?

Калі не браць у разлік абрыдлы яшчэ з часоў агульнасаюзных трансляцый партыйны рытуал адкрыцця, то другі з'езд ПКБ пачаўся з прамовы сустаршыні гэтай партыі Сямёнава. Сякія-такія моманты з яе могуць падацца нават цікавымі для людзей, далёкіх ад партыйна-палітычнай работы. Ну, хаця б такі пасаж: апазіцыя ўзяла нашы камуністычныя лозунгі, каб набраць пабольш палітычных дывідэндаў у народа; апазіцыянеры карыстаюцца ў сваёй дзейнасці ўсім, што было назапашана за дзесяцігоддзі сацыялізму /!?/.

На мове марксістаў-ленінцаў такія высновы, напэўна, называюцца дыялектыкай. А той жа народ, на які так любяць спасылацца пэўныя таварышы, кажа ў такім разе лепей: блытаюць божы дар з яечняй.

Спрэчкі на з'ездзе былі непазбежныя — партыя камуністаў сёння далёка не тая, і да аднадумства ёй далёка. Але наўрад ці хто думаў, што прадметам бурнага абмеркавання будуць такія чыста працэдурныя пытанні, як склад прэзідыума. Тут вылучыўся вядомы ў партыйных кругах артадокс-фундаменталіст Школьнікаў. Ён прапанаваў не выбіраць у гэты орган сустаршыню ПКБ Лашкевіча з прычыны прыналежнасці апошняга да варожага пралетарыяту класа камерсантаў. Выступіўшыя ў абарону прадпрымальніка-камуніста тут жа згадалі фабрыканта і заводчыка Саву Марозава і яго цудоўныя асабістыя адносіны з Леніным, а таксама прыналежнасць да камерцыйных спраў спадара Энгельса. У такім хаўрусе, зразумела, выкінуць Лашкевіча з прэзідыума было ўжо проста немагчыма. Але наперад з'езд зрушыў зусім ненадоўга. Спатыкнуўся ён зноў ужо на наступным пытанні — прыняцці парадку дня. Да вызначанага аргкамітэтам парадку /даклады кіраўнікоў ПКБ, справаздача палітвыканкома, папраўкі і дапаўненні ў статут, прыняцце праграмы/ пасыпалася розная фракцыйная драбяза. Сярод іншага было прапанавана разгледзець персанальныя справы кіруючых асоб КПБ на прадмет іх асабістай адказнасці «за развал Саюза і партыі».

Са справаздачай аб працы ПКБ выступіў Лашкевіч. З яе запомнілася безапеляцыйнае сцвярджэнне, што масавасць акцый ПКБ «заставила кое-кого прикусить языки, а некоторым политикам пришлось круто менять свои позиции». А зацікавіла мяне асабіста інфармацыя аб тым, што ў ПКБ сёння вельмі мала рабочых, бо аднавіць давер да кампартыі з боку гэтага класа пакуль што не ўдалося.

Не абышоў увагай дакладчык і падрыхтоўку да будучых выбараў. Па яго словах, «палітычныя апаненты» /дэмакратычны рух/ запрашаюць да сябе настаўнікаў з-за мяжы. У камуністаў такой магчымасці няма, таму ўжо зараз неабходна разам з вучонымі /марксістамі?/ рыхтаваць кандыдатаў у дэпутаты.

Калі верыць дакладчыку, то да шматлікіх хвароб камуністычнага руху на Беларусі дабавілася яшчэ адна — мегаманія. Дыягнаставаць яе можна па міжнародных планах ПКБ: партыя плануе выступіць ініцыятарам міжнароднай нарады сацыялістычных і працоўных партый, дзе будуць абмеркаваны прычыны «часовага» паражэння камуністычнага руху ў свеце.

У чытача можа з'явіцца пытанне, чаму я так засяроджваюся на пачатку з'езда. Ды таму, што далейшы яго ход па камуністычнай звычцы быў абмежаваны рыторыкай на тэму таго, «як добра мы жылі пры сацыялізме і якое дрэннае жыццё зараз».

Адзінае, пра што сапраўды варта згадаць, — гэта спрэчкі аб дзяржаўнай мове. Першапачатковая прапанова змагацца за наданне дзяржаўнага статуса рускай мове была адхілена, пытанне перадалі на далейшую дапрацоўку ў кіруючыя органы. Прычыны, па якіх гэта было зроблена, называліся самыя розныя, але часцей за ўсё гучалі спасылкі на БНФ, які любы пралік камуністаў у нацыянальным пытанні скарыстае ў сваіх мэтах. Такім чынам, было нарэшце прызнана, што народны фронт — рух вельмі ўплывовы.

Выбары кіруючых органаў — сямі сакратароў ЦК, бюро ЦК і самога ЦК ПКБ — праходзілі за зачыненымі дзвярамі. Але вядома, што ні адзін з былых кіраўнікоў КПБ да кіруючых пасад дапушчаны не быў. Затое ў першым эшалоне партыйнай улады знайшлося месца ўсім былым сустаршыням. Да партыі «новага тыпу», якой стала ПКБ пасля аб'яднання з КПБ, перайшла не толькі ўся паўната ўлады, але і ўсе маёмасныя і юрыдычныя прэтэнзіі сваёй папярэдніцы.

**Яўген ЛЮТЫ**

# ЯКОЙ БЫЦЬ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ШКОЛЕ...

У Мінску, у Доме настаўніка, прайшла нарада-семінар начальнікаў абласных і Мінскага гарадскога ўпраўленняў, загадчыкаў гарадскіх і раённых аддзелаў адукацыі на тэму «Шляхі стварэння нацыянальнай сістэмы адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь». На працягу двух дзён абмяркоўваліся надзённыя пытанні, зместам сваім звязаныя з далейшай беларусізацыяй.

З дакладамі выступілі міністр адукацыі В. Гайсёнак, намеснік міністра Г. Бутрым і іншыя. Адбыўся «круглы стол».

У рабоце нарады-семінара прынялі ўдзел намеснік Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь М. Дзямчук, старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны Н. Гілевіч.

# ДЫРЭКТАРЫ-СЕМІНАРЫСТЫ

Пасля двухгадовых узважванняў ды прымерванняў ажыццявіўся сумесны праект Міністэрства культуры рэспублікі і Інстытута Гётэ з Германіі: з 6 па 13 чэрвеня дырэктары тэатраў Беларусі, а менавіта спадары Вашкевіч, Маслюк, Андрэеў, Герасімовіч, Касцін ды Рагоўская кіруюцца ў Берлін для ўдзелу ў семінары /ён адначасова — і стажыроўка/ па тэатральным менеджменце. Семінару папярэднічала паездка на Беларусь двух прадстаўнікоў Інстытута Гётэ — камерцыйнага дырэктара Дзюсельдорфскага тэатра Ханса Кірхнера ды прадстаўніцы берлінскага сенату Каролы Фрыдляндэр. Дзесяць дзён нямецкія калегі вывучалі кола праблем ды пытанняў, якія перадусім трэба было б вырашыць альбо распрацаваць з беларусамі тэатральнымі ў Берліне. Дзякуючы агульным намаганням ды разуменню патрэбы ў навучанні, беларускі бог схаўрусаваўся з нямецкім. Нашых спадароў чакаюць тыднёвыя спатканні ў тэатрах Берліна, а нямецкія ўзялі на сябе ўсе выдаткі — ад квіткоў на самалёт да харчавання. Ад 1 ліпеня ў Мінску распачынае працу філіял Інстытута Гётэ, які будзе ладзіць і развіваць кантакты між нашымі краінамі ў галіне інфармацыі, адукацыі і культуры.

# АДРАДЖЭННЕ ПРАЗ ДУХОЎНАСЦЬ

На пытанні карэспандэнта «ЛіМа» адказвае галоўны рэдактар выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі Барыс САЧАНКА

**— Барыс Іванавіч, пэўна, нялёгка было вам у такі складаны час рашыцца пайсці з выдавецтва «Мастацкая літаратура» і ўзначаліць выдавецтва энцыклапедычнае. Хоць бы таму, што засталося там ваша дзецішча — серыя «Скарбы сусветнай літаратуры», задумкі з выданнем твораў пісьменнікаў беларускай эміграцыі...**

— Вы не памыляецеся, гэта праўда — нялёгка было рашыцца. Калі вясной мінулага года зайшла размова пра тое, каб узначаліць БелЭН, я, падумаўшы, узважыўшы ўсе «за» і «супраць», зняў сваю кандыдатуру з прэтэндэнтаў, як, дарэчы, рабіў гэта неаднойчы і раней, калі мне прапаноўвалі розныя павышэнні. А такіх прапаноў — цяпер можна прызнацца — было нямала. Напрыклад, мне некалькі разоў прапаноўвалі ўзначаліць выдавецтва «Мастацкая літаратура». Першы раз з такой прапановай звярнуўся да мяне адразу ж пасля смерці Міколы Ткачова П.У.Броўка. У час гутаркі з ім я параіў на гэтую пасаду вылучыць тады мала каму вядомага ў пісьменніцкім асяроддзі М.Ф.Дубянецкага. Прапаноўвалі мне пасаду галоўнага рэдактара штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», часопіса «Беларусь»... Але я заўсёды ставіў вышэй за ўсё пісьменніцкую працу. Вядомыя словы героя паэмы А.Твардоўскага «Краіна Муравія» Маргунка: «Посеешь бубочку одну, и та — твоя», я перайначваў на «посеешь буквочку одну, и та — твоя». І сеяў гэтыя «бубочки — буквочки» — пісаў, працаваў над сваімі творамі. Паколькі жыць з творчасці, карміць сям'ю было нельга, я зарабляў на хлеб, займаючы самую сціплую пасаду літсупрацоўніка /«літраба»/ — два гады ў «Вожыку», шаснаццаць — у «Полымі». Чытаў, правіў, рыхтуючы да набору, чужыя рукапісы, а ўвесь астатні час праседжваў за кнігамі, сваім пісьменніцкім сталом і нічога лепшага не хацеў, не імкнуўся нават. Пісьменнікаў жа чытачы цэняць не за пасады, якія тыя займаюць, не за званні і прэміі, якія, карыстаючыся пасадамі і знаёмствамі, з «сильными мира сего», удаецца некаторым здабыць, а за цвярозы розум, веды, творы, што напісалі. Пасады ж адбіраюць час. І волю, незалежнасць — служыць жа трэба тым, хто цябе парэкамендаваў ці прызначыў. Навошта, калі можна і без усяго гэтага жыць. І я жыў, церпячы штурхалі і злева, і справа. К.Кірэнка, прыйшоўшы на працу ў «Полымя», прапаноўваў мне пасаду адказнага сакратара, потым — намесніка галоўнага рэдактара. Але ўгаварыць мяне яму так і не ўдалося. Тады ён вырашыў дзейнічаць інакш. І пра гэта я даведаўся ад сакратара ЦК КПБ А.Т.Кузьміна, які, паклікаўшы мяне ў апошні дзень з'езда пісьменнікаў на гутарку, сказаў голасам, які не дапускаў пярэчанняў: «Больш у «Полымі» ты працаваць не будзеш. Выбірай — пойдзеш у сакратары партарганізацыі ці ў сакратары праўлення». Я падумаў, падумаў і выбраў з двух зол, як мне здавалася, меншае — сакратара праўлення. У «Мастацкую літаратуру» я прыйшоў пасля трохмесячнага вымушанага па волі таго ж А.Т. Кузьміна беспрацоўя, дзякуючы дырэктару гэтага выдавецтва А.І. Бутэвічу і галоўнаму рэдактару Серафіму Андраюку. Ім хацелася падняць на новы ўзровень выданне перакладной замежнай літаратуры. Выбар іх дзеля здзяйснення мэты спыніўся на мне. Я ведаў, што значыць пераклады лепшых узораў сусветнай класікі на нашу мову. І быў... упершыню ў сваім жыцці цалкам вольны, незалежны ні ад каго. І таму не адразу згадзіўся ўзначаліць рэдакцыю. Некалькі разоў супастаўляў свае погляды з поглядамі на гэтую справу А.І. Бутэвіча і Серафіма Андраюка. На шчасце, яны ў многім супадалі. Агульнымі намаганнямі кіраўніцтва выдавецтва, супрацоўнікаў рэдакцыі і перакладчыкаў справа зрушылася, набыла належны ход. За пяць з паловай гадоў перакладзена, падрыхтавана да друку, выйшла ці неўзабаве выйдзе больш за 50 кніг сусветнай класікі, сярод іх такія, як «Метамарфозы, ці Залаты асёл» Апулея, «Дафніс і Хлоя» Лонга, «Так казаў Заратустра» Ф.Ніцшэ, «Гроны гневу» Дж.Стэйнбека, «Па кім звоніць звон» Э.Хемінгуэя, «Доктар Фаўстус» Т.Мана, «Ферма» і «1984» Дж.Оруэла, аповесці і апавяданні П.Мерымэ, Гі дэ Мапасана, Шолама Алейхема, С.Цвейга, Г.Бёля, Г.Грына, Х.Лакснеса, С.Маэма... Нароўні з элітарнымі аўтарамі — Сартрам, Камю, Норвідам, Прэшэрнам, Шагалам, Маккалерс — пачалі выдаваць па-беларуску замежную фантастыку, дэтэктывы... І ўсе гэтыя пераклады з мовы арыгінала! Не, праца ў «Мастацкай літаратуры» мне падабалася, яна давала магчымасць не толькі займацца сваёй творчасцю, але і «прабіваць» тое, што гадамі замоўчвалася, не пускалася ў свет янычарамі і апрычнікамі — з маіх экземпляраў былі факсімільна выдадзены «Матчын дар» А.Гаруна, «Спадчына» Я.Купалы, «Пад сінім небам» Н.Арсенневай, «Вязанка» Я.Лучыны; падрыхтаваў я і выдаў зборнік паэзіі Л.Геніюш «Белы сон» і анталогію паэзіі беларускай эміграцыі «Туга па Радзіме», не вельмі вядомыя на час выхаду іх у свет творы М.Булгакава, Ф.Салагуба, Б.Пільняка, У.Набокава. Ды многім-многім дапамог выпусціць свае кнігі — М.Сяднёву, напрыклад, М.Гайдуку, А.Барскаму...

На тое, што згадзіўся я пакінуць любімую працу, перайсці ў «БелЭн», паўплывала адна падзея, пра якую, хоць і не хочацца, але я вымушаны сказаць колькі слоў. Як вядома, пасля адыходу з выдавецтва А.І.Бутэвіча на пасаду дырэктара быў «спушчаны на парашуце» з ЦК КПБ, дзе працаваў у ідэалагічным аддзеле, В.Грышановіч. На гэтую пасаду калектыў выдавецтва вылучыў Серафіма Андраюка, быў аформлены адпаведны дакумент. Ды з нашай думкай не палічыліся. Не буду расказваць, колькі і чаго перажылі супрацоўнікі выдавецтва ад «парашутыста», бо ён вёў справу так, каб развaліць гэты асяродак нашай культуры, не выдаваць беларускай літаратуры, якую ён не ведаў, а, верагодней за ўсё, не любіў. А што ўжо да перакладаў замежнай літаратуры на беларускую мову, гэтых самых «Скарбаў сусветнай літаратуры»... Лепш не ўспамінаць. Калектыў урэшце не вытрымаў. Аднойчы, калі В.Грышановіч аддаў чарговы свой загад, які фактычна ліквідоўваў выдавецтва, пазбаўляў працы тых людзей, на якіх, уласна кажучы, яно пры ім і трымалася, калектыў сабраўся на сход і, пасля дэталёвага бурнага абмеркавання, тайным галасаваннем выказаў недавер свайму кіраўніку. Гісторыя з В.Грышановічам паўплывала на мяне. Падумаў я: «А што калі і ў «БелЭн» трапіць на пасаду галоўнага рэдактара чалавек выпадковы, чужы калектыву, хто любіць больш сябе, чым беларускую справу, працу, адраджэнне?» А сярод тых, хто прэтэндаваў на гэтую пасаду, былі такія. І я сабою загарадзіў ім дарогу... Што ж да «Скарбаў сусветнай літаратуры», выдання твораў беларускай эміграцыі, дык, як казаў незабыўны Міхаіл Сяргеевіч, «працэс пайшоў». Сёння справа гэтая ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» знаходзіцца ў надзейных руках, яе ўжо ніхто не спыніць. Ды тыя людзі і ў больш змрочныя «грышановіцкія» часы не давалі гэта зрабіць, хоць сяму-таму таго надта ж хацелася...

**— Нядаўна я пачуў, што «БелЭн» знаходзіцца на гаспадарчым разліку. Няўжо гэта праўда? Прабачце, але які прыбытак могуць даць той жа біябібліяграфічны слоўнік «Беларускія пісьменнікі», першыя два тамы якога нядаўна пабачылі свет? А хіба, прабачце, заробіш грошы на дакументальных хроніках «Памяць»?**

— Так, здзіўляцца не трэба. Маім папярэднікам, пэўна, працаваць было куды лягчэй, дзяржава забяспечвала выдавецтва ўсім неабходным — паперай, пераплётнымі матэрыяламі, грашыма. Сёння ўсё інакш. Заканчваецца першае паўгоддзе, а выдавецтву ніхто так і не выдзеліў ні кілаграма паперы, ні кілаграма кардону, ні метра плёнкі, іншых так неабходных матэрыялаў. Ніхто не прапаноўвае іх купіць і за грошы. Выкручвайся, як хочаш. Тая невялікая датацыя, якая даецца на беларускамоўныя выданні, не ратуе калектыў, у якім, дарэчы, працуе каля 150 чалавек. Да таго ж, паліграфісты ды і ўсе, з кім звязаны мы сумеснай дзейнасцю, патрабуюць папярэдняй аплаты за нашы заказы, а нам за выпушчаныя кнігі, скажам, Белкаапсаюз, таварыства «Кніга» ды і іншыя арганізацыі, што займаюцца гандлем, не плацяць гадамі. Інфляцыя з'ядае ўсе нашы прыбыткі, растуць не па днях, а па гадзінах цэны на паперу, кардон ды і на ўсё іншае. За пяць апошніх месяцаў паліграфпаслугі выраслі ў некалькі разоў. Што рабіць, як выжыць, захаваць высокапрафесійны калектыў інтэлектуалаў, які складваўся гадамі, як і далей ствараць і выпускаць так неабходную сёння нашаму грамадству літаратуру? Выдавецтва ж «Беларуская энцыклапедыя» такога тыпу адзінае ў Беларусі і не даць яму развaліцца, загінуць — задача не толькі нашага творчага калектыву. Утворыцца ж велізарная яма ў нашай культуры, навуцы, духоўнасці. Хто дасць беларусам даведачную літаратуру пра свой край, сваю гісторыю, геаграфію, прыроду, гарады і вёскі нашы, пра іншыя культуры, народы, краіны? Ды і спадчыну нашу, хто гэтак глыбока, з веданнем справы падыме?

**— Тым не менш, справы ідуць. Вось і нядаўна выйшла яшчэ некалькі тамоў з эмблемай вашага выдавецтва...**

— Кнігі, хоць і з цяжкасцю, але выходзяць. Як? Пра гэта можна цэлыя эпапеі пісаць. Каб выдаць другі том «Беларускіх пісьменнікаў» і кнігу «Памяць» Хойніцкага раёна, пра якія вы згадалі, калектыву выдавецтва давялося стварыць энцыклапедычны даведнік «Фотография», знайсці фірму «Сутокі», якая мела паперу, выдаць «Фотографию», атрымаць частку тыражу, абмяняць яго на паперу і пераплётныя матэрыялы. Дзесяткі сустрэч, размоў, напісанне дагавораў і іх узгадненне! Ды з такімі часам хапугамі, рвачамі, што аж дзіву

(Працяг на стар. 4)

# АДРАДЖЭННЕ ПРАЗ ДУХОЎНАСЦЬ

(Пачатак на стар. 3)

даешся, дзе яны нарадзіліся, у якім асяроддзі выхоўваліся... Як пісьменніку мне ўсё гэта цікава, як галоўнаму рэдактару — не. Не дзеля таго я ішоў у Энцыклапедыю, каб займацца гэткімі справамі. Ды што зробіш, калі ў нас цяпер такая дзяржава, такі парламент, які нават прыняты тым, камуністычным Вярхоўным Саветам, Закон аб мовах, хоча змяніць, паправіць. Жах, як падумаеш, што тон і ў нацыянальным пытанні — далікатным, тонкім! — спрабуюць задаваць недавукі і гарлапаны. Ды калі б у французскім, англійскім, польскім ці ў якім іншым парламенце выступіў дэпутат з патрабаваннем увесці яшчэ адну мову ў якасці дзяржаўнай, на яго паглядзелі б як на ідыёта. А ў нас, выяўляецца, гэтага не разумеюць! Бяда. Ды няхай, перажылі мы не тое, дай Бог, перажывём і гэта.

Сярод кніг, якія сёлета выйшлі, хацеў бы засяродзіць увагу на «Геаграфіі Беларусі». Ёю мы пачалі новую серыю энцыклапедычных даведнікаў для школьнікаў. Плануем выдаць іх некалькі. Ужо ў гэтым годзе з'явіцца на кніжных паліцах новай серыі «Геаграфічныя паняцці і тэрміны», потым,, у наступным, «Падарожжы і адкрыцці», «Гісторыя Беларусі ў ілюстрацыях і дакументах»... А там — «Біялогія ў тэрмінах і паняццях», «Рыбы», «Беларуская мова», «Млекакормячыя», «Земнаводныя і рэптыліі», «Падарожжы па родным краі», «Літаратурная карта Беларусі»... Выдалі мы таксама надзвычай цікавыя «Народныя прыкметы», сабраныя і апрацаваныя вучонымі з Гомеля У.Анічэнкам і А.Малюком, «Беларускую епархію» І.Грыгаровіча. Неўзабаве з'явяцца фундаментальныя працы, над якімі калектыў працаваў доўга, гадамі, такія, як «Архітэктура Беларусі», «Энцыклапедыя сельскага гаспадара», «Археалогія і нумізматыка Беларусі», «Энцыклапедыя дзіцячага неўролага», «Чырвоная кніга Беларусі»...

**— Пра папулярнасць выданняў «БелЭна» сведчаць і лісты, якія атрымлівае «ЛіМ». Праўда, чытачы занепакоены, што часам выданні вашы затрымліваюцца. Вось адзін з такіх лістоў, даслаў яго П.Кажар з Оршы: «У снежні 1991 г. я падпісаўся на выданне «Энцыклапедыя гісторыі Беларусі». Прайшоў год, але ніхто з падпісчыкаў не атрымаў першага тома і, наогул, нават не ведаюць пра лёс гэтага так неабходнага выдання, якое, я ўпэўнены, з нецярплівасцю чакаюць многія — усе, хто хоча ведаць сапраўдную гісторыю сваёй Радзімы — Беларусі. Я разумею, што не да вас трэба было б звяртацца, але не ведаю дакладнага адраса ні рэдакцыі гэтага выдання, ні выдавецтва, якое ім займаецца...»**

— Заклапочанасць і трывога чытачоў зразумелыя. Гэта праўда, нашы кнігі не так хутка даходзяць да адрасатаў, як таго б хацелася. «БелЭн» — адзінае выдавецтва, дзе кнігі не толькі выпускаюцца, але і ствараюцца. Гэта хутчэй за ўсё навукова-даследчая ўстанова з правам выдавецкай дзейнасці. Свой шлях яна пачынала як адно з падраздзяленняў Акадэміі навук Беларусі, і толькі потым — мусіць, каб акадэміі не мець лішных клопатаў — была перададзена ў іншае ведамства. Працэс жа стварэння кніг ой які доўгі, іншы раз цягнецца гадамі, як, напрыклад, той жа «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі». Сапраўдная гісторыя Беларусі яшчэ, на жаль, не напісана, многае трэба падымаць з архіваў, вывучаць, даследаваць, а тое, што быццам вывучана і даследавана, асвятляць па-новаму. Не хапае вучоных па многіх тэмах і цэлых перыядах, а тыя, што ёсць, не заўсёды мысляць па-сучаснаму, ніяк прызнаць не могуць некаторыя, што ў Беларусі, беларускага народа свая гісторыя, адметная ад гісторыі іншых народаў. Якая — гэта ўжо разбірацца трэба... Ды і гатовыя ўжо, створаныя кнігі, выдаваць нялёгка, нават калі на гэта маеш паперу, пераплётныя і іншыя матэрыялы. На фабрыцы каляровага друку толькі дзве машыны, якія могуць друкаваць энцыклапедычныя выданні, фабрыка не заўсёды спраўляецца выконваць усе нашы заказы. Ды і грошы ж патрэбны. І не малыя — кожны том нашага выдання цяпер каштуе 20—25 мільёнаў рублёў. Прадаём жа мы сваю прадукцыю часта не па сабекошту, а, здаецца, як з кнігамі той жа «Памяці» /дарэчы, «БелЭн» выдала іх ужо 10, 6 падрыхтавала да друку/, у 4—5 разоў танней. Вось запланавалі мы выдаць трохтомны «Руска-беларускі слоўнік». Меркавалі, прынясе прыбытак. А ён, выявілася, стратны — кожны том дае мінус 10,5 мільёна рублёў. Чаму? Ды таму, што пакуль слоўнік набіралі, вычытвалі, падняліся цэны на паперу, паліграфработы. Каб запусціць яго ў вытворчасць і выдаць, як планавалі, 200 тысяч паасобнікаў, трэба паўтараста мільёнаў рублёў! Дзе іх узяць? Прыняты Закон аб мовах, прынята Дзяржаўная праграма па яго ажыццяўленні. Здавалася б, штошто, а гэты слоўнік павінен быць у цэнтры ўвагі ўсёй беларускай грамадскасці. Не, такое не здарылася. Не толькі не руплцца дапамагчы выдавецтву выдаць гэты слоўнік, а ўзяліся папраўляць, мяняць закон. Сяму-таму, няйнакш, не хочацца, каб Беларусь была суверэннай дзяржавай, а аўтаномнай рэспублікай Расійскай Федэрацыі, бо толькі там прымаюцца законы аб дзвюх дзяржаўных мовах — сваёй і рускай... Што ж да шасцітомнай «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі», дык першы том яе падпісаны ў друк, набыты пад яго пераплётныя матэрыялы і папера, і вельмі ж хочацца верыць, што да канца года ён выйдзе. Чытаем вёрсткі, карэктуры другога тома... Выданне гэтае цікавае, багатае і па фактуры, і па ахопленым, прааналізаваным матэрыяле, і па афармленні. Тыраж яго — 25 тысяч паасобнікаў...

**— А якія яшчэ выданні па гісторыі Бацькаўшчыны маюць намер выйсці ў бліжэйшы час?**

— Паміраць збірайся, а жыта сей. Так казаў мой дзед, так казаў мой бацька, так кажуць усе беларусы. Мы паміраць не збіраемся нават ва ўмовах дзікага рынку, нацыянальнага нігілізму, невуцтва, а то і варожасці з боку некаторых службовых і неслужбовых асоб. Таму планы ў «БелЭн» вялікія. Падрыхтавана да выдання «Блакітная кніга» — энцыклапедыя ўсіх нашых рэк, азёр, іншых вадаёмаў, унікальны аб'ёмны энцыклапедычны даведнік «Беларуская мова», чарговыя тамы шасцітомніка «Беларускія пісьменнікі». Рыхтуюцца да друку «Тэатральная энцыклапедыя», «Беларуская кухня», «Мысліцелі і асветнікі Беларусі», «Ветэрынарная энцыклапедыя», «Бытавая радыётэхніка», «Матэматычны слоўнік» /накшталт «Юрыдычнага», які выйшаў летась/. Нядаўна мы прыступілі да працы над аднатомнікам «Беларусь», які маем намер выпусціць не толькі па-беларуску, але і па-руску, англійску. Патрэба ў такім выданні вялікая, многае ж у тых выданнях пра нашу рэспубліку, што выходзілі раней, устарэла, а сёе-тое туды і зусім не трапіла. Змянілася і палітычная сітуацыя. Распаўся Савецкі Саюз, Беларусь стала, хоць, як некаторыя лічаць, на словах, але суверэннай, незалежнай дзяржавай, яе прызналі каля 100 краін свету. Узніклі новыя партыі, новыя лідэры... Усё гэта павінна быць адлюстравана ў гэтым выданні. Разам са Скарынінскім цэнтрам працуем над энцыклапедычным даведнікам «Беларускае замежжа», разам з Інстытутам этнаграфіі і фальклору АН Беларусі — над шматтомным выданнем «Гарады і вёскі Беларусі». Працягваецца праца над «Старажытным беларускім жывапісам», «Беларускім аддзеннем». Знаходзяцца ў вытворчасці «Гісторыя Беларусі» М.Доўнар-Запольскага, якая праляжала ў рукапісе больш за 50 гадоў, том «Живописной России», прысвечаны Беларусі, «Малая падарожная кніжка» Ф.Скарыны, «Міфалагічны слоўнік». Хацелася б выдаць і «Вайсковую энцыклапедыю», даследаванні «Беларусь у свеце», «Царква на Беларусі», «Беларусь і Расія». «Яўрэі ў Беларусі», «Літва-Беларусь», «Беларусь і Польшча» і інш. Ды і сярод кніг «Памяці» ёсць такія, якія хочацца выпусціць як найхутчэй, напрыклад, рэспубліканскую кнігу «Памяці». Набліжаюцца ж круглыя ўгодкі вызвалення Беларусі і Перамогі і выхад такой кнігі да гэтых дат быў бы вельмі дарэчы.

**— Сёння гэта добра вядома кожнаму, хто па-сапраўднаму зацікаўлены справай нацыянальнага Адраджэння — вялікая патрэба ў самых розных слоўніках. Тут, як кажуць, «БелЭну» і карты ў рукі. Відаць, і ў гэтым кірунку выдавецтва распрацавала шэраг планаў — і блізкіх, і перспектыўных...**

— Пра трохтомны «Руска-беларускі слоўнік» я ўжо казаў. Ён усё ж выйдзе сёлета, хоць, можа, і меншым тыражом, чым планавалі. Здадзены ў друк «Фразеалагічны слоўнік беларускай мовы» ў двух тамах, аўтарам якога з'яўляецца адзін з самых дасведчаных у пытаннях лінгвістыкі вучоны з Гродна І.Я.Лепешаў. Мяркую, па-належнаму будзе ацэнены і «Руска-беларускі фізічны слоўнік» А.І.Болсуна, што павінен вось-вось выйсці з друку. У наступным годзе, калі будзе ў тым патрэба, паўторым выданне трохтомнага «Руска-беларускага слоўніка». З новых выданняў можна назваць «Слоўнік замежных слоў», які падрыхтаваў для нас доктар філалагічных навук А.М.Булыка. Будзе прадоўжана выданне перакладных слоўнікаў для школьнікаў, якія вывучаюць англійскую, французскую, нямецкую, іспанскую мовы. Рыхтуецца новае выданне «Слоўніка беларускай мовы» /Арфаграфія. Арфаэпія. Акцэнтуацыя. Словазмяненне/, што выходзіў ужо ў нашым выдавецтве пяць гадоў назад пад рэдакцыяй акадэміка АН Беларусі М.В.Бірылы. Надзвычай цікавы атрымаўся слоўнік неперакладальнай на рускую мову лексікі і выразаў беларускай мовы, які падрыхтавала І.Р.Шкраба. Ён таксама стаіць у плане выпуску на наступны год. Пра планы больш далёкія — на перспектыву — гаварыць не буду, бо яны ўвесь час удакладняюцца. Карэктывы ўносіць само жыццё і эканамічнае становішча выдавецтва. Будуць грошы, папера — будуць і новыя слоўнікі, кнігі...

**— Здаецца, ужо нібы і няёмка ўспамінаць «старэйшага брата», але не мне нагадваць вам, Барыс Іванавіч, як шмат зроблена ў Расіі па выданні энцыклапедычных даведнікаў для дзяцей! Гэта і шматтомная дзіцячая энцыклапедыя, і энцыклапедыі па розных галінах ведаў — энцыклапедычныя слоўнікі юнага гледача, юнага астранома, юнага фізіка, юнага мастака і г.д. і г.д. Няўжо мы не можам зрабіць нешта падобнае?**

— І пра гэта таксама думаем. Пра «Энцыклапедычную бібліятэку школьніка» я ўжо гаварыў. У бліжэйшыя гады выдадзім прыгожую і надта ж патрэбную кнігу для самых маленькіх «Беларусь — мая Бацькаўшчына». Рыхтуюцца кнігі для дзяцей пра выдатных людзей Старажытнай Грэцыі і Рыма, пра славутых людзей Беларусі і Расіі. За стварэнне «Дзіцячай энцыклапедыі» браліся даўно, але выявілася: мала ў нас спецыялістаў, якія б умелі напісаць цікава, даходліва для юных грамадзян нашай рэспублікі. Няма ў выдавецтве і спецыяльнай рэдакцыі, якая б займалася падрыхтоўкай і выданнем такой энцыклапедыі, вяла б яе. Трэба такую рэдакцыю арганізаваць, чым цяпер і займаемся. Веру: «Беларуская дзіцячая энцыклапедыя» выйдзе. Вось толькі калі гэта будзе — сказаць не бяруся.

**— Час, як кажуць, не стаіць не месцы. Апошнія ж гады былі асабліва імклівымі і зменлівымі. Вось і атрымліваецца, што колішняя дванаццацітомная энцыклапедыя, якая была прыхільна сустрэта ва ўсім свеце, устарэла... Значыць, час думаць пра чарговае выданне яе, больш поўнае, грунтоўнае і, мабыць, ужо не ў 12 тамах. Ці ёсць у выдавецтве нейкія планы наконт гэтага?**

— Фактычна, падрыхтоўчыя работы да выдання новай Беларускай энцыклапедыі ўжо вядуцца. Напісаны лісты ў адпаведныя інстанцыі, зроблены падлікі, колькі і чаго трэба, каб пачаць гэтае выданне і паспяхова, у сціслыя тэрміны завяршыць, колькі яно будзе каштаваць. Паводле нашай задумы, гэта будзе прыцыпова новая энцыклапедыя суверэннай, незалежнай Беларусі. Можна сказаць, першая ў яе гісторыі. Мяркуем пачаць выданне ў 1995 годзе і скончыць у 2000. Вядома, усё гэта будзе магчыма, калі дзяржава не пакіне выдавецтва сам-насам з усімі цяжкасцямі і праблемамі, акажа своечасова неабходную дапамогу. Дарэчы, энцыклапедычныя цэнтры нават у вялікіх, развітых краінах знаходзяцца пад асаблівай увагай і апекай грамадскасці, і, як правіла, на поўным дзяржаўным забеспячэнні. Прэзідэнты, парламенты, кіраўнікі ўрадаў, проста культурныя, дасведчаныя і выхаваныя людзі там разумеюць, што значыць для краіны і народа стварэнне і выпуск энцыклапедыі і энцыклапедычных даведнікаў. Дажыць бы, каб такое было і ў нас!

**— Працы — не прадыхнуць... Як жа ў такім разе маецца Сачанку-пісьменніку?**

— Ёсць анекдот пра шаўца, які зрэдку я ўспамінаю. У тым анекдоце ў шаўца, старога хітрага яўрэя, спыталі, што б ён рабіў, калі б яго, да прыкладу, выбралі царом. Шавец не разгубіўся, адказаў: «Усё тое самае, што робіць і цар. І яшчэ трошачкі б шыў». Дык вось, мне «шыць» — «сеяць «бубочки-буковочки» цяпер амаль не ўдаецца. Увесь мой час, усе мае сілы забірае «БелЭн». Ні пра што іншае думаць не магу — захаваць бы калектыў, выплаціць бы ў час зарплату, стварыць і выдаць бы тыя кнігі, без якіх нашае адраджэнне проста немагчыма. Шанц, дадзены Беларусі, трэба выкарыстаць...

**— І ўсё ж якія вашы новыя творы прыйдуць да чытача ў бліжэйшы час?**

— У выдавецтве «Мастацкая літаратура» выходзіць трохтомнік маіх выбраных твораў, ён не паўтарае, а дапаўняе раней выдадзены двухтомнік. Здаў я ў гэтае ж выдавецтва і новую кнігу прозы і эсэістыкі «Гарадок на Палессі». Чакаю выхаду ў свет кнігі ўспамінаў і іншых аўтабіяграфічных матэрыялаў, якую я склаў з публікацый, што змяшчаліся ў эміграцыйным друку. Назва яе «На суд гісторыі». На старонках «Полымя» і «Маладосці», спадзяюся, неўзабаве з'явяцца мая новая аповесць і нарыс «Восень у Францыі». Але ўсё гэта напісана, зроблена да майго пераходу ў «БелЭн»...

**Інтэрв'ю ўзяў**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# ПРОДКІ МНОГІХ СМАЛЯН — БЕЛАРУСЫ

## ПА СТАРОНКАХ СМАЛЕНСКАГА ДРУКУ

Смаленскія газеты і часопісы нарэшце адкрылі для сябе старую тэму: беларусазнаўства. Праз 60 гадоў змушанага маўчання ізноў уздымаецца праблематыка гістарычнай, этнічнай, нацыянальнай поліфаніі гэтага краю.

Летась у адным з вераснёўскіх нумароў абласной газеты «Рабочий путь» быў надрукаваны артыкул загадчыка аддзела абласнога дзяржаўнага архіва Анатоля Корсака «Беларусы». «Многія жыхары Смаленшчыны і не здагадваюцца, — кажа ён, — што ўводзілі ў зман дзяржаўныя і грамадскія ўстановы, калі пісалі ў графе «нацыянальнасць» — «рускі-руская». Насамрэч зусім недалёкія продкі многіх смалян — беларусы. Дагэтуль застаецца дыскусійным пытанне пра беларусаў у Смаленскай вобласці. Складанасць і заблытанасць сітуацыі ў значнай ступені абумоўлена стаўленнем уладаў да гэтай нацыянальнасці».

Упершыню за ўсе пасляваенныя гады смаленскі аўтар без папулізму і эмоцый разглядае нацыянальна-культурны рух на Смаленшчыне ў 20-30-ых гадох.

У другім артыкуле сп.Корсака «На шматнацыянальнай Смаленшчыне», змешчаным у леташ[illegible] 9-ым нумары часопіса «Край Смоленский», беларусы разглядаюцца ўжо ў кантэксце развіцця іншых нацыянальных культур і этнічных груп краю. Між іншым, аўтар згадвае, што супрацоўнікі гарадскіх архіваў рыхтуюць да друку навуковы зборнік па міжнацыянальных дачыненнях у рэгіёне.

Яшчэ адна навінка друку канца 92-га года — кніга прафесара гісторыі Будаева ды архівіста Лявіціна «Истории живые голоса». Дакладней, гэта зборнік нарысаў і артыкулаў пра родныя мясціны кампазітара Глінкі, пра сельскагаспадарчыя доследы Энгельгарта, прыводзяцца новыя факты да біяграфіі ўраджэнцаў Смаленшчыны паэтаў Ісакоўскага, Твардоўскага, празаікаў Прышвіна і Фош. Непасрэднае дачыненне да Беларусі з гэтага зборніка мае артыкул Міхала Лявіціна «Азначаны тут Луцэвіч» пра Янку Купалу і смаленскі перыяд яго жыцця — 1918 год.

І апошняя публікатка канца 92-га года. У 11-м нумары часопіса «Край Смоленский» артыкул сп. Ю.Ч. пра жыццё ў Смаленску, творчасць і грамадскую кар'еру выбітнага беларуса Лявона Вітан-Дубейкаўскага. Гэты архітэктар пабудаваў калісь у Смаленску касцёл, шэраг іншых культавых, грамадскіх і прыватных будынкаў.

У рэдакцыі часопіса рыхтуюцца да друку творы Юркі Віцьбіча і артыкул пра Смаленскае беларускае студэнцкае зямляцтва 20-ых гадоў. Мусіць, і для іншых беларускіх матэрыялаў у 93-м годзе знойдзецца месца ў газетах і часопісах Смаленшчыны.

**Алеся СЁМУХА**

На паваротце

***У апошні час інтарэс да асобы чалавека пастаянна ўзрастае. Становіцца ўсё больш зразумелым, што менавіта ёй належыць галоўнае месца і ў эканамічным, і ў палітычным, і ў сацыяльна-культурным развіцці. Мы ўсё больш пранікаемся свядомасцю адносна таго, што эканамічны базіс грамадства і ідэалагічная надбудова, куды да гэтага часу адносілі культуру і патрэбы чалавека, не існуюць асобна адзін ад другога. Ідэя г. зв. дэтэрмінізму на самай справе зніштажае і розум, і сумленне чалавека. Падобная трактоўка «свабоды волі» даўно ўжо стала палітычным і ідэалагічным сродкам уздзеяння на людзей. Хто паспрабаваў у свой час адысці ад існаваўшых дагматаў, той у поўнай меры спазнаў рэпрэсіўнае ўздзеянне з боку такіх установаў, як ВАК СССР, Галоўліт СССР, Саюз пісьменнікаў і г. д. І гэта, напэўна, дробязь у параўнанні з тым, што перажылі навукоўцы і дзеячы культуры ў гады сталіншчыны.***

***Мабыць, па гэтай прычыне мы спаткаліся з такімі цяжкасцямі ў грамадскім развіцці, якія зведваем сёння. Але ж яны многаму і навучылі нас. Па крайняй меры, погляды А. Багданава і другіх філосафаў і сацыёлагаў, якія сцвярджалі ў свой час, што грамадская бытнасць людзей з неабходнасцю ўключае ў сябе дзейнасць свядомасці, не здаюцца сёння ўжо такой недарэчнасцю ці ўступкай ідэалізму. Мы яскрава пачынаем сабе ўяўляць, што выключэнне культуры з асноўных відаў дзейнасці: эканамічнай, працоўнай, педагагічнай, навуковай і г. д. на практыцы абярнулася для грамадства трагедыяй, загубленымі лёсамі многіх дзеячаў культуры і навукі, якія па прымусу з боку дзяржавы змушаны былі пакінуць краіну.***

**Аляксандр ЛЯЎКО,**
**доктар сацыялагічных навук**

# СКАРБ І НАДЗЕЯ

Выключэнне культуры, і перш за ўсё духоўнай, з ліку прадуктыўнай дзейнасці, абвяшчэнне яе ніяк не звязанай з вытворчасцю і нашым эканамічным дабрабытам, але вымагаючай пастаянных фінансавых сродкаў, прывяло да многіх існуючых сацыяльных парадоксаў нашага грамадства. Сёння ўжо нікога не здзіўляе, што малакваліфікаваны рабочы часта зарабляе больш, чым прафесар, вядомы дзеяч культуры ці навукі, не гаворачы ўжо пра настаўнікаў, урачоў, бібліятэкараў, загадчыкаў клубаў. Не здзіўляе і тое, што больш за 70 гадоў, шукаючы адпаведны эканамічны механізм грамадства, мы да гэтага часу так і не змаглі яго знайсці. А можа, ён адсутнічае ўвогуле і ўся справа ў культуры кожнага грамадзяніна, падняць якую людзям, што знаходзяцца за рысай бядняцкага сацыяльнага стану, немагчыма? І ці не па гэтай прычыне мы ўсё больш папаўняем сёння інтэлігенцыю заходне-еўрапейскіх краін сваімі лепшымі мастакамі, музыкантамі, навукоўцамі, танцоўшчыкамі, тэатральнымі дзеячамі?

Тое, што ва ўсім цывілізаваным свеце цэніцца больш за ўсё і перш за ўсё, у нас аказалася непатрэбным грамадству. Інтэлігенцыя на працягу дзесяцігоддзяў разглядалася дзяржавай не толькі як сацыяльная праслойка, але і як нейкі баласт, які дорага ёй каштуе і кладзецца цяжкім грузам на плечы працоўных. Да таго ж яна прыносіць многа турбот, парушаючы час ад часу спакойнае жыццё дзяржаўных чыноўнікаў. Гора ад розуму было характэрным не толькі для часоў Грыбаедава і Гогаля. Барацьба з ім у апошнія дзесяцігоддзі вялася пад сцягам за чысціню ідэалагічных догм, якія аказаліся вышэй самога іх сэнсу. Партыйныя і другія кіраўнікі так палохаліся ідэалізму, што ўся духоўная дзейнасць фактычна падпадала пад разрад падазроных. І хаця ніхто не сумняваўся, што веды, кваліфікацыя і культура асобы неабходны для эканамічнага развіцця, яны ніколі не лічыліся галоўным фактарам грамадскага развіцця. Думаць так азначала парваць з матэрыялістычнай традыцыяй.

Традыцыя, паводле якой сфера эканамічнага жыцця аддзялялася ад духоўнай культуры грамадства, мае доўгую гісторыю. Грамадскае развіццё прадстаўлялася як асабліва аб'ектыўны працэс, не звязаны з патрэбамі і інтарэсамі людзей, іх свядомай дзейнасцю, падпарадкаваны толькі логіцы эканамічных законаў, якія ўяўляліся ўсеагульнымі і неабходнымі з жорсткай дэтэрмінацыяй. Чалавек выступаў тут толькі як простая функцыя вытворчасці, для выканання якой і патрэбны былі адпаведныя прафесійныя веды. Сацыяльныя ролі маюць нібыта бязлікі характар, і чым у меншай меры пры іх выкананні праяўляецца самадзейнасць чалавека, тым лепш для сістэмы ў цэлым. Лічылася, што грамадства развіваецца само па сабе як самаразвіваючая сістэма, таму ў лепшым выпадку чалавек можа пазнаць законы гэтага развіцця і свядома кіравацца імі ў практычнай дзейнасці.

Адкуль такая недарэчная перакананасць? Адказваючы на гэтае пытанне, адны бачаць усе сённяшнія заганы грамадскага развіцця ў самім марксізме, дыялектыка-матэрыялістычным падыходзе да рашэння праблемы. Другія — у яго вульгарнай інтэрпрэтацыі ў Расіі бальшавікамі і іх заганнай палітыцы. Трэція лічаць, што вінавата тут імперскае мысленне, экстэнсіўная псіхалогія, скіраваная на знешняе развіццё дзяржаўнай сістэмы, дзе чалавек застаўся толькі функцыяй гэтай сістэмы, карані якіх патрэбна шукаць у самім гістарычным развіцці Расіі, яе азіяцкіх традыцыях. Нейкая доля праўды, магчыма, маецца ў кожным з гэтых разважанняў, але, на мой погляд, галоўнай прычынай з'явілася тая сітуацыя, якая існавала ў Заходняй Еўропе і ЗША ў пачатку XX стагоддзя. Менавіта ў гэты час тут у тэорыі і на практыцы ўладарыў нарматыўна-рацыянальны падыход да арганізацыі грамадскага жыцця, у якім галоўная роля адводзілася бюракратыі. Лічылася, што поспехі грамадства цалкам залежаць ад сацыяльнага інстытута кіравання. У прамысловасці і сістэме адукацыі скрозь распаўсюджваўся тэйларызм з яго арыентацыяй на «навуковую арганізацыю працы». У грамадскіх навуках набіралі моц эўгенічныя погляды на чалавека, якія зводзілі да нуля ролю культуры ў яго развіцці. Інтэлектуальныя і іншыя здольнасці асобы разглядаліся толькі праз прызму прыродных задаткаў, якія можна дакладна вымяраць з дапамогай псіхалагічных тэстаў і на гэтай падставе вырашаць, якія грамадскія функцыі яна можа выконваць. У палітыцы галоўным фактарам грамадскага развіцця лічылася індустрыялізацыя, тэхнічны прагрэс.

Вядома, першыя рускія бальшавікі і другія марксісты, якія доўгі час пражывалі ў эміграцыі, успрымалі і засвойвалі дыялектычны матэрыялізм праз прызму апошніх навуковых дасягненняў Заходняй Еўропы. Таму новае грамадства будавалася па заходне-еўрапейскіх мерках, якія да сярэдзіны 30-ых гадоў істотна змяніліся. К гэтаму часу махавік гісторыі ўжо быў раскручаны, а з Заходняй Еўропай існаваў надзейны «санітарны кардон». Мы ішлі сваім шляхам, але па чужым маршруце.

Доказаў таму — дастаткова. Гэта і адкрытыя выступленні А. В. Луначарскага і іншых дзеячаў таго часу супраць засілля «амерыканізму». Гэта і тэорыя і практыка Цэнтральнага інстытута працы, яго намаганні па распаўсюджванні ў краіне тэйларызму. «Якая культура патрэбна рабоча-сялянскай дзяржаве?» — ставіў пытанне тагачасны дырэктар Цэнтральнага інстытута працы А. В. Гасцеў. І сам жа адказваў: «Нам патрэбна культура, якую можна выказаць адзіным словам — спрыт». У гэтым жа напрамку вызначалася і палітыка індустрыялізацыі. У 20-ыя гады М. Бярдзяеў, П. Сарокін, М. Лоскі, Ф. Сцяпун, Л. Карсавін і другія дзеячы навукі і культуры Расіі ў аднабаковай арыентацыі толькі на тэхнічны і арганізацыйны бок вытворчасці і недаацэнцы ролі духоўнай культуры бачылі непазбежнае развіццё бюракратыі, спад прыватнай ініцыятывы, скасаванне правоў уласнікаў, нівеліраванне асобы, паступовае духоўнае абнішчэнне, падзенне нораваў і агрубленне пачуццяў. У такіх умовах, лічылі яны, свабода асобы ўжо непатрэбна, ёй тут няма чаго тварыць, а ідэалы і куміры вытворчасці, тэхнікі, дзяржавы і калектыву ставяцца вышэй каштоўнасцей чалавечай асобы. Толькі ўсе намаганні былі дарэмны.

Не даводзіцца здзіўляцца сучасным разважанням аб пераважнай ролі ў развіцці нашай культуры ідэалізму, які з цягам часу зліўся б з матэрыяльнай рэальнасцю. На мой погляд, было б недарэчна ўсю праблему культурнага адраджэння бачыць толькі ў змене знаку ці напрамку ідэалагічных поглядаў, змяніўшы матэрыялізм — на ідэалізм, атэізм — на рэлігію, «законы» сацыяльнай сістэмы — на пераважнае развіццё індывідуальнасці асобы і, замест пошуку сваіх культурных асаблівасцей, вызначэння свайго ўласнага нацыянальнага шляху, зноў звяртацца да вопыту Заходняй Еўропы і ЗША. Усё гэта ўжо было. Час ужо зразумець, што духоўная культура існуе на толькі на ўзроўні грамадскай свядомасці, як нейкая сама па сабе існуючая рэальнасць, але і на ўзроўні кожнай асобы чалавека, у якой яна знаходзіць свае матэрыяльныя пачаткі развіцця. Жыццё чалавека толькі духоўным уздзеяннем не вызначаецца. Яго патрэбы пачынаюцца не з эстэтычных, а з самых што ні ёсць жывёльных ці фізіялагічных. Ды і розум і пачуцці яго з'яўляюцца перш за ўсё формай адваротнай /рацыянальнай і эмацыянальнай/ сувязі паміж гэтымі патрэбамі і ўмовамі іх задавальнення.

Другая рэч, што развіццё розуму і пачуццяў чалавека становіцца асновай развіцця яго культуры, а гэта значыць прынцыповага змянення ўсіх яго фізіялагічных патрэб, ператварэння іх у сацыяльна-культурныя патрэбы. Патрэба ў ежы, адзенні, даху над галавой у спалучэнні з гэтай духоўнасцю даюць нам нацыянальную кухню, архітэктуру, моду, эстэтычныя густы і г. д. Духоўнае развіццё змяняе саму прыроду чалавека, робіць яе сацыяльнай. І тут я ніяк не магу пагадзіцца з поглядамі, у адпаведнасці з якімі чалавек — нязменны, і віна бальшавікоў у тым, што яны ігнаравалі гэтую атрыбутыўную яго прыкмету — канцэнтрат духоўнасці, і спрабавалі растварыць яго ў сацыяльнасці, хаця такія спробы і сапраўды былі. Без святла духоўнага немагчыма жыць, але святло духоўнасці нельга адрываць ад самога ладу жыцця, які вызначаецца прыроднымі, кліматычнымі, сацыяльнымі, культурнымі і іншымі асаблівасцямі. Менавіта яны былі першапрычынай прывычак, норм, сімвалаў, рытуалаў, эстэтычных густаў і моўных асаблівасцей.

Нацыянальная культура на ўзроўні асобага чалавека ёсць пэўны ўнутраны стрыжань асобы. Адносіны паміж людзьмі вызначаюць асноўныя нацыянальныя рысы характару людзей. Калі англічан вызначае іх самастойнасць, немцаў — рацыяналізм, амерыканцаў — прагматызм, то беларусаў — іх талерантнасць. Па матывах дзейнасці людзей, іх патрэбах, здольнасцях мы можам беспамылкова вызначыць тыя сацыяльна-культурныя ўмовы іх развіцця, якія тут адлюстроўваюцца. І калі ўзяць за аснову тыпалогіі асноўных рэгіёнаў Беларусі саму асобу чалавека, сацыяльна-культурныя і эканамічныя абставіны яе развіцця, то можна весці не агульную размову аб беларускім менталітэце, а строга вызначыць рэгіянальныя асаблівасці беларускай культуры.

Праведзеныя Нацыянальным інстытутам адукацыі сацыялагічныя даследаванні ў гэтым напрамку дазваляюць сцвярджаць, што культура заходняй і цэнтральнай Беларусі, культура Палесся істотна адрозніваюцца. Ва ўсходнім і цэнтральным рэгіёнах рэспублікі культурнае развіццё асобы сапраўды вызначаецца існуючымі тут эканамічнымі адносінамі. У рэгіёне Беларускага Палесся — сямейнымі і другімі традыцыямі, карані якіх узыходзяць да стараславянскай культуры. У заходняй Беларусі культура больш выступае ў выглядзе тых ці іншых духоўных каштоўнасцей і ў параўнанні з другімі рэгіёнамі мае не знешні, а ўнутраны характар. Адрозненне, напрыклад, паміж вучнямі ў гэтых рэгіёнах праяўляецца бадай што ва ўсім: у выбары асноўных напрамкаў будучай працоўнай дзейнасці, разуменні яе каштоўнасці для сваёй жыццядзейнасці і развіцця асобы, матывах выбару жыццёвага шляху, разуменні меры адукацыі, яе дастатковасці для жыцця ў даных умовах, жадаемых формах гэтай адукацыі, уменнях і навыках, якасцях асобы, структуры працоўнага і вольнага часу і г. д. Таму для культурнага развіцця і выхавання моладзі недастаткова арыентавацца толькі на агульначалавечыя і агульнанацыянальныя каштоўнасці. Якое ж гэта выхаванне, калі мы нават не ўлічваем, што любоў да працы і згуртаванасць, як свае асабістыя якасці і характарыстыкі насельніцтва сваёй тэрыторыі, сярод вучняў Брэсцкай вобласці назвалі 63,1 і 41,2 %, сярод вучняў Магілёўскай вобласці — адпаведна 27,8 і 16,9 %, сярод вучняў Мінска — 28,5 і 17,7 %. Таму свой вольны і працоўны час вучні тут выкарыстоўваюць па-рознаму. Больш 50% старшакласнікаў Віцебскай вобласці не кантралююць свой вольны час, а ў Брэсцкай вобласці такіх крыху больш за трэць. Адукаванасць насельніцтва як высокая ацэньваецца ў Мінску 42,2 % вучняў, у Магілёўскай вобласці — 21,5 %.

На жаль, дырэктыўная педагогіка ў нас настолькі ўкаранілася, што павярнуць яе да культурнага развіцця асобы вельмі цяжка. Забараніць, асудзіць, падвергнуць дысцыплінарнаму спагнанню, паставіць на кантроль ці на ўлік у міліцыі, аказваецца, і прасцей, і прывычней, чым карпатліва фарміраваць самасвядомасць асобы на аснове далучэння яе да тых ці іншых культурных каштоўнасцей...

Для эканамічнага і сацыяльна-культурнага развіцця грамадства патрэбна перш за ўсё апераджальнае духоўнае развіццё асобы. І як бы мы ні ўспрымалі гэта з погляду тых ці іншых ідэалагічных уяўленняў ці палітычных праграм, аб'ектыўная сутнасць справы не мяняецца. А гэта значыць, што патрэбен зусім другі падыход не толькі ў разуменні асноўных заканамернасцей грамадскага развіцця, але і вызначэнні сацыяльна-эканамічнай палітыкі. Крытэрыі тут павінны быць зусім іншыя, чым існавалі да гэтага часу. Асноўныя рэзервы сацыяльна-эканамічнага жыцця наша рэспубліка мае толькі ў развіцці культуры, навукі, адукацыі, усяго таго, што духоўна ўзбагачае асобу кожнага чалавека. Яна не можа пахваліцца ні сваімі прыроднымі выкапнямі, ні працоўнымі рэсурсамі.

На жаль, такі падыход зусім не выкарыстоўваецца на практыцы. Асноўныя напрамкі грамадскага развіцця сёння па традыцыі вызначаюцца надзвычай проста. За аснову бяруцца патрэбы вытворчасці. Школа і адукацыя ўвогуле разглядаюцца не

*(Працяг на стар. 12)*

***Даведка пра аўтара:*** *вядучы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага Інстытута Адукцыі; спецыяліст у галіне сацыялогіі і культуры, адукацыі і навукі. У 1990 г. у Прыбалтыйскім рэгіянальным спецыялізаваным савеце абараніў доктарскую дысертацыю па тэме «Патрэбы асобы ў грамадскім развіцці», але яна не была прызнана ВАК СССР. У 1992 годзе абараніў другую доктарскую дысертацыю на тэму: «Сацыяльна-культурная сутнасць адукацыі».*

**Алесь ЯСКЕВІЧ,**
**вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Я.Купалы, доктар філалагічных навук**

# ПРАВАПІС:

## ВЯРТАННЕ ЦІ ЎСЁ Ж УДАСКАНАЛЕННЕ

ПЭЎНАГА самастойнага разгляду ў асіміляцыйных працэсах патрабуе праблема якання. Хоць на нашых абмеркаваннях у правапіснай камісіі ТБМ асіміляцыйнае яканне прызнана з'явай менш характэрнай, тым не менш, мяркуючы па сённяшняй газетна-часопіснай моватворчасці, яго распаўсюджанне перасягнула ўсялякія цвярозыя межы. Не вельмі ўспрымаюцца гэтыя новаформы: «бязадмоўна», «бяскарысна», «бяспадстаўна», «бяссаромна», «няшматлікі», «нячакана», «нятактоўна» і да т.п.

Урэшце, я за тое, каб гэтую ўсё ж характэрную асіміляцыйную рысу беларускай мовы распаўсюдзіць на іншыя магчымыя выпадкі нацыянальнай лексікі, калі толькі ёю не зацямняецца сэнсавы бок слова, не парушаецца мілагучнасць яго гукавога малюнка. Хоць з ёю, як і ў выпадку са скразным аканнем, мы і губляем многае — істотна звужаем спектр галосных у нашай мове.

Але ж у прапанаваным рэфарматарамі франтальным перанясенні гэтай асіміляцыі ледзь не на ўсю запазычаную лексіку замежнае слова цалкам пазбаўляецца яго характэрнага каларыту, робіцца не надта эўфанічным, часам сэнсава размытым. Законы фанетыкі і мілагучнасці замежнага слова ўсё ж іншыя, вось адгадка, чаму не лепшым чынам успрымаюцца і наўрад ці прыжывуцца формы: лягенда, мядаль, сязон, гяктар, кянтаўр, кянгуру, Хярсон, Гярманія.

І дазвольце зусім не пагадзіцца з падпарадкаваннем яканню злучнікаў і асабліва часціцы «не». Гэта ж асобныя, хай сабе і службовыя часціны мовы. І перанос на іх асіміляцыі з асноўнага слова стварае праблему клітычнага націску, неўласцівага беларускай мове, змушае прачытваць іх злітнымі з асноўным словам, што стварае мноства новых граматыка-сінтаксічных праблем. Асабліва няможная асіміляцыя па яканні для часціцы «не», якая ў выпадку асімілявання арфаэпічна далучаецца да слова, што пры яе раздзельным напісанні стварае цяжкасці для навучання. У большасці ж выпадкаў /пры дзеяслоўных формах і інш./ часціца «не» не можа падпадаць пад асіміляцыю таму, што адмаўленне адносіцца не да паасобнага слова, а да ўсяго сказа, невыпадкова ў многіх мовах яно адасабляецца ў канец фразы.

Загіпнатызаваныя міфам аб фанетычна-вымаўляльным характары нашага правапісу, мы чамусьці зусім забыліся, што арфаграфія па-сапраўднаму эфектыўная толькі поруч з арфаэпіяй. Гэта ўзаемадапаўняльныя адна другую галіны, што паасобку, пры неразвітасці адной з іх, існаваць не могуць. У нас жа арфаэпія закінута, маўляў, усё ўвабраў у сябе наш унікальны правапіс: як вымаўляецца, так і пішацца, хоць вядома, што правапіс без дасканала прадстаўленай арфаэпіі — правапіс неразвіты, гэта ўсяго толькі пачатковая яго ступень.

Дыялектыка ўзаемадзеяння тут простая. Калі за правапісную норму ўзяты прынцып «як вымаўляецца», то гэта значыць у нацыянальнай арфаграфіі замацавана вымаўляльная дыялектная форма нейкай адной, хай і найбольш характэрнай для нацыі гаворкі. Тут мы церпім па меншай меры дзве страты, ці, дакладней, два спрашчэнні.

Вядома, што дыялектнае вымаўленне дзеля эканоміі, якую дапускае размоўная дыялагавая сітуацыя вуснай гаворкі, спрашчае, асімілюе, акамадуе большасць пазіцый моўнага вакалізму. Да таго ж, як мы ўжо адзначылі, у вымаўляльным прынцыпе правапісу, хай сабе і класічна прадстаўленым цэнтральным дыялектам, не ўкладваюцца, не знаходзяць водгуку, удзелу ўсе іншыя гаворкі нацыі.

Абсурднасць чыста вымаўляльнага прынцыпу ў правапісе добра разумеў Якуб Колас: «Фанетычны прынцып — пісаць так, як вымаўляецца. Паступовае правядзенне гэтага прынцыпу зрабіла б непатрэбным і сам правапіс. Але правесці дакладна гэты прынцып нельга, бо той правапіс, які будзе фанетычным для аднаго дыялекту мовы, можа не быць фанетычным для другога дыялекту тае ж мовы. Датрымаць фанетычны прынцып да канца — немагчыма. Немагчыма гэта ўжо дзеля таго, што няма такой азбукі на свеце, каб можна б было дакладна перадаць на пісьме ўсе гукі нашай мовы».

Ён схільны быў вылучаць у беларускім правапісе, апрача фанетычнага, яшчэ этымалагічны прынцып, прынцып традыцыі, прынцып напісання чужаземных слоў і інш.

Значыць, правапіс у прынцыпе не можа будавацца паводле фанетычна-вымаўляльнай мадэлі, бо яго задача крышталізаваць, узбуйняць, ідэалізаваць агульнамоўныя рысы, каб у ім месціліся, знаходзілі сваё роднаснае, хоць і ідэалізаванае, усе нацыянальныя гаворкі. Толькі тады ён зможа ўзнімаць з дыялектнага стану, аранжыраваць, высакародзіць і саму арфаэпію. Невыпадкова сталая літаратурная мова мае сваёй мэтай выпрацоўку высокаўзорнага літаратурнага вымаўлення.

Пры гэтым заўважана, што розніца паміж напісаннем і вымаўленнем проста неабходна, артыстычнасці, высокага стылю, пародзістасці нацыянальнай мовы мы не дасягнем, слепа трымаючыся прынцыпу: як вымаўляецца, так і пішацца. У гэтым выпадку мы міжволі будзем сцягваць мову ў дыялектны стан, а не ўзвышаць да літаратурнай аранжыроўкі, ідэалізацыі. Таму ў арфаэпіі хай і застаецца, як вымаўляецца «ня буду», у паўночна-ўсходніх «ні буду», у палескіх і брэсцкіх гаворках «ны буду» ці яшчэ як, у правапісе ж павінна выразна фіксіравацца адмаўленне «не буду», не размытая акамадацыяй форма якога і павышае стылявы рэгістр выказвання.

Найбольш складаным у сённяшнім правапісе мне ўяўляецца пытанне асіміляцыі па мяккасці, хоць многім яно здаецца амаль ужо вырашаным.

Правільнае вырашэнне яго якраз залежыць ад сістэмнага бачання нашых моўных асаблівасцей і ў першую чаргу іх гістарычнай абумоўленасці, нарэшце, яскравага ўсведамлення, што ж уяўляе сабой гэтае змякчэнне у сваім першасным выглядзе, менавіта на ўзроўні артыкуляцыйнага моваўтваральнага працэсу, каб мы маглі яго дакладна ідэнтыфікаваць у перыядычнай структуры нацыянальнага алфавіта.

Памылкова асіміляцыю па змякчэнні сібілянтаў «з», «с», «ц» перад наступным мяккім атаясамліваюць з мілагучнасцю нашай мовы. На справе мілагучнасць — сістэмнае ўтварэнне, што падтрымліваецца кантрастам, фонам, характарам націску і іншымі моўнымі з'явамі.

Калі ж весці гаворку пра фіксацыю на пісьме нашай характэрнай асіміляцыйнай мяккасці, дык яе трэба разглядаць у сістэме з нашай зноў жа не менш характэрнай зацвярдзеласцю зычных. У выніку ўзрастання гукавой палярызацыі ў межах сістэмы мы маем павелічэнне амплітуды вагання ў гуказлучэнні, адсюль запаволенасць моўнага тэмпу, адсутнасць рэдукцыі, гэта значыць моцнае аканне ў ненаціскных пазіцыях і іншыя характэрнасці нашай мовы.

Прадмет асобнай гаворкі, ці павінны мы быць зацікаўлены ў павелічэнні супрацьпастаўлення па цвёрдасці-мяккасці, што кансервуе ўнутрымоўныя працэсы на ўтрыманні многіх старажытных рысаў. Ці адпавядае гэта сённяшняму прагрэсу моў, што з часу падзення адкрытага складу перафарміроўваюцца на аснове новага, больш эканомнага кансанантызму і эўфаніі, з пасткладовага прагрэсіруюць да патактавога тэмпу маўлення, сцвярджаюцца на сілавым націску і інш.

У дадзеным выпадку для правільнага вырашэння пытання асіміляцыйнае змякчэнне, што ўяўляе сабой толькі сістэмна ўскосную прыкмету эўфаніі, важна разглядаць як своеасаблівую пераходную /прыпадабняльную/ якасць гуку. Вядома, што ў навуковай літаратуры тэрмін змякчэнне — гэта нонсенс, умоўны знак для папулярнага наймення, што перавандравала са школьнага выкладання. Паводле фаналагічнай тэрміналогіі Е.Д.Паліванава, Р.О.Якабсана, С.Б.Бернштэйна, П.Векслера, нарэшце, Я.Ф.Карскага і Ф.М.Янкоўскага, з'ява гэта носіць назву палаталізацыі, своеасабліва напружанае, няўстойліва-прападобненае ўтварэнне гуку. Б.Тарашкевіч называў гэта прыпадабненне пад уплывам наступнага мяккага «сычачасцю» гуку, сённяшнія фанолагі карыстаюцца менш удалым тэрмінам «шапялявасць».

Асіміляцыйнае змякчэнне на пераходзе ад адкрытага складу зведалі многія мовы, для якіх характэрна апазіцыя па цвёрдасці-мяккасці. Яшчэ ў XIX ст. славянафіл К.С.Аксакаў, даволі аўтарытэтны па тым часе моваведа, супрацьпастаўленне цвёрдых і мяккіх зычных лічыў «эмблемай і вянком» гукавой сістэмы рускай мовы. У апошняй змякчэнне толькі выпадкова не замацавалася ў правапісе, магчыма, пад уплывам еўрапейскай філалагічнай культуры. На хвалі захаплення заходніцтвам В.К.Трэдзіякоўскі, К.М.Бацюшкаў, наадварот, бачылі ў гэтым рысу, чужую еўрапейскаму густу, якім залішняе змякчэнне, палаталізаванасць гуку ўспрымаецца з негатыўным адценнем, выкарыстоўваецца для ўтварэння ўніжальных слоў.

Пры выпрацоўцы майго асабістага погляду па гэтым пытанні не можа не ўплываць аўтарытэт Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі 1926 г., правапісная камісія якой у складзе С.Некрашэвіча, А.Багдановіча, Я.Лёсіка, В.Ластоўскага, П.Бузука, Я.Бялькевіча, У.Чаржынскага, К.Міцкевіча /Я.Коласа/, Я.Луцэвіча /Я.Купала ў прыватных гутарках вагаўся ў гэтым пытанні/ прыняла за норму наступнае правіла: «Перад мяккімі зычнымі і ётавымі галоснымі «я, е, ю, ё» пасля «з, с, ц» /што з «т»/ і «дз» «ь» не пішацца». З сённяшніх распрацовак па гэтым пытанні мне ў цэлым імпануе пазіцыя А.І.Падлужнага. Наш вядомы фанолаг, узяўшы за аснову рашэнні камісіі 1926 г., для аблягчэння правіла прапаноўвае абыходзіцца без мяккага знака і ў выключэннях этымалагічнага характару /пісменнік, Кузме, цмяны, ледзве, вазмі/ пры захаванні яго сэнсаваадрознай маркіроўкі ў аснове /пісьмо, Кузьма, цьма, ледзь і г.д./. Правіла б у такім выглядзе атрымала паслядоўную уніфікацыю.

На жаль, артыкул, напісаны паводле даклада на канферэнцыі па правапісе 1992 г., яму ніяк не выпадае змясціць у перыядычным друку. Што ж, калі сёння запанаваў аматарскі погляд і зусім ігнаруецца навуковае абгрунтаванне пытання.

І ўсё ж выпадкі ўмацавання нацыянальных рысаў не кожны год надараюцца, і таму я прытрымліваюся пазіцыі аб дапушчэнні асіміляцыі па мяккасці ў якасці правапіснай нормы. Пазней, калі гэтая асаблівасць адпрацуе на самасцвярджэнне айчыннай мовы, грамадскасць на больш сталым узроўні правапісу без цяжкасці зможа адмяніць гэтае правіла.

Але ўводзіць гэтае правіла давядзецца не ў фармулёўцы Б.Тарашкевіча ці нават яго паслядоўнікаў — Янкі Станкевіча ці Валянціны Пашкевіч. Правіла ў такім выглядзе нагадвае балота, у якім загразлі і не могуць выбрацца з памылак ніводнае з сённяшніх выданняў, якія паспрабавалі карыстацца ім.

І тут прычына не ў карэктарах, нават не ў распрацаванасці правіла, а ў неразуменні адценняў самой праблемы.

Уласна аб гэтым у свой час папярэджваў Якуб Колас: «Асобных назіранняў патрабуе ўсведамленне ўражання так званай мяккасці і цвёрдасці зычных. Справа ў тым, што хоць яшчэ ў час навучання па лемантары дзеці знаёмяцца з пастаноўкай мяккага знака, але ўсведамленне мяккасці гуку справа настолькі тонкая, што не толькі большасць навучальнікаў не разбіраюцца ў гэтым пытанні, узятым у яго злучнасці /сістэмнасці, як мы б сказалі сёння. — А.Я./, але нават і асобы, каторыя складаюць падручнікі, тут часам робяць памылкі».

Як пераконваемся, ацэнка прыпадобненай, гэта значыць няўстойлівай асіміляцыі і тым больш фіксацыі яе ў правапісе вымагае новых даследчых методык, менавіта разгляду словаўтварэння як працэсу, а самой лексічнай адзінкі як дынамічнага гукавога комплексу ў ім.

Падзялюся сваімі меркаваннямі па гэтым пытанні. Пры ўвядзенні мяккасці, на маю думку, патрэбна толькі пазіцыйнае яе пазначэнне. У дадзеным выпадку вельмі істотная толькі першая пазіцыя. Паводле навейшай акустычнай канцэпцыі — гэта пазіцыя прыступу, пазіцыя пробная. На ёй мы сапраўды прымерваемся, выбіраем асноўны тон, якім мы будзем прамаўляць слова.

Педагагічны эксперымент /паводле дадзеных В.К.Раманцэвіч/ паказвае, што калі не пазначыць змякчэнне ў пачатковай пазіцыі /с'мех, с'нег, с'певы/, то яно і не ўспрымаецца чалавекам, які змалку не выхоўваўся ў беларускамоўным асяроддзі.

На далейшым прасцягу слова, калі энергія прыступу ўвайшла ў свае берагі, узяты тон і само гукавое асяроддзе амаль беспамылкова падказваюць, як прамаўляць збег сібілянтаў. Нават з лепшай дакладнасцю, чым мы гэта рэгламентавалі б правілам. Магчыма, у пазіцыях шматскладовых слоў са шчыльным збегам зычных тэмп вымаўлення штосьці і не дазволіць як след змякчыць, але ж мы сапраўды не ведаем сілы змякчэння ў дадзеным выпадку. Так, у слове «шчаслівы» сібілянт у сярэдзіне памякчаюць мяккім знакам, але ці патрэбен ён тут, калі на складах прыступу са збегам фактычна двух зацвярдзелых зычных /афрыката/ зададзена якраз цвёрдае прамаўленне асноўнага тону. Пазначэнне ж мяккасці «с» у сярэдзіне прымушае вымаўляць «шчасьлівы», паводле ўкраінскай артыкуляцыйнае сістэмы.

Пазіцыйнае вызначэнне мяккасці толькі пры пробах асноўнага тону вызваліць нас ад нашпігоўвання слова мяккімі знакамі там, дзе трэба, а больш дзе не трэба. Правіла Б.Тарашкевіча і яго паслядоўнікаў — гэта пакуль што суцэльны транскрыптаваны запіс, які ён, збіраючыся ў будучым упарадкоўваць сваю арфаграфію, безумоўна, перагледзеў бы.

Ну ці ж не недарэчнасць гэта — пазначаць асіміляцыю ў пазіцыях падвоеных зычных /насеньне, з'мяненьне, нават здарэньне/, калі папярэдняй, асабліва наступнай мяккасцю і самім ужо разбегам асноўнага тону ў слове змякчэнне, як нельга лепш, прадвызначана. Дадатковае ж пазначэнне яго на пісьме тут не бяскрыўднае, гэта не проста марнатраўства моўных сродкаў. Мне невыпадкова давялося свае прапановы папярэдзіць тэарэтычнымі выкладамі. Вось яскравы прыклад той акамадацыі, размывання гукаў, на якую нам падказваюць лінгвістычныя аўтарытэты збоку. Ці ж не адчуваецца на слых, што пры напісанні з мяккім знакам «насеньня», «цярпеньня», «галашэньня» «н» размываецца ў хвалю, належным чынам не фіксіруецца як фанемаадрозная адзінка.

Калі ж мы ва ўсіх, апрача пачатковай, пазіцыях даверымся пачуццю асноўнага тону, з якім прамаўляецца дадзенае слова, яно згодна з нашым унутраным слыхам не дазволіць нам ні пісаць, ні вымаўляць «дарвінізьме», «камунізьме», «матэрыялізьме» /ёсць і такія прапановы/. Скрытая граматыка падкажа нам, што запазычанні, нават адаптаваныя, жывуць па сваіх трохі іншых законах.

Зноў жа пытанне — як пазначаць гэтую пазіцыйную мяккасць на пісьме. Ва ўсякім выпадку — толькі не ерам /ь/. Нам мог бы тут прыдацца вопыт К.Каганца, які ўважліва вывучаў славянскую, лацінскую, арабскую і іншыя алфавітныя сістэмы, шукаючы пры-

*(Заканчэнне. Пачатак у N 21)*

датныя для ідэнтыфікацыі беларускіх гукаў знакі. У дадзеным артыкуле няма магчымасці пагаварыць шырэй пра наданне ім своеасаблівых значэнняў славянскім літарам, е, ѣ, ъ, ω і ўвядзенне новых ε, ʋ, γ у прапанаваны ім алфавіт. Адораны незвычайным талентам самавук адчуваў усю важнасць паўнаты нацыянальнай алфавітнай сістэмы і звязанага з ёй перыядызму, што пропуск, недахоп у ім патрэбных літар старажытнай алфавітнай шкалы будзе скоўваць мову на гукавыя адценні, патэнцыяльна аслабіць яе энергію.

З прапанаваных ім знакаў гастравы /'/, кароткасці /˘/ мы б маглі выкарыстаць яго знак мяккасці /ʳ/.

У такім выпадку сібілянт, пазначаны знакам /'/, носьбітам мовы будзе ўспрымацца як толькі пазіцыйнае прыпадабненне, «сычачасць» гуку, зрух «с» у бок «ш», «з» адпаведна да «с», «ц» — у бок спецыфічна беларускага афрыката. Трэба мець на ўвазе, што палаталізацыя сібілянтаў — пазіцыя няўстойлівая, сапраўды толькі пазіцыйнае прыпадабненне. Выкарыстанне мяккага знака для пазначэння палаталізацыі — гэта пазначэнне залішне моцнае, яно можа ў гаворках, якім невядома «сычачасць», замацаваць такое вымаўленне як «сінег», «сівет». Я зусім не ўтрырую сітуацыю. Гэта дадзеныя спецыяльных даследаванняў. З сучаснага пункту погляду пры палаталізацыі на зычны як бы накладваецца галосны /і/.

Да таго ж, ідучы за Б.Тарашкевічам, за яго, па сутнасці, яшчэ пробным вопытам, неабдумна злоўжываючы змякчэннем як нацыянальнай акрасай, мы дасягаем часам адваротнага. Так, распаўсюджванне палаталізацыі на злучнікі «зь», «безь», «цераз» /згодзен, што ў вусным дыялектным маўленні яны сустракаюцца/ мы, не заўважаючы, зрушваем беларускую характэрную звонкасць у бок рускага аглушэння, прамаўляецца ж не «зь», а глухое «с».

Сённяшняе рэфарматарства якоесьці надзіва безагляднае — абы змяніць, не зважаючы на вынікі. Так, побач з асіміляцыйным змякчэннем сібілянтаў прапануецца правесці шэраг пацвярдзенняў, пераважна ў сферы запазычанай лексікі: 1/ «е» на «э» — пэньсія, пэрыяд, праспэкт, пэрац, бэнзін, музэй, газэта, Амэрыка; 2/ «і» на «ы» — сыстэма, унівэрсытэт, апазыцыя, сынагога, азымут; 3/ «ю» на «у» — этуд, нактурн, бардур. Затое суфікс «ум», з яго трывалым тэрміналагічным значэннем, наадварот, перайначваецца: кансіліюм, радыюс, тады, відаць, будзе і генералісімюс.

Пра небяспеку далейшага нарошчвання палерызацыі па цвёрдасці-мяккасці мы ўжо гаварылі, з пункту погляду сучасных моўных тэндэнцый апошняя павінна адназначна ацэньвацца як з'ява рэгрэсіўная.

Што ж датычыцца ўдасканалення беларускага кансанантызму, гэта значыць адэкватнага адлюстравання на пісьме сістэмы зычных гукаў у іх сучаснай збегаўшчыльненасці ў мове, то сёння такога напрапанавана, што ніякай ужо граматычнай логіцы не падпарадкоўваецца.

Віны Б.Тарашкевіча тут няма, фанетычна-вымаўляльнага прынцыпу ён прытрымліваўся толькі адносна галосных, у правапісе ж зычных яго хутчэй можна назваць абаронцам граматычнага пачатку.

Пад выглядам, што так вымаўляецца, прапаноўваюць пісаць «падпішчык», «вошчык», «пяшчаны» — маўляў, прыжыліся ж «вашчына», «пяшчота» і іншыя мадэлі вуснай мовы.Бясспрэчна, з дыялектнай мовы час ад часу будуць узнімацца ў літаратурную словы з мадэлямі вуснага маўлення і прапісвацца ў ёй — толькі пры асабліва ўдалай сваёй эўфаніі. Агульнае ж правіла для пісьмовай мовы — захаванне карнявога сэнсаадрознага /этымалагічнага/ канчатку на збегу з флексіяй, каб не ўносіць элементу двухсэнсоўнасці ў правапіс. Сапраўды, «падпішчык» — гэта слова ад «падпіскі» ці нейкага там «пішчыка», або хто пазнае ў напісанні «вошчык» корань «воз», а не «вашчыну», скажам.

Не могуць выклікаць асаблівай зацікаўленасці прапановы пісаць паводле вымаўлення «лёччык», «смяесся», «імчыся», у якіх хоць яшчэ ўгадваецца этымалогія, але надта ўжо патыхае дыялектызмамі, небяспекай сцягвання літаратурнай мовы ў прастамоўе.

Ігнараванне прынцыпу этымалагічнай сэнсамарківанасці на канцы кораня прыводзіць да зацямнення ці ўвогуле страты сэнсу ў рэфармаванні напісання: «рыжскі» на «рыскі» /што тут у корані — «Рыга» ці «рыска»/, «андалускі», «валіскі», «сураскі» — разгадвай, ці гэта прыметнік ці штосьці іншае.

(Працяг на стар. 14)

З пошты "ЛіМа"

# СЛОВА АБ КАЛЕНДАРЫ-1993

У продаж паступіў Беларускі каляндар 1993 года /выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя», тыраж 25000 асобнікаў, рэдактар І.Хаўратовіч/. Выданне адрасавана ўсім, хто цікавіцца мінулым і сучасным. Гэта сапраўды энцыклапедыя даведак. Чаго тут толькі няма — звесткі з гісторыі, этнаграфіі і фальклору, літаратуры, культуры, астраноміі, архітэктуры, мастацтва... Тут прыкметы надвор'я, беларуская даўніна /кравецтва, шавецтва, пляценне, ганчарныя і шкляныя вырабы/, народны гумар, загадкі, прымаўкі, парады, песні — усяго не пералічыць! І ўсё гэта багата ілюстравана.

Але чытач павінен быць вельмі пільным і не ва ўсім спадзявацца на энцыклапедычнасць ведаў складальнікаў выдання. Хаця «Беларуская энцыклапедыя» — гэта адначасова выдавецтва і навуковая ўстанова, яе аўтарамі павінны быць вельмі дасведчаныя людзі.

У календары змешчаны звесткі аб пяці кнігах Бібліі Рускай Ф.Скарыны пражскага выдання 1518 года. Адразу кідаецца ў вочы недакладнасць імітацыі скарынаўскага пісьма. У адным толькі сказе «Зупольне выложеный на рускый язык доктором Францискомъ Скарининымъ сыном с Полоцка» чатыры памылкі /гл. 2 студзеня/. Словы з канцавымі зычнымі «язык», «доктором», «сыном» напісаны без літары «ъ» /языкъ, докторомъ, сыномъ/, а слова «Полоцка» без літары «ь» /Полоцька/. Прытым выраз «с Полоцька» ў адным выпадку даецца як «с Полоцка» /гл. 2 студзеня/, а ў другім «з Полоцька» /гл. 9 студзеня/. Выраз «изъ славного града» перадаецца то як «из славного града» /гл. 19 студзеня/, то як «изъ словнаго града» /гл. 10 жніўня/, а то, нарэшце, як «изъ славнаго града» /гл. 20 снежня/. Спрэчныя, на мой погляд, і подпісы пад гравюрамі на тытульных лістах згаданых кніг, якіх у Скарынавым выданні не было. Маю на ўвазе гравюру «Саламон і царыца Саўская» на тытульным лісце кнігі «Еклезіяст», гравюру «Благаславенне» на тытульным лісце кнігі «Премудросць Божья», ці гравюру «Асада Іерусаліма» на тытульным лісце 4-й кнігі «Царства».

Скажаце, якія дробязі. Ну не! Яны ствараюць навуковы імідж складальнікаў тэкстаў.

Таксама складаецца ўражанне адсутнасці папярэдняга рэцэнзавання гістарычнага матэрыялу. Ніяк не можа задаволіць звестка аб Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі БСДП як выяўляючай «інтарэсы дробнай буржуазіі» /гл. 5 лютага/. Старое мысленне. Не пашкодзіла б згадаць аб адраджэнні яе ў наш час. Альбо вось звестка аб Нясвіжскім замку /гл. 9 лютага/. Ну хіба да разбурэння і рабавання замка мелі дачыненне адны толькі шведы? Калі б гэта было так, то ў расейскіх сховішчах не было б бібліятэкі, архіва /метрыкі літоўскай/, твораў мастацтва і шмат чаго яшчэ з замка.

А чаго вартыя матэрыялы, якія тычацца Беларускай народнай рэспублікі /БНР/? /Гл. 19 лютага, 25 сакавіка./ Іх інакш, як фальсіфікацыяй, і не назавеш. Я толькі дадам, што адносна таго, ці распалася Рада БНР пасля вызвалення Беларусі ад нямецкіх акупантаў, раіў бы прачытаць артыкул Пятра Крачэўскага «Мандаты БНР», змешчаную ў часопісе «Спадчына» / N 1, 93 г./.

Трэба быць больш дакладнымі і ў адносінах да незаконна рэпрэсіраваных. Мала цяпер назваць прозвішчы і даты жыцця тых, што сталі ахвярамі рэпрэсій 1930-х гадоў. Трэба ўдакладніць з судовых спраў даты іх арышту і смерці, рэабілітацыі, таксама ўвесці ва ўжытак слова «расстраляны», а то «загінуў» /Ластоўскі/, «памёр» /Гарэцкі/ і г.д.

На першы погляд, дзіўна, што ў календары знайшлося месца і для Бэндэ Л.А. /1903—1961/, які «палітычна дыскрэдытаваў Я.Купалу, Я.Коласа, З.Бядулю, літаратурныя аб'яднанні «Узвышша» і «Полымя», абвінавачваў іх у буржуазным нацыяналізме, варожасці да савецкай улады і г.д. Але народ павінен ведаць не толькі аб ахвярах, але і аб іх катах, савецкіх антыгероях. Імі можна запоўніць не адну энцыклапедыю. Туды ж просіцца і сучасны пісьменнік В.Мыслівец з яго «Блявоцінай».

Так што, нягледзячы на заўвагі, Беларускі каляндар 1993 г. усё ж каштоўнае, патрэбнае выданне і яго складальнікам трэба выказаць вялікі дзякуй. Пакуль ён ёсць у продажы, раю хутчэй набыць не толькі для сябе, але і для сваіх родных і знаёмых, асабліва для тых, што жывуць па-за межамі Беларусі.

**Аляксандр КАРЫЗНА**

# АД ЛЮТАГА ДА ТРАЎНЯ

## З БЛАКНОТА КРЫТЫКА

1. Нейкі дзіўны саюз чалавек заключыў з Богам. Саюз уступак, прыстасаванняў сябе да атама цывілізацыі. Галоўнае — выжыць.

І з кожным годам ланцугом раўнадушнасці прыкоўвае сябе да зямлі. Ён бязвольны назіральнік усіх зямных колераў. А што гэта за колеры, варта толькі паглядзець навокал — і згадаеш у паэтычным радку.

Ва ўлоўліванні і адлюстраванні на паперы душэўнага болю дасягнуў дасканаласці... і абленаваўся. А што там далей, які космас хаваецца? Гэта яшчэ добра, калі да сарказму ёсць моц падняцца.

Яго вялікасць выпадак анестэзіруе лёсы. У якімсьці нерэальным і «зрушаным па фазе» свеце зліваюцца ў адно нацыянальныя вобразы. У спешцы намацваецца хворай душой выпадковая метафара, якая асацыіруецца з болем.

Паэзія ператвараецца ў від спорту — хто якое каленца арыгінальней выкіне. А спаборніцтвы ідуць пры паўпустых трыбунах.

Звязваючая нас у адно ніць пераціраецца.

2. А ў паэзіі нас звязвае душэўнае суперажыванне. Пачуццё, народжанае паэтычнай думкай, яркім агеньчыкам адлюстроўваецца ў душы чытача. Нярэдка думка вядзе дыялог напрамую без эстэтычнай недагаворанасці, абыходзячыся ў размове мінімумам мастацкіх сродкаў: метафар, параўнанняў, алегорый. У паэтычнай форме зацвярджаецца факт. Набліжаецца старасць. Але яшчэ адчуваецца той узрост, калі і назад і ўперад баішся глядзець.

3. А, можа, гэта вартасць нацыянальнай паэзіі? Адным позіркам ахапіць усю Беларусь, адным штрыхом — палёт, а каляровае ўспрыманне ўжо ў нашай падсвядомасці. І выводзіць лагічна-паэтычны вывад нацыянальнае адраджэнне.

Толькі даты паўтараюцца адны і тыя ж.

4. Лёгка і звонка ліецца медзь слоў у душу чалавека.

Дзэн-будысцкая філасофія вучыць: «Ісціна павінна быць перажытай, а не выкладзенай». Але жыццё адкусвае ад яе самы смачны кавалак. Ух, колькі ратоў з асалодай шапяляваць Ісціну!.

5. Паэзія, якая будуе вежу ці разбурае яе, навязвае правілы гульні мечанымі картамі. Пануючае сумненне выціснула на задворкі паэзіі **Радасць**.

6. Леанід Бежын заўважыў: «Эпоха XXI ст. будзе эпохай духоўнага рэалізму», — гэта значыць праўдзівага, я падкрэсліў бы, прыроднага адлюстравання душэўнага стану.

Свет, які ратуе нас, нягледзячы на нашы грахі, памяншае пякучасць болю.

Ці адчуваеш глыбіню болю, паэт? Ці ўлоўліваеш толькі настрой чытача?

7. Жыццё дапамагло вызначыць, што трэба чытачу. Але так мала ў ім, жыцці, эстэтыкі. Нам засталося ганарыцца толькі тым, што пасля дасталося.

Ці кожны паэт задумаўся хоць раз у жыцці аб этымалогіі слова «адраджэнне»? Чаго тут болей — канстатацыі ці мары, юнацтва ці сталасці?

8. Паэт — гэта хірург, які тонкім скальпелем-словам намацвае бунтуючыя клетачкі душы, якімі кіруе не ідэя, не эгацэнтрызм, а прырода.

Вясновая радасць прыроды перамагае ідэю, апранутую ў восень.

9. «А ў чым прырода вінаватая? І чаму маё раздражненне — духоўнае — павінна абражаць гэтую прыгажосць?» — зазначыў Сяргей Новік-Пяюн.

Павольна праплывае вечнае над людскімі перажываннямі, слязьмі.

Смехам аднаўляецца Гармонія.

Паэзія — гэта стан душы, узровень, ніжэй якога нельга апускацца.

Паэзія — гэта мастацтва праз жыццёвыя краты ўбачыць дэталь свабоды і па ёй аднавіць гармонію быцця.

**У кожным паэтычным слове — надзея.**
**Пачуў я сёння жаўрука,**
**Што песняй звонка заліваўся,**
**Прамень убачыў сонца я,**
**Што чула з неба усміхаўся.**

**Надзея ў сэрцы ажыла,**
**Што скончыцца маё цярпенне,**
**Вясна жаданая прыйшла,**
**І прыйдзе, пэўна, вызваленне...**

*/С.Новік-Пяюн/*

Многія сталыя паэты праз восень ідуць да вясны. Але восень нешта каштоўнае забірае. Ці можна без гэтага каштоўнага любоўю ўзняцца над рэчаіснасцю?

Мара — творца, а не бязвольны плывец па быццю.

**Шчаслівы будзе той заўсёды,**
**Вясну хто ў сэрцы захавае,**
**Душу хто маладую мае,**
**Шчаслівы будзе той заўсёды.**

10. Душа падуладна аднаму гаспадару — самому сабе. Нельга яе паланіць. Яна жаўруком пяе, заліваецца. Чакайце, Вясна ідзе!..

**Яўген КРЫЦКІ**

# Наш каляндар

60 гадоў польскаму пісьменніку, крытыку, доктару філалогіі **Збігневу ЖАКЕВІЧУ** спаўняецца 6 чэрвеня. Маленства правёў на Маладзечаншчыне і Смаргоншчыне. Шмат у якіх яго творах гучаць беларускія матывы. Зборнік жа эсэ «Людзі і краявіды» /1970/ з'явіўся ў выніку наведвання Беларусі, сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі.

□

60 гадоў з дня з'яўлення першага нумара **«Беларускай газеты»**, што была легальным неафіцыйным органам КПЗБ. Выходзіла ў Вільні на беларускай мове з 8 чэрвеня 1933 па 30 студзеня 1934 года. Змяшчала літаратурныя старонкі, друкаваліся творы П.Пестрака, А.Дубровіча, М.Васілька, П.Граніта, М.Явара і іншых. Па ініцыятыве «БГ» 10 снежня 1933 года прайшоў з'езд заходнебеларускіх пісьменнікаў, на якім быў створаны Літаратурны фронт сялянска-рабочых пісьменнікаў Заходняй Беларусі.

□

190 гадоў з дня нараджэння пісьменніка **Адольфа ЯНУШКЕВІЧА** спаўняецца 9 чэрвеня /1803—1857/. Нарадзіўся ў Нясвіжы. Удзельнік паўстання 1830—1831 гадоў.

□

125 гадоў з дня нараджэння **Уладзіслава ВЯРЫГІ** спаўняецца 9 чэрвеня /1868—1916/. Польскі філосаф і этнограф. Апублікаваў 25 беларускіх народных песень, запісаных у Лідскім павеце. У кнізе «Беларускія паданні» /Львоў, 1889/ змясціў 32 беларускія народныя казкі з Лідскага павета.

□

300 гадоў з дня выдання М.Вашчанкам /1693/ у Магілёўскай брацкай друкарні кнігі **«Акафісты і каноны»** спаўняецца 11 чэрвеня.

□

85 гадоў з дня нараджэння крытыка і літаратуразнаўцы **Сцяпана МАЙХРОВІЧА** спаўняецца 21 чэрвеня /1908—1981/. У друку выступаў з 1930 года. Аўтар манаграфій «Янка Лучына. Жыццё і творчасць» /1952/, «В.І.Дунін-Марцінкевіч» /1955/, «Максім Багдановіч. Жыццё і творчасць» /1958/, «Янка Брыль» /1961/, «Іван Шамякін» /1978/ і іншых, «Нарысаў беларускай літаратуры XIX стагоддзя» /1957/.

□

410 гадоў з дня выхаду /1583/ у друкарні Мамонічаў у Вільні **«Служэбніка»** спаўняецца 24 чэрвеня.

□

80 гадоў з дня заканчэння Янкам Купалам у Акопах паэмы **«Бандароўна»** спаўняецца 24 чэрвеня.

Мікола КУТАС нарадзіўся на Стаўбцоўшчыне. Скончыў Нясвіжскую школу-інтэрнат і Мінскі педінстытут імя Горкага. Працаваў дырэктарам школы. Зараз — на прафсаюзнай рабоце: старшыня прафкома калгаса «Абадоўцы» ў Вілейскім раёне.

Вершы друкаваліся ў розных перыядычных выданнях.

Мікола КУТАС



Счарнелы твар глядзіць з бажніцы,
Глядзіць сурова і маўчыць.

## СМУТАК

Хоць банальна, але зноў не спіцца,
А яшчэ далёка да відна.
Толькі спяць нямыя камяніцы,
Зайздрасць спіць, спакуса і мана.

Пасмуткую ж па гадах мінулых,
Па сваёй бязвоблачнай пары.
На балконе ластаўка заснула,
Воран гаспадарыць на́двары.

Пагарую светла і трывожна
Па той далі, дзе бацькоўскі дом.
Матчыныя фота асцярожна
Выгру ёю тканым ручніком.

Памалюся долу і нябёсам,
Вып'ю, закушу і закуру

І заплачу скрушна, безгалоса
На сваю світальную зару.

## СЁСТРАМ

Бываем дома ўсё часцей
І ўсё часцей з вялікім сумам...
Не пакідае мяне дума
Наконт запозненых гасцей.

Вось мы прыехалі сюды,
Калі сталы ўжо разабралі
І песні хорам адспявалі,
І разышліся хто куды.

А мы разгублена стаім
У апусцелай раптам хаце:
Няма любімай нашай маці
І свята тут ані прычым.

## Я ПАЧУЎ

Мама!
Паміраючы,
Ты нешта хацела мне сказаць,
Ды так і не змагла.
Найродная мая!
Я ўсё пачую тады,
Калі цябе ўжо не стала...

## СОН

Мне прыснілася, што памёр,
Што душа адляцела ад цела
І ўзляцела ажно да зор,
Ды застацца там не схацела.

І вярнулася на зямлю,
Уздыхнула і ціха сказала:
— Тут я ўсё непазбыўна люблю...
Засмяялася
І...
Прапала.

## ЖЫВУЦЬ СУСЕДЗЯМІ ВЯКІ

Жывуць суседзямі вякі
На гулкіх вуліцах Нясвіжа.
На досвітку у промнях рыжых
Уша люляе паплаўкі.

На астраўку ёсць замак тут —
Зусім не памяць Радзівілу —
У дойлідстве выказваў сілу
Народ, што не сцярпеў пакут.

Вось Будны бронзавы у скверы
З кагорты першадрукароў,
З тых, дужых, хто умеў паверыць,
Што край наш вечны, як любоў.

Здалося: Колас малады
Спяшаецца у семінарыю...
Жыві, Нясвіж. І праз гады
Квітней пад небам незахмараным.

□

Маўчыце, спідолы і ружжы.
Хай лес у стазвонах вятроў
З туману вытканы кужаль
Развешвае між ствалоў.

Ён справай сумленнай заняты,
І хопіць суніц для ўсіх,
І вылецяць птушаняты
З-за пазухаў дуплаў сівых.

Узнёсласць велічнай мілы,
З прывабнай красою наўсцяж
Лес верыць ва ўласныя сілы
І ў розум спагадлівы наш.

□

Споведзь першых пралесак
Прагна слухаю зноў...
Кветкі — мудрая вестка,
Што жыццё не губляе высноў.
Кожнай рысай яны даспадобы,
Ім сузор'ямі ззяць на мяжы...
Ці была б душа наша добрай
Без такіх перазоваў, скажы?!

## ТАЛЕРАНТНАСЦЬ НААДВАРОТ

У жыцці я
Серадняк, —
Добра гэтак,
Добра й так.

Не кажыце, што ілгу, —
Мецьму за абразу.
Я й пакрыўдзіцца магу,
Толькі не адразу.

□

Сысціся не на год, а на ўсе сто —
Такі наш выбар, ну і наша справа.
І нас на ўсіх абшарах аніхто
За гэта папракнуць не мае права.
Калі каханне нам даецца Богам,
Дык і няма над ім суда зямнога.

□

У кожнага любоў хоць і свая,
Ды ў нечым з іншай мае падабенства.
І кожны закаханы — мне сваяк,
І быццам мы знаёмы ад маленства.

Вітаю ўсіх, хто ўмее берагчы
Святы агонь на пуцявінах зорных.
Каханне не ўспрымае колер чорны,
Таму яно нам свеціць і ўначы.

бе, у Харкаве, у Мінску... Вось Карла Маркса ў Кіеве, Алма-Аце, Першамайская ў Львове, Камсамольская ў Кішынёве, Вільнюсе... Зразумеў?

Пстыр адзічэла развёў рукамі. Бурбахай паклаў перад ім чысты аркуш паперы.

— Парадак і аднолькавасць! Ва ўсіх гарадах вуліцы называюцца аднолькава... Ну? Няўжо і цяпер не даходзіць? Дзе ты жывеш?

Пстыр праглынуў сліну. Ідэя старшага лейтэнанта нават і блізка яму не падсвечвала.

— Ты жывеш у ваенным гарадку. Напішы рапарт і прапануй назваць нашы безыменныя прысады так, як названы вуліцы ва ўсіх іншых месцах. Які будзе выхаваўчы эфект! Няўжо наш ваенны гарадок горшы за гэтыя цывільныя шпакоўні?

Ён пачаў ліхаманкава чарціць на паперы план палка, казарм і праходаў між імі.

— Вось гэта галоўная — будзе, вядома, вуліца Леніна. Вось гэта — Карла Маркса... Вось гэтую, дзе прыбіральні, прапаную назваць Камунальнаю. А далей ты ўжо сам дадумвай...

Перад тым, як занесці старанна вычарчаны план ваеннага гарадка ў штаб, Пстыр паказаў яго Бурбахаю і спытаўся нясмела:

— Я тут некалькі вуліц назваў імёнамі Варашылава, Будзённага і Жданава, га? Як мяркуеш?

Бурбахай горача адобрыў Пстырову ініцыятыву.

Праз некалькі дзён яго выклікаў да сябе ўсё той жа падпалкоўнік Бурляка, доўга глядзеў на Пстыра грэбліва і здзіўлена, быццам той быў без штаноў, і нарэшце працадзіў са злосцю:

— Я прадбачу, капітан, што вы самі на пенсію не пойдзеце...

— Чаму? — не зразумеў Пстыр.

— Таму, што вас выклікае асобы аддзел упраўлення! Каб на тое была мая воля, я б вас туды адправіў пад канвоем...

Хоць капітан Пстыр і не першы раз у сваім жыцці апынуўся за жалезнымі дзвярыма асобага аддзела, але менавіта сюды ён трапіў упершыню. На магутным чорным стале ён убачыў спачатку старадаўні чарнільны прыбор з двух крышталёвых кавалкаў, пакрытых бронзавымі шаломамі, а за імі ўжо маёра, якога спачатку не пазнаў. Той начапіў на нос акуляры і старанна нешта пісаў, высунуўшы кончык языка. Пісаць, мусіць, не было ягоным улюбёным заняткам. Бывала, Пстыр сустракаў яго ў вясёлых кампаніях, дзе ён заўсёды выдаваў сябе гэткім «душа-хлопцам», але чамусьці ніколі не п'янеў.

Маёр не запрасіў капітана сесці і адразу ж узяў, як кажуць, быка за рогі:

— Я вам зараз задам тры пытанні. Адказваць хутка, без хітрыкаў.

Маёр вылез з-за стала і пагрозна наблізіўся да Пстыра, які стаяў смірна, задраўшы ўгару нос.

— Хто вам дазволіў маляваць план ваеннага аб'екта? Гэта р-раз! Можа, вы з каго, ці з чаго здзекуецеся? Д-два!

Тут перапалоханы капітан дазволіў сабе перапыніць маёра і нясмела ўставіць нешта накшталт ідэалагічна-выхаваўчага значэння, якое ён меў на ўвазе, складаючы план. Маёр жа прашыпеў проста ў яго безабаронны твар:

— Некаторыя блытаюць ідэалогію са сваімі дурнымі, малаграматнымі выдумкамі!

І нарэшце, калі капітан ужо быў ля дзвярэй, маёр раптам успомніў пра сваё трэцяе пытанне.

— Скажыце, — спытаў ён стомлена, быццам размова з Пстыром забрала ў яго апошнія сілы, — вы сапраўды такі дурны ці прыкідваецеся?

Пстыр горача заверыў маёра, што ні аб якім прыкідванні ён і ў сне не сніў, і думаць не думаў.

Па дарозе ў казарму капітана турбавала думка аб тым, як ён сустрэнецца з Шырбабаевым, і што скажа, і як пагладзіць таму ў вочы, быццам гэта не Бурбахай падстроіў яму вялікую подласць, а наадварот, ён, Пстыр, паставіў таго ў няёмкае становішча.

Але раздумваць яму часу не было. Наступнай раніцай пачалася так званая інспектарская праверка.

Незнаёмы маёр абыходзіў пастроеных Пстырам і Шырбабаевым салдат і настойліва пытаўся, ці ёсць у каго якія скаргі. Такіх праверак у жыцці Пстыра было мільён, ніколі яны нічым асаблівым не вызначаліся і рабілі іх звычайна, каб толькі паставіць «птушачку» ў плане выканання мерапрыемстваў. Так было заўсёды і, мусіць, таму Пстыр страціў пільнасць. Хто б мог падумаць!

У маёра быў поўны, жаўтаватага адцення твар — можа, ён хварэў на язву. Маёр раз-пораз маршыраваў уздоўж шарэнгі, нешта запісваў у кніжачку, аб нечым раіўся з Бурбахаем.

Потым ён раптам падцягнуўся, быццам перайшоў да галоўнай часткі свайго прадстаўлення, і апошні раз спытаў:

— Ну дык што? Няма пытанняў?

І ў той момант, калі Пстыр збіраўся ўжо з палёгкаю ўздыхнуць, сярод салдат пачулася: «Пул гірыфтэт...» І раз, і другі, і трэці пачуліся гэтыя словы.

Пстыр ведаў, што гэта азначае: «Браў грошы...»

Першым выйшаў крываногі таджык і сказаў маёру:

— Мінэ таварыш капітан дзесяць рублёў браў. Калі аддаваць будзем?

І з усіх бакоў загучала: «Мінэ тры рублі... Мінэ пяць...»

Капітан Пстыр мог пакляўсціся дзецьмі, што столькі ён не пазычаў, і што гэта ўсё «прадзелкі» Бурбахая, але ж не спрачацца было з салдатамі... Ён моўчкі, надзьмуўшыся, глядзеў на смуглыя твары, на якіх нельга было прачытаць ні злосці, ні дабрыні, большасць з іх наогул не разумела, што адбываецца навокал. Бедны Пстыр! Ён правёў далонню па ўспацелай шыі і азірнуўся на старшага лейтэнанта. Бурбахай нерухома танцаваў на месцы. Здавалася, ён вось-вось узляціць у паветра.

— Зайдзіце ў штаб! — голасам падпалкоўніка Бурлякі сказаў Пстыру правяраючы маёр. — Трэба падсумаваць вынікі праверкі...

Вынікі праверкі, а разам з імі і абмеркавання, на якім Пстыру слова не далі, былі такімі: пара таварышу капітану ісці на пенсію. Дзяржава яго не забудзе.

Вяртаючыся ў казарму, дзе ў Пстыра было яшчэ шмат спраў, ён завітаў на хвіліну ў санчасць да свайго сябрука, таксама капітана, Патраўнага, пасядзеў з ім колькі і крыху папырскаў на важную падзею, якая мелася адбыцца ў ягоным жыцці.

Потым ён сапхнуў з высокага ганка табурэт, той, што ў цёплае надвор'е дапамагаў капітанаваму азадку падпіраць дзверы казармы, і вырашыў напаследак пабачыць Бурбахая: спытаць, чым гэта ён, капітан Пстыр, не прыйшоўся смаркатаму старлею?

Пстыр патузаў зачыненыя дзверы канцылярыі і ўжо хацеў адысці, як раптам у пакоі нешта бухнула, быццам пачуліся крокі — можа, Бурбахай не хацеў адчыняць? «У-у, свалата, — падумаў капітан. — Зачыніўся, баіцца, мусіць...»

— Бурбахай, адчыні! — крыкнуў Пстыр. — Выходзь!...

Ён адступіў некалькі крокаў назад і з усяе сілы сваім стокілаграмовым целам урэзаўся ў дзверы. Тыя не паддаліся.

— Адчыняй! — зноў закрычаў капітан, наліваючыся злосцю. — Адчыняй, гад!

Ён зноў разагнаўся і зноў абрынуўся на дзверы, але ў той момант, калі ягонае плячо дакранулася да філёнкі, дзверы не вытрымалі, і Пстыр, нібы снарад, збіваючы сталы і крэслы, уляцеў у пакой і расцягнуўся на падлозе.

— Умрал, — сказаў нехта з таджыкаў, якія ўжо даўно назіралі за змаганнямі Пстыра з дзвярыма. — У-у, чушкана гуш, свінячае мяса...

І адразу ж у памяшканне, дзе не было ніякага Шырбабаева, увaліліся Сатараў, Ікрамаў, Усманаў, Шоеў, яшчэ нехта, і хацелі ўжо падхапіць таварыша капітана за рукі і ногі і аднесці ў ложак, як раптам ён з лаянкаю, адапхнуў таго, хто быў бліжэй, і закрычаў:

— А ну марш адсюль! Бач, чаго захацелі! А тры нечарговыя нарады не хочаце? Я вам пакажу!

Напалоханыя салдаты пахаваліся між сваімі двух'яруснымі ложкамі і адтуль выглядалі, як ускалмачаны Пстыр сігануў да выхаду і як у той момант ён ледзь не збіў з ног Шырбабаева, што ўваходзіў у казарму.

— Р-р-ёта, смірна! — завераішчаў днявальны. — Р-р-аў-ненне на таварыша капітана!

І тут усе ўбачылі, што замест абрыдлага старога капітана Пстыра ў роту прыйшоў малады капітан Шырбабаеў, які толькі што начапіў на залатыя пагоны па чацвёртай зорачцы.

Капітан Шырбабаеў крутнуўся на абцасе раз, і зорачка заззяла пад электрычнай лямпачкай. Крутнуўся другі — і ярчэй зорачак бліснулі яго д'ябальскія зубы. Потым ён адчыніў дзверы казармы і запрашальным рухам галавы паказаў вонкі.

Па доўгай алеі, якая так і засталася безыменнай і якая заварочвала каля прыбіральні на галоўны пляц палка, ішоў капітан Пстыр.

Па ягонай пакамечанай гімнасцёрцы, што моршчылася ззаду, нібы жабрацкая торба, па шырокіх несучасных галіфэ і па глыбока засунутых у кішэні руках нават самаму някемліваму воіну-будаўніку было зразумела, што гэта сыходзіць з часці апошні нефармал і дысідэнт, жывое парушэнне парадку і аднастайнасці ў ваенна-будаўнічых войсках. Гладкай дарогі яму і лёгкага ветру...

— У-у, адамі ганда, — сказаў Ікрамаў. — Такі дрэнны чалавек. Дзесяць рублёў не вярнуў...

Ён аддана паглядзеў у вочы капітану Шырбабаеву. Зусім іншая справа. Малады, прыгожы, поўны новых ідэй па ўмацаванні дысцыпліны, ён яшчэ ўсім пакажа... Каб толькі маёра ў нампаліты не прыслалі...

Цяпер ужо капітан Шырбабаеў раніцаю стаіць на высокім ганку і пакрыквае:

— На зар-радку! Хто там мар-рудзіць?! Станавіся!

І праз яго, як калісьці праз ягонага папярэдніка, нібы хвалі праз каменне, перакочваецца ад роты нумар адзін да роты нумар дзесяць:

— Тры нечарговыя нарады!...

Кажуць, капітан Шырбабаеў таксама спрабуе пісаць вершы, але знатакі сцвярджаюць, што яму да Пстыра далёка.

Нічога, не адразу і Масква будавалася. Прыйдзе час і ён набудзе майстэрства. Усяму свой час...

патрапіць у студыю імкліва пашыралася...

...У лісце, што быў дасланы ў «ЛіМ» з Віцебска, «Патаемны намер» хрысцілі «расейскім халопствам» і вельмі абураліся рускаю моваю, на якую раз-пораз пераходзіла Стэфанія Станюта. Газета «Добры вечар» падала ліст дэпутаткі гарсавета Галіны Вашчанкі, які засведчыў, што ў мастацтве разбіраюцца ўсе, хоць сабе і блытаючы вырашэнне эпізоду з задачамі выканаўцаў. Тон лістоў — суровы. Намер — які? Калі ідавочны — перадачу трэба закрыць. А калі — патаемны?

З намерам і я б хацела прыпыніцца — на агульных развагах. Чалавек на тэлебачанні наўрад ці можа, як падаюць падручнікі, іграць самога сябе. У бальшыні выпадкаў ён прапануе камеры так бы мовіць, стаўленне да самога сябе, бачанне сябе — вобраз,аблічча... Уяўнае, падгледжанае ў люстэрку, у кінастужцы, альбо зымправізаванае. І таму першае абвінавачванне — «у расейскім халопстве», як і ў неваладанні роднаю моваю, мусіць высоўвацца абачліва. Паважліва роднаю яна сталася... хіба для майго чатырохгадовага сына, для тысячы-другой /!/ малечы ды падлеткаў. Інтэлектуальныя гульні не тое каб не стасаваліся з ёю доўгі час — не практыкаваліся. Не надараліся. Дваццаць гадоў таму беларускага і беларускамоўнага атачэння ў Менску не было /пра вольнасць духу гаворкі няма й цяпер/. Стаўленне ж сённяшніх вядучых акцёраў прыпала менавіта на тую часіну. Я таксама /мне трыццаць два/ заспела яе. Несвабоднае валоданне моваю не лічылася тады дрэнным тонам у тэатральным асяродку, як нікога не абражала і маскоўскае маўленне народнага артыста БССР на нацыянальнай сцэне. Але акцёрскі густ усё яшчэ дапускае памылкі, агаворкі й няўцямны сэнс: мова толькі-толькі набывае паважлівае стаўленне як перадумова прафесійнасці! Ды мова, зрэшты, не адна стварае вобраз акцёра на тэлебачанні...

Патаемныя намеры перадачы ўбачыліся мне такімі: утварэнне раскутай, распрыгоненай атмасферы для грамадавання, для лёгкага творчага дыхання, нязмушанасці, адмысловае вынаходлівасці, вяртанне артыста у гульню, зварачэнне да артыстызму... Намеры-звышзадачы пераўзышлі самую мастацкую ідэю перадачы! Менавіта таму ідэя засталася... няспраўджанаю. А формы яе ўвасаблення пачалі пакрысе назаляць. Мо намер стваральнікаў перадачы якраз меў на ўвазе своеасаблівае /па-добраму!/ ацэньванне акцёрскіх здольнасцяў? Перадусім — у вачах калег? Або магчымы паказ перад камерай — як заяўку на ролю? Але не забудземся: перадача — тэлевізійная, прызначаная для самых розных вачэй, ад крывога да крытычнага. Клубныя акцёрскія міжсабоі, вынесеныя ў пазапрафесійны асяродак, вымагаюць ад удзельнікаў жорсткай самаацэнкі. Самаацэнка ж часам надта розніцца ад ацэнкі калег. І я рызыкну заўважыць, што перадачы дужа не стае ацэначнага роду тэатральнае звады, вытанчанай інтрыгі ў інтрызе, прадугледжанай і сцэнарыем, і паводзінамі вядучага. Бракуе таго няўгледнага «падводнага каменя», таго «каменьчыка за пазухаю», які пасняхова мог бы перакідацца з тэлевізійнага «гародчыка» ў тэатральны і назад. Але найперш шкодзіць выяўленню «Патаемнага намеру» брак дыхтоўнае драматургіі. Іншымі словамі, так званыя правілы, паводле якіх гульня нібы ўдаецца, а гульцы не пачуваюцца з асалодаю. Праўда, правілы дасканаляцца хутка. Як і патрабаванні гледачоў, якія, пераключаючы каналы, маюць магчымасць параўнаць. А што далей? А далей з беспамылковаю жорсткасцю камера выкрывае намеры спанатраных тэатральных людзей, — спанатраных і налаўчоных дзейнічаць на тэатральнай пляцоўцы. Пляцоўка тэлестудыйная, як даведзена не намі, вымагае і іншага ўмельства! І не толькі акцёрскага... Вось стваральнікі перадачы і мусяць вырашаць, для каго гульня-імправізацыя перадусім ладзіцца /для тэлегледача альбо для акцёраў — правілы будуць розныя!/, ды што паказваць потым у эфіры: з «патаемным намерам» аголенага калегу з тэатра альбо яго самога у самым найвыгодным тэлевізійным асвятленні? Апошняе ж вымагае працы спецыялістаў /ад псіхолага да мастака па ўтварэнні тэлевобраза/, чыё з'яўленне на БТ не запланавана на бліжэйшыя... шмат гадоў...

«Патаемнаму намеру» варта было б змяніцца — ад назвы да формы, паколькі ўсе ягоныя намеры ў лістах ды публікацыях ужо выкрылі. Але не кідаць цяперашніх звышзадач. Не звужаць кола ўдзельнікаў, згадаўшы пра самыя несталічныя тэатры. Давесці, што, пускаючы тэлекамеру за кулісы, тэатр застаецца тэатрам, ладзячы закулісны спектакль. Не «распранаць» акцёра, а шукаць яму тэлевобраз. Не агаляць, прапануючы ў поўным сэнсе слова імправізацыю /часам не самага адметнага кшталту/, а ўтвараць «абарончае поле» з творчых акцёравых загатовак. Не прасталінейна рэкламаваць вуснамі Генадзя Давыдзькі /«выдатны акцёр», «цудоўная актрыса»/, а, скажам, прыахвоціць да гэтай працы спецыялістаў — крытыкаў, адпаведна размеркаваўшы ролі і сярод іх /можна і не перад камерай/. Кепска адно: увесь шэраг маіх парад мае кшталт хатніхсвойскіх. Народнымі й дэпутацкімі сродкамі ў выпадку з перадачай не адбудзеш, бо яна вартая доўгага працягу. Але, перапрашаю за магчыма павучальны тон, будзем зыходзіць з таго, што людзі перад камерай не будуць іграць саміх сябе...

**Жана ЛАШКЕВІЧ,**

**рэдактар аддзела тэатра, кіно і тэлебачання**

**P. S.** *Упэўнілася ў гэтым канчаткова, пакуль брала ўдзел у пятай перадачы. Фрагмент яе падрыхтоўкі вы бачыце на здымку Галіны МАСКАЛЁВАЙ.*

*Студыйная гасцёўня. Сярод запрошаных: рэжысёр тэлебачання В. Акімушкін, актрыса ТЮГа Л. Горцава, мастацтвазнаўца Г. Барышаў, аўтарка матэрыялу, акцёры Альтэрнатыўнага тэатра І. Забара, Г. Лягчылава і А. Шуляк. Спадарства ў гуморы...*

**Ж. Л.**

# ЯНЫ ЛЮБЯЦЬ БАЛЕТ...

## *Беларускае дзяржаўнае харэаграфічнае вучылішча справіла наваселле*

Ліў дождж, дзьмуў халодны вецер... Але тыя, хто з'ехаўся ў Мінск на наваселле Беларускага дзяржаўнага харэаграфічнага вучылішча, не зважалі на надвор'е. Не толькі таму, што гасцей прымалі, як кажуць, на вышэйшым узроўні: душэўная шчодрасць, цеплыня Людмілы Каробкінай, дырэктара вучылішча, і яе супрацоўнікаў спрыялі асаблівай атмасферы добразычлівасці і сяброўства. Людскія сэрцы быццам заспявалі ва унісон, нараджаючы цудоўную мелодыю ўзаемаразумення, аднадумства, гарманічнай чалавечай супольнасці.



*Сцэнічны экзерсіс.*

*Фота У.ПАНАДЫ*

Усё гэта найлепш адпавядала мэце арганізатараў балетнага свята, якія зноў, як і на леташнім фестывалі «Я люблю балет», абвясцілі дэвіз: «Праз прыгажосць — да згоды!» Свята, якое ператварыла афіцыйнае адкрыццё новага архітэктурнага комплексу мінскай балетнай школы з лакальнай урачыстасці ў сапраўды мастацкую падзею харэаграфічнага свету, значную, несумненна, не толькі для Беларусі.

На прэзентацыю новага балетнага дома з'ехаліся пасланцы харэаграфічных вучылішчаў Расіі, Украіны і Малдовы, Казахстана і Азербайджана, Латвіі і Літвы, госці з Германіі, Швейцарыі і Польшчы, Бразіліі і Чэхіі.. Усе адчулі сябе адзінай балетнай сям'ёй, якая жыве ў многім агульнымі клопатамі і падобнымі эмацыянальнымі перажываннямі.

Цудоўныя балетныя залы, сцэна зайздроснага для многіх вучэбнага тэатра, агульнаадукацыйныя і музычныя класы, дзе шчыруюць беларускія педагогі ды іхнія выхаванцы, — усё гэта адзначыў пільны позірк найвопытных практыкаў. Па набалелых праблемах прафесійнага навучання і выканаўчага майстэрства вялася гаворка на семінары, дзе сваімі думкамі падзяліліся дырэктары, мастацкія кіраўнікі і педагогі харэаграфічных вучылішчаў, вядучы метадыст Міністэрства культуры Расіі Я.Капцелава, выдатны майстар балетнага тэатра Г.Комлева, вядомы балетмайстар Г.Маёраў, крытыкі. Абмяркоўваліся праблемы методыкі навучання і інтэрпрэтатарскага стылю, захавання шэдэўраў класічнай спадчыны, уключаючы і народна-сцэнічныя ўзоры танца. Закраналіся таксама юрыдычныя і эканамічныя аспекты выхавання кадраў для харэаграфіі. Прысутнасць загадчыцы аддзела часопіса «Балет» Г.Бяляевай-Чаламбіцькі ды загадчыка аддзела часопіса «Театр» А.Іняхіна дазваляе разлічваць на адлюстраванне гэтай гаворкі ў друку.

Яркімі фарбамі ўпісаліся ў палітру свята вернісаж «Імгненні танца» і канцэрт выхаванцаў Беларускага дзяржаўнага харэаграфічнага вучылішча. Яны паказвалі «Сцэнічны экзерсіс» у пастаноўцы мастацкага кіраўніка А.Калядэнкі, а таксама праграму класічных твораў, падрыхтаваных пад кіраўніцтвам Л.Бржазоўскай, К.Малышавай, М.Пятровай, Г.Сінельнікавай, Л.Халецкай, Л.Чахоўскага, В.Швяцовай. Цэлы блок народна-сцэнічных танцаў азартна і тэмпераментна выканалі вучні Ю.Шуркіна. А потым на сцэну выйшлі захопленыя госці, і гучалі шчырыя віншаванні, глыбокая ўдзячнасць школе, яе таленавітым і працавітым вучням і педагогам, дырэктару Л.Каробкінай, спонсарам І.Клюеву, А.Лашкевічу і Я.Ерахаўцу...

Магутным заключным акордам прэзентацыі стаўся гала-канцэрт «Зоркі сусветнага балета — Беларускаму харэаграфічнаму вучылішчу» ў перапоўненай зале ДАВТа. Горача вітала публіка славутых артыстаў: Л.Семяняку і Ю.Васючэнку, А.Яўцееву і І.Хакімаву, Л.Бейрыс і П.Скірмантаса, І.Душкевіч і У.Камкова, М.Кулік і В.Кіма, В.Мядзведзева, С.Феча і Л.Мухамедгалееву... Любімцам публікі яшчэ з леташняга фестывалю «Я люблю балет» стаў Айдар Ахметаў, які з Ганнай Дораш завяршыў канцэрт «зорак» агністым па дэ дэ з «Дон Кіхота». У сузор'і талентаў зноў ззяла і імя мастацкага кансультанта вучылішча, галоўнага балетмайстра ДАВТа Валянціна Елізар'ева.

**Аляксандр МАКСАЎ,**

**карэспандэнт часопіса «Балет»**

*г.Масква*

/Санкт-Пецярбург/. Ніколі не заставалася без фестывальных прызоў Алена Саканян з «Центрнаучфильма». Яна магла б прэтэндаваць на Гран-пры, але атрымала спецыяльны прыз журы за перастварэнне паэтычнага свету Веліміра Хлебнікава ў стужцы «Падарожжа з двайнікам». Наперад выйшла галандская стужка Ірэн ван Дзітшуйзэн «Трансфармацыя» /Гран-пры/ і ўкраінская карціна Валянціны Рудэнкі «Гагарын, я вас кахала!»

Рудэнка прызнаецца не толькі ў каханні да былога куміра пакалення. Фільм — спроба на мяжы этычна дазволенага вынесці вонкі сямейныя тайны Гагарыных, развянчаць міфы, што склаліся вакол іх. А ўвогуле — гэта фільм пра адзіноту Валянціны Гагарынай /прыз «Вікторыя»/...

Удзельнічала ў конкурсе некалькі стужак беларускіх кінематаграфістак. Неблагіх. Але... іх пакінулі без узнагарод. Як і іншыя, на мой погляд, годныя. У прыватнасці, адна з нашых самых прызнаных дакументалістак Мая Меркель /Масква/ зняла нядаўна двухгадзінны фільм «Руская» /сцэнарый Элы Максімавай і рэжысёра/. Аўтары падрабязна, мо часам залішне падрабязна, назіраюць за жыццём стараверкі Дар'і-Дароці Панамероф, якая праз паўстагоддзя наведала радзіму /жыве яна ў невялікім амерыканскім горадзе Эры/. Заможна жыве руская амерыканка, але на сэрцы няма спакою... Стужка пра нягучны патрыятызм — напэўна, такім чынам можна вызначыць унутраную тэму фільма.

Што ж яшчэ выбраць са шматлікіх падзей фестывалю? Жанчыны вельмі любяць здымаць палітычныя стужкі і фільмы рэлігійныя. Таму прыйшлося ў час падрыхтоўкі абмяжоўваць выбар і пакінуць некалькі стужак для конкурснай праграмы. Вельмі прываблівае фільм масквічкі Алы Таргала «...Я вас выбраў...» — пра нялёгкі лёс Валянціна Война-Ясянецкага, доктара медыцынскіх навук, святара, найчысцейшае душы чалавека, які з мінулага завяшчае чысціню думак і служэнне айчыне без мітусні і слоў.

Ну а стужка Хельке Зандэр «Вызваліцелі і вызваленыя» — на мяжы сенсацыі. Яна мае падзагаловак «Вайна — гвалтаванне — дзеці». Тыя, каго зняла Зандэр, 46 гадоў маўчалі; між тым, размова з імі адбылася. Пра гвалтаванні савецкімі афіцэрамі і салдатамі нямецкіх дзяўчат і жанчын у першыя тыдні Перамогі. Факты нельга абвергнуць: тут і медыцынскія дакументы, і сведчанні пацярпеўшых, і — дзеці. Я глядзела гэтую даўжэзную карціну /ідзе тры гадзіны/ у Санкт-Пецярбурзе разам з гледачамі. Абмяркоўваць засталося шэсць чалавек. Чацвёра жанчынпенсіянерак спачатку імкнуліся кідаць каменні ў рэжысёра. Але пасля эмацыйнага, доказальнага маналога мужчыны-інжынера, якому ў канцы вайны было 14 і які чуў пахвальбу афіцэраў якраз пра масавае гвалтаванне немак, змянілі агрэсіўнасць на пытанні да прадзюсера стужкі Хільдэгард Вестбелд.

Хельке Зандэр разам з сааўтарам, гісторыкам Барбарай Іёт менш за ўсё хацела зрабіць «рэваншысцкі» фільм. Яе хваляваў лёс кабеты падчас вайны. Дарэчы, Барбара, удзельніца III Міжнароднага фестывалю неігравога кіно ў Санкт-Пецярбурзе, паляцела з Расіі ў Югаславію, каб узяць удзел у маніфестацыі супраць гвалтаванняў жанчын на ваюючых тэрыторыях.

Хельке Зандэр не хавае свайго амаль пракурорскага стаўлення да «мужчынскага свету», па віне якога пачыналіся і пачынаюцца ваенныя дзеянні. Забыццё — лічыць аўтар — мае вельмі сур'ёзныя вынікі ў грамадстве, працягвае пакуты жанчын і дзяцей у наш час.

Трэба сказаць, што ў журы жаночага фестывалю таксама панавалі мужчыны: рэжысёр, акцёр Уладзімір Мяньшоў, уладальнік «Оскара», якім ён узнагароджаны амерыканскай Акадэміяй кінамастацтва за стужку «Масква слязам не верыць»; былы савецкі падданы, а з 1971 года — грамадзянін Ізраіля, абнаўляльнік-шасцідзесятнік Міхаіл Калік; наш Вячаслаў Нікіфараў, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР за «Бацькі і дзеці». Гэта ў раздзеле ігравога кіно. У дакументальным і навукова-папулярным — Віктар Касакоўскі з Санкт-Пецярбурга /атрымаў Гран-пры ў 1993 г. за стужку «Бяловы»/, Юрый Хашчавацкі і Міхаіл Жданоўскі з Мінска. Ну а пра анімацыйнае кіно трэба пісаць асобны артыкул. У гэтай намінацыі ў беларускіх кінематаграфістаў ёсць першы прыз — яго атрымала Алена Пяткевіч за цудоўную казку «Месяц».

**Ала БАБКОВА**

З пошты "ЛіМа"

## «ХАЙ ХОЦЬ МОВА НАС АБ'ЯДНОЎВАЕ...»

Прачытаў паведамленне «Кур'ёз тыдня» ў «ЛіМе» ад 30.04.93 і не магу *стрымацца, каб не выказаць* сваю думку на заяву нашых палешукоў. Я сам паляшук і не саромеюся таго, што я паляшук, што мова мая паляшуцкая, трасянковая, якая ўвабрала ў сябе словы і выразы ўсіх суседзяў усходу і захаду, поўдня і поўначы. І не мы вінаваты, што стагоддзямі нас імкнуліся абрусіць ці апалячыць.

Не ведаю, чаго больш, маёй віны ці бяды ў тым, што яшчэ зусім нядаўна мая свядомасць беларускасці раўнялася нулю, што я лічыў сябе саўком, рускім — чытаў «Известия», «Литературную газету» і «Аргументы и факты». Але калі цяпер адкрыта сталі пісаць і гаварыць, колькі лепшых людзей Беларусі змагалася ў мінулым і змагаецца цяпер за нацыянальную незалежнасць, суверэнітэт і мову, то зразумеў, што каб быць патрыётам, трэба пачынаць з малога, любіць сваю сям'ю, сваю вёску, свой раён і, зразумела, сваю рэспубліку.

Рэспубліка ў нас адна — Беларусь — і мова адна — беларуская — зразумелая /маю на ўвазе літаратурная/ усім, і магілёўчанам, і віцябчанам, тым больш нам, палешукам, якія карыстаюцца трасянковай мовай. Таму лічу, што вельмі добра зрабіў Вярхоўны Савет, прыняўшы закон аб адзінай дзяржаўнай мове, і пераглядаць *яго няма патрэбы.* Літаратурная беларуская мова павінна заняць дастойнае месца ва ўсіх навучальных установах — ад дзіцячага садка да вышэйшых навучальных установаў, а таксама ва ўсіх дзяржаўных установах. Прыватныя навучальныя ўстановы могуць быць рускімі, польскімі ці татарскімі. Гэта справа ўласніка.

Сорамна і крыўдна за тых нашых палешукоў, што 70 год жылі бяспраўнымі, беззямельнымі, бяздомнымі і бяспашпартнымі, а сёння, калі атрымалі незалежнасць і суверэнітэт, пачынаюць убіваць кліны ў наша адзінства.

Думаю, што нам ніхто не забараняе гутарковай мовай карыстацца ў любым кутку Беларусі, а літаратурная мова павінна быць адзінай дзяржаўнай. Няхай хоць мова нас аб'ядноўвае.

**У.КАНДРАЦЕНЯ**

*в.Будча Ганцавіцкага р-на*

## КВОЛЫЯ ПАРАСТКІ ПРАРАСТУЦЬ...

Нядаўна мне давялося пабываць у службовай камандзіроўцы ў *вельмі прыгожым мястэчку нашай* Беларусі, а дакладней — у горадзе Верхнядзвінску, і пазнаёміцца з цікавымі людзьмі.

Дарога прывяла мяне да канторы лягсаса. З першага погляду прыемна здзівіла яе знешняе афармленне — над уваходам у будынак прыцягвае погляд вялікая маляўнічая выява Дзяржаўнага герба — нашай славутай пагоні — на фоне бел-чырвона-белага сцяга. У сваім прасторным кабінеце мяне сустрэў і сам гаспадар — дырэктар лягсаса Павел Ягоравіч Івашчанка. Тут і адбылася наша зацікаўленая размова. Калі пазнаёміўся бліжэй з Паўлам Ягоравічам, зразумеў, што гэта неардынарная асоба, што надпісы ў кабінетах лягсаса — гэта не паказуха, а, як кажуць, покліч душы, асэнсаваны крок свядомага беларуса.

Амаль чатыры гады працуе на пасадзе дырэктара лягсаса П.Івашчанка. За гэты час шмат зроблена для ўмацавання гаспадаркі. Завяваў аўтарытэт новы дырэктар сярод калектываў лягсаса сваёй дзелавітасцю, стаўленнем да людскіх клопатаў. Але не аб працоўных здабытках мне хочацца расказаць. Найбольш у гэтым чалавеку мяне ўразіла шчырасць, боль за нацыянальнае адраджэнне, развіццё і вяртанне нашай мовы. Пасля выхаду закона аб *дзяржаўнасці мовы ў лягсасе адра*зу пачалі ажыццяўляць усю справаздачу, дакументацыя пачала весціся на беларускай мове, і працэс гэты тут — незваротны.

Павел Ягоравіч актыўна ўдзельнічае ў раённай суполцы ТБМ імя Ф.Скарыны, якую ўзначальвае таксама адданы сваёй справе настаўнік-гісторык Алесь Мікалаевіч Крук. Шмат што аб'ядноўвае гэтых людзей. П.Івашчанка з'яўляецца своеасаблівым фундатарам, дапамагае матэрыяльна суполцы ТБМ, у якую ўваходзіць каля 30 чалавек, прадстаўляе памяшканне для сходаў усіх дэмакратычных аб'яднанняў раёна. У горадзе намаганнямі гэтых энтузіястаў створаны клуб цікавых людзей, там яны праводзяць розныя мерапрыемствы: ад спартыўных да грамадска-палітычных. Створаны таксама курсы беларускай мовы, якія дзейнічаюць ужо амаль тры гады.

Але намаганняў энтузіястаў недастаткова. Людзі ў асноўным абыякава ставяцца да ўсіх гэтых працэсаў, нібы староння назіральнікі. Каб былі відавочныя зрухі, грамадства трэба абудзіць ад летаргічнага сну. Тут, думаецца, толькі адно выйсце — новыя датэрміновыя выбары вышэйшых і мясцовых Саветаў як мага хутчэй. І вось тут павінны адыграць сваю ролю мясцовыя дэмакратычныя сілы, якія аб'ядноўваюць прыхільнікаў нешматлікіх ТБМ, БНФ, БСДГ і іншых дэмакратычных партый і рухаў.

І ўсё ж кволыя парасткі дэмакратызацыі і абнаўлення на шматпакутнай зямлі Беларусі прарастаюць, пераадольваючы нацыянальны нігілізм і супрацьўленне аджыўшых структур.

**Анатоль МЯСНІКОВІЧ,**
**інжынер**

*г.Мінск*

## «БІЦЬ ПАКЛОНЫ БОГУ, А НЕ СУСЕДУ...»

У вашым штотыднёвіку, асабліва апошнім часам, паяўляюцца артыкулы прадстаўнікоў праваслаўнай царквы. Гэта і не дзіўна, бо праваслаўе — асноўная канфесія ў Беларусі. Здзіўляе другое. У артыкуле «Насустрач крок нялёгкі» /«ЛіМ» за 16.4.93/, таксама як і ў іншых, робіцца спробы даказаць, што пераход да аўтакефаліі вельмі і вельмі цяжкі. Да яго трэба ісці гадамі, а то і дзесяцігоддзямі, што царква чакае лепшых часоў і г.д. Я, як праваслаўны хрысціянін, часта бываю ў царкве. І кожны раз, праслухаўшы набажэнства, задаюся пытаннем: ці гэта мая царква, ці гэта царква майго народа?

Шлях беларускай праваслаўнай царквы да аўтакефаліі цяжкі і крывавы. Мы памятаем Беларускую аўтакефальную царкву ў першыя гады савецкай улады, у ваенны час. Мы тут, у Магілёве, *сустракаліся* з кіраўніком дзеючай сёння Беларускай аўтакефальнай царквы на Захадзе мітрапалітам Мікалаем, гаварылі з ім. Гэта наш чалавек. У кожным яго слове мы чулі родны дух, свайго чалавека.

Чаму ж тады ў нас, калі Беларусь стала незалежнай краінай, наша праваслаўная царква практычна і пальцам не паварушыла, каб што-небудзь зрабіць у гэтым напрамку? Дзе на беларускай мове біблія, старыя і новы запаветы, малітоўнікі і г.д.? Я мяркую, што біць паклоны трэба Богу, а не суседу, працягваючы гэтым самым русіфікацыю. І не трэба рабіць выгляд, што гэта вельмі цяжка. Службу ў царкве можна праводзіць і на царкоўнаславянскай мове, але пропаведзі і малітвы павінны быць на роднай, беларускай.

**Н.ШПАКОВІЧ,**
**пенсіянер**

*г.Магілёў*

Новыя выданні

## «BELARUSSIAN REVIEW»

***Нішто не робіцца так проста і не цэніцца так дарага, як разумная аператыўная і аргументаваная інфармацыя. Гэта, бадай што, аксіёма для тых, хто прафесійна займаецца журналістыкай, рэкламай і іншымі аналагічнымі рэчамі. Нават у наш складаны час, калі цэны мяняюцца амаль штодня, эфект ад прадуманага выкарыстання інфармацыйных сістэм значна перавышае ўкладзеныя на першым этапе сродкі.***

Ні для каго сёння не сакрэт, што і палітыку, і бізнес, і асабліва знешнеэканамічную дзейнасць ва ўсім свеце ў многім цягне за сабой *імклівы экспрэс інфармацыі.* Дастаткова добра, напрыклад, ведаючы і ўнутраны, і вонкавы інфармацыйны рынак Летувы, пачынаеш разумець, колькі цудоўных перспектыў, магчымасцей, у рэшце рэшт, валюты мы губляем!.. За кароткі ў гістарычным плане тэрмін дзяржаўнай незалежнасці нашы суседзі здолелі пабудаваць досыць лагічную і добра працуючую сістэму інфармавання сусветнай супольнасці аб сваёй краіне. Зараз, практычна ва ўсіх развітых дзяржавах свету, у афіцыйных установах, рэкламных агенцтвах, даведніцкіх структурах, нават у аэрапортах можна пазнаёміцца з летувіскімі выданнямі на важнейшых еўрапейскіх мовах, а таксама заканадаўствам, каталогамі прадпрыемстваў, раскладам цягнікоў і самалётаў, на якіх можна дабрацца да Вільні, каардынатамі гатэляў, службаў сервісу і кансалтынгавых фірм.

А што ж наша Беларусь? На вялікі жаль, і тут яна засталася далёка ззаду. Выданні, з якіх свет мог бы хоць штосьці дазнацца аб рэспубліцы, можна літаральна пералічыць па пальцах. Гэта бізнес-гіды Гандлёвай палаты і Міністэрства замежных спраў, часопіс «Беларусь і прадпрымальніцтва», што выдаецца на нямецкай мове фірмай «Дело» пры дапамозе нашага пасольства ў Германіі, — вось бадай што і ўсё... Галоўныя прычыны тут — адсутнасць прагматычнай дзяржаўнай палітыкі і дзяржаўнай дапамогі. Ды гэта ўжо тэма асобнай гаворкі. Зараз жа хацелася б паразважаць аб тым, як можна хоць напачатку і даволі хутка паспрабаваць выправіць становішча.

Размова пойдзе пра ўдзел беларускай эміграцыі ў гэтай надзвычай важнай сёння справе, а калі больш канкрэтна, то пра адно шырока вядомае за мяжой англамоўнае выданне — «BELARUSSIAN REVIEW» /«БЕЛАРУСКІ АГЛЯД»/. Заснаваў і распаўсюджвае яго вось ужо многа год наш суайчыннік з ЗША /штат Каліфорнія/ Язэп Арцюх. «АГЛЯД» атрымоўваюць фактычна ўсе важнейшыя дзяржаўныя ўстановы, многія буйныя фірмы і навучальныя ўстановы ЗША, Канады, Аўстраліі і шэрагу іншых краін.

На цудоўнай ангельскай мове ў ім змяшчаецца эканамічная, палітычная, дзелавая, культурная інфармацыя з Бацькаўшчыны, друкуюцца грунтоўныя матэрыялы па гісторыі, даюцца справаздачы аб дзейнасці ўрада і парламента, разумна і тактоўна прапагандуюцца дасягненні рэспублікі.

Попыт на часопіс пасля знікнення СССР расце з кожным месяцам, пашыраецца і колькасць чытачоў, і геаграфія, але, на жаль, павялічыць наклад немагчыма: выданне існуе на сродкі спадара Арцюха і ахвяраванні эміграцыі, а яны — даволі абмежаваныя. Добра было б, каб урад, Міністэрства інфармацыі, прадпрымальніцкія колы дапамаглі б у гэтай вельмі патрэбнай і актуальнай справе. Тым больш, што размова не ідзе пра вялікія грошы. Безумоўна, куды больш значныя сродкі спатрэбіліся б /як гэта рабілі літоўцы/ для заснавання і распаўсюджання нечага аналагічнага, напрыклад, у тых жа Злучаных Штатах...

Можа, улады не ведаюць пра існаванне часопіса? Не, ведаюць і даўно, але ж пакуль што нічога не робяць дзеля яго падтрымкі, хутчэй за ўсё баючыся яго «эміграцыйнага» паходжання. А шкада, таму што супольнымі намаганнямі нашых суайчыннікаў у ЗША і зацікаўленых устаноў і асоб на Беларусі «Агляд» можна было б у хуткім часе зрабіць візітнай карткай рэспублікі ў вонкавым свеце...

Час ідзе, але мала што мяняецца. Як і шмат гадоў назад тым, хто выязджае за мяжу, каб адказваць на пытанне, дзе ж яна, Беларусь, у большасці выпадкаў даводзіцца браць глобус і тыкаць пальцам амаль што ў самы цэнтр Еўропы...

**P.S.** *Тыя, хто хацеў бы нейкім чынам дапамагчы «Беларускаму Агляду» або змясціць у ім рэкламу, могуць звяртацца па мінскіх тэлефонах: 21-77-40, 27-19-40, 29-16-80.*

**Вацлаў БАГДАНОВІЧ**

# СКАРБ І НАДЗЕЯ

*(Пачатак на стар. 5)*

як інстытут сацыяльнага наследавання культуры і асноўная ўмова яе развіцця, а як нейкая майстэрня па падрыхтоўцы працоўных рэзерваў для народнай гаспадаркі. Менавіта з гэтага пункту погляду вызначаецца, колькі нам патрэбна тых ці іншых навучальных установ, які павінен быць прыём у гэтыя ўстановы і па якіх адпаведных спецыяльнасцях. І такі падыход быў узяты за зыходны пункт пры распрацоўцы новага Закона аб адукацыі, які панізіў узровень абавязковай адукацыі моладзі на той аснове, што і існуючая не выкарыстоўваецца дастаткова, а прымітыўная тэхналогія большасці прадпрыемстваў не вымагае ніякай адукацыі. Да *гэтага часу лічыцца, што патрэбы асобы* фарміруе развіццё самой вытворчасці і эканомікі ў цэлым. Чалавеку застаецца толькі ісці следам за развіццём вытворчасці, і таму ён павінен мець столькі ведаў, столькі культуры, колькі мы зможам пабудаваць і ўтрымліваць школ, тэатраў, дамоў культуры ў той ці іншай мясцовасці. А паколькі эканамічнае становішча цяжкае, то эканомія ідзе перш за ўсё за кошт культуры і сацыяльнай сферы. Закрываюцца дзіцячыя садкі, уводзіцца конкурс для паступлення ў 10 клас, скарачаецца прыём у ВНУ, непатрэбнымі становяцца многія ПТВ...

Уся гаворка аб нацыянальна-культурным адраджэнні сёння фактычна зводзіцца да адраджэння роднай мовы, нацыянальнай самасвядомасці. Справа гэта сапраўды важная, але не яна адна вызначае напрамкі грамадскага развіцця ў рэспубліцы. У такім падыходзе крыецца пагроза, што наша нацыянальна-культурнае адраджэнне можа спаткаць той жа лёс, што і навукова-тэхнічны прагрэс. Шуміха вакол гэтага пытання ў свой час была разгорнута невераготная. Нават сакратары райкомаў, гаркомаў, міністры і іншыя кіруючыя службовыя асобы павінны былі мець тэхнічную адукацыю, а на самай справе ўсё заставалася на тым жа ўзроўні. Бюракратычны апарат выкарыстаў гэту ідэалогію надзвычай выгадна для сябе. Ён узяў ініцыятыву распрацоўкі асноўных напрамкаў развіцця навукі і тэхнікі і рабіў усё магчымае, каб яшчэ больш ухаранiць сваю ўладу, падпарадкаваць сабе нават творчую дзейнасць навуковых устаноў і асобных вучоных. Усё вызначалася ў міністэрскіх кабінетах, а не ў навуковых лабараторыях. Патрэбны былі толькі нейкія навуковыя абгрунтаванні ўжо прынятых рашэнняў адпаведнымі кіруючымі ўстановамі. І трактаваўся такі «навуковы» падыход да асноўных пытанняў грамадскага развіцця, як свядомае выкарыстанне кіруючымі ўстановамі яго асноўных заканамернасцяў.

Ідэя ўспрынятага дэтэрмінізму, такім чынам, на практыцы абярнулася таталітарызмам. І яго сутнасць аніяк не змяніцца ў залежнасці ад таго, на якой мове будуць размаўляць чыноўнікі, якія атрымалі ў выніку дзяржаўнай незалежнасці неабмежаваныя паўнамоцтвы і па-ранейшаму ўціскаюць развіццё культуры ў пракрустава ложа сваіх цыркуляраў.

Развіццё культуры, як галоўнай умовы грамадскага развіцця, вымагае свабоды творчасці, зусім іншай школы і *настаўніка,* адукацыі і выхавання. Яна вымагае адмовы ад той маральнай устойлівасці асобы, якая вызначалася ўсеагульным канфармізмам, адсутнасцю свайго погляду і думкі, бездакорным выкананнем усіх запатрабаванняў з боку кіруючых устаноў. Хацелася б спадзявацца, што не гэта разумеецца сёння пад беларускай ментальнасцю і талерантнасцю кіраўнікамі нашай дзяржавы.

# Міхась СЕНЬКА: «ДАСЦЬ БОГ, І БЕЛАРУСЬ БУДЗЕ КВІТНЕЮЧАЙ КРАІНАЙ...»

## БЕЛАРУСКАЕ ЗАМЕЖЖА: ЖЫВЫЯ ГАЛАСЫ

**— Спадар Міхась, у мяне склалася такое ўражанне, што ў Саўт-Рыверы ёсць два беларускія цэнтры. Адзін афіцыйны, другі — на Хэрман, 24, — у вашай хаце...**

— Хоць вы і жартуеце, спадар Пранчак, але ў вашым жарце доля праўды ёсць. Гэты дом, дзе мы зараз знаходзімся, сапраўды гістарычны. Калісьці тут жыў вядомы навуковец Барыс Кіт. І цяпер тут бывае шмат людзей. Прыходзяць узяць свежую газету, даведацца адрас, абмеркаваць падзеі на бацькаўшчыне... Доўгі час я ёсць сакратаром шматлікіх беларускіх грамадскіх арганізацый. Таму не дзіва, што сюды сцякаецца інфармацыя з усяго свету. Тут, на чужыне, мы стараемся быць карыснымі для бацькаўшчыны.

**— Спадар Міхась, а дзе ваша бацькаўшчына, адкуль вы паходзіце?**

— Я з мястэчка Новы Свержань. Радзіўся за польскім часам і з маленства адчуў на сабе польскі ўціск. Беларуская мова прыцяснялася. Памятаю, толькі святар Малішэўскі размаўляў не па-польску. Ён казаў нам, малым, у царкве: гаварыце са мной так, як вы гаворыце дома з бацькамі... Са Свержня выйшла шмат вядомых людзей. Мікалай Шчорс, напрыклад, які быў прэзідэнтам Саюза беларускай моладзі ў Вільні. Іван Ерашэвіч, навуковец, аўтар кнігі па геалогіі Беларусі. Спадар Сянкевіч — рэдактар газеты «Голас вёскі», якая выдавалася ў Менску падчас нямецкай акупацыі. Васіль Шчорс, які разам з Язэпам Лёсікам апрацаваў другую частку кнігі «Граматыка беларускай мовы»...

**— А свержаньскія Шчорсы не сваякі Мікалая Шчорса — героя грамадзянскай вайны? «Песня пра Шчорса» пэўны час была нават папулярнай у народзе...**

— Сваякі. Ён з-за царскіх часоў паехаў на Украіну і там стаў бальшавіком, уступіў у чырвонае войска. Там і загінуў...

**— Мы спыніліся на тым, што ў Свержані вы пайшлі ў школу...**

— Так, пачынаў я вучыцца за палякамі. Калі прыйшлі саветы, я быў у пятай клясе. За немцамі прадоўжыў асвету. А ў 1942 годзе ў Баранавічах акурат адкрылася медычная школа, і мы з сябрам Генадзем Пяткевічам падаліся туды, бо спадзяваліся, што будзе тварыцца беларускае войска, якому будуць патрэбны дактары... Але калі з войскам нічога не атрымалася, мы перайшлі на аптэкарскае аддзяленне. Да вайны ў аптэках Беларусі працавалі ў асноўным габрэі. Немцы іх парасстрэльвалі... Замены не было. Таму мы вучыліся паскорана, без жадных вакацыяў, і ўжо ў 1943 годзе атрымалі пасведчанні аб заканчэнні...

**— А вы не баяліся, што пасля заканчэння вас накіруюць на фронт?**

— Не, пра гэта не было і размовы. Мы маглі быць на фронце толькі ў беларускім войску, каб такое было.

**— Спадар Міхась, а на якой мове ішло навучанне?**

— На беларускай. Вывучалі таксама нямецкую і лацінскую. Быў вельмі добры настаўніцкі калектыў. Школа давала толькі сярэднюю адукацыю і настаўнікі казалі нам: калі дасць Бог і Беларусь стане вольнай, вы зможаце прадоўжыць вучобу далей.

**— А няўжо не было ніякай нямецкай цэнзуры? Няўжо праз гэтыя школы немцы не праводзілі сваю палітыку?**

— Барані Божа! Жадных майнкампфаў не было. Мы вывучалі беларускую гісторыю. Генадзь Цітовіч выкладаў спевы. Было грамадазнаўства. У школы бралі моладзь з вёсак. Хлопцы стараліся добра вучыцца. Нацыянальнае ўзгадаванне было вельмі моцнае.

**— Спадар Міхась, прыгадайце, калі ласка, Баранавічы тых часоў.**

— У Баранавічах была беларуская адміністрацыя. Спачатку яе ўзначальваў доктар Войтанка, пасля інжынер Русак. Але найбольш па-гаспадарску кіраваў спадар Юры Сабалеўскі — былы беларускі пасол у польскім сойме. Ён першы ўвёў харчовыя карткі, на якія жыхары гарантавана маглі купіць хоць якія-небудзь прадукты. Летам у сваёй рэзідэнцыі ён наладжваў мастацкія выставы. У Баранавічах працавала ажно сем школ. І кожную нядзелю вучні адной са школ давалі канцэрт у гарадскім парку. Арганізаваўся беларускі тэатр, вакальная школа, настаўніцкія курсы...

**— Мабыць, не хацелася ад'язджаць з Баранавіч пасля вучобы?**

— Хацелася ці не хацелася — ніхто ў нас не пытаў. Была вайна. І парадкі таксама ваенныя. Мяне адправілі загадчыкам аптэкі ў Стоўбцы. Немцы кантралявалі работу аптэк, правяралі кожны рэцэпт, сачылі, каб лекі не ішлі партызанам...

**— Цікава, а хто забяспечваў вас лекамі?**

— Немцы. У Баранавічах была база, адкуль мы атрымлівалі гатовыя прэпараты. А пілюлі і мазі мы рабілі самі. Самі гатавалі таксама настоі з зёлак. Асабліва шмат клопатаў было з каростай. Лекаў — ніякіх. А як лячыць? Акруговы доктар Лукашэня вынайшаў спецыяльную мазь і мы з поспехам прымянялі яе.

**— Спадар Міхась, якраз у вайну вы прычыніліся да беларускага адраджэнскага руху і былі яго актыўным удзельнікам...**

— Так, я належаў да Саюза беларускай моладзі. Мяне нават пасылалі ў школу СБМ у Альберціне. Якраз у той час туды прыязджаў з візітам гаўляйтэр Вільгельм Кубэ. Мы вывесілі нямецкія і беларускія сцягі, апранулі святочную форму... Кубэ зрабіў на нас прыемнае ўражанне...

**— Хіба ён не быў для вас акупантам ці ворагам?**

— Не. Але насцярога была. Мы думалі, што ён будзе шукаць у школе нейкія прычэпкі, а ён аднёсся да нас памяркоўна. У сваім слове Кубэ сказаў: «Вітаю вас, моладзь. Вы — будучыня новай Беларусі». Пытаўся, чым трэба нам дапамагчы...

**— А ці не баяўся Кубэ, што беларусы калісьці могуць пайсці супраць яго?**

— А Бог яго ведае! Але ён заклікаў, каб мы працавалі для Беларусі.

**— А што, гэта было магчыма?**

— Магчыма. Мы не думалі, што пад немцамі беларусы могуць стаць незалежнымі. Але мы хацелі выкарыстаць шанц для ўмацавання беларускай свядомасці, каб падрыхтаваць новыя беларускія кадры, якія б не былі папіхачамі ў чужынцаў, якія б былі вольнымі і мелі свой нацыянальны гонар... СБМ шмат рабіла для таго, каб кансалідаваць моладзь.

**— А ўвогуле ў час нямецкай акупацыі ў Беларусі склалася вельмі трагічная сітуацыя. Частка моладзі была ў СБМ, другая — у партызанах... Былі нават выпадкі, калі брат ішоў на брата са зброяй у руках...**

— Так. Вайна прынесла шмат трагедый. Асабліва тым, хто паверыў у беларускае адраджэнне. У 1944 годзе мы ўжо ведалі дакладна, што з немцамі нам не па дарозе і што яны прайграюць вайну... Але мы рук не апускалі. Памятаю выступленне прэзідэнта Беларускай Цэнтральнай Рады Радаслава Астроўскага ў Баранавіцкім гэбітскамісарыяце. Астроўскі даў аналіз становішча на Беларусі, а калі зайшла размова пра партызан, ён сказаў: «Калі мяне партызаны пераканаюць, што яны змагаюцца за вольную незалежную Беларусь, — я самы першы перайду на іх бок...» Але ж партызаны змагаліся за бальшавіцкую Беларусь...

**— Таму актыў СБМ неўзабаве папоўніў рады БКА — Беларускай Краёвай Абароны?**

— Не толькі актыў СБМ, бо ў сакавіку 1944 года была аб'яўлена мабілізацыя ў БКА. Дарэчы, у яе ўступала моладзь і з партызанскіх зон. Узялі й мяне. Я быў у Стаўпецкім батальёне, прыняў прысягу, але так як не хапала аптэчных работнікаў, то ў хуткім часе я вярнуўся на ранейшае месца. У БКА пачалі шырока выкарыстоўваць нацыянальную сімволіку, ярылавыя крыжыкі, спявалі беларускія песні.

**— А якую форму насілі беларускія жаўнеры?**

— Чорную нямецкую форму. Зброя была італьянскай. Мы прысягалі, што будзем ваяваць толькі на тэрыторыі Беларусі. Немцы не маглі ўзяць нас і кінуць на фронт без дазволу прэзідэнта БЦР.

**— У эміграцкай літаратуры я чытаў, што ў БКА было каля 100 тысяч вайскоўцаў...**

— Недзе каля гэтага. А што 75 тысяч — дык гэта напэўна. Жаўнеры БКА былі беларускімі патрыётамі. Прывітаннем у беларускім войску служылі словы: «Жыве Беларусь!» На яго адказвалі: «Жыве!» Альбо: «Служу бацькаўшчыне!»

**— Але век БКА быў нядоўгім... Прыбліжаўся фронт...**

— Так, і мы падаліся ў эміграцыю. Беларусы, якія працавалі ў адміністрацыі, паліцыі, у нямецкіх установах, сябры СБМ, вайскоўцы БКА пакідалі Беларусь, бо баяліся расправы... Немцы нікога не змушалі выязджаць. Але яны апекаваліся над усімі, хто не хацеў жыць у камуністычным рабстве. Наша сям'я таксама падалася на Захад. Вайскоўцы БКА адступалі са зброяй. Памятаю, недзе ля Новай Мышы яны паскідалі ўсю зброю ў вялікую кучу, аблілі бензінам і спалілі — каму хацелася ваяваць на чужой зямлі? На фурманцы мы дабраліся да Нямеччыны, апынуліся ў лагерах для перамешчаных асоб — так званых Дэпі.

**— Я ведаю, што ў Нямеччыне было некалькі такіх беларускіх лагераў...**

— Так, былі: Рэгенсбург, Міхельсдорф, Ватэнштат... Дазвол на іх стварэнне выдавала кіраўніцва зоны акупацыі. Яму падавалася адпаведная заява, што мы, беларусы, хочам быць разам, бо ў нас адна рэлігія, мова і г. д. і што мы не хочам вяртацца... У беларускіх лагерах ладзілася нацыянальнае беларускае жыццё. Стварылася беларуская гімназія, была пачатковая школа, распачаўся скаўцкі рух...

**— Спадар Міхась, а што з тых часоў вам запомнілася найбольш?..**

# ПРАВАПІС:

## ВЯРТАННЕ ЦІ ЎСЁ Ж УДАСКАНАЛЕННЕ

*(Пачатак на стар. 6)*

На нашу думку, пройдзены этап у нашай арфаграфіі і Тарашкевічаў варыянт напісання збегу зычных у «гарадзкі», «грамадзкі», «швэдзкі», «параходзтва» /ці яшчэ мудрэй — «парахоцтва»/, які імкнуцца ўзнавіць аматары старога правапісу. Тут жа няўстойлівая пазіцыя, збег «дз» у дадзеным выпадку ўспрымаецца, як наша характэрная афрыката, і патрабуе прамаўлення змекчанага «гарадзькі», «грамадзькі». А гэта не характэрнае нам упадабненне да ўкраінскай артыкуляцыйнай сістэмы.

У сённяшніх прапановах спрэс крайнасці. З прыстаўнымі гукамі, праблемай вельмі неардынарнай у правапісе, геній мовы, здаецца, вытрымлівае інтуітыўна ўзусную норму, дзе пісаць пратэзу, а дзе мэтазгодна абыходзіцца без яе. Дык не, упарта настойваюць на напісанні «У Вамерыцы», ці /«ув Амерыцы»/, «у Варменіі», «у Ванголе», «У вабяднанні», «у вадносінах», «вордэн», «вунія». Маўляў, у суседняй мове такімі формамі карыстаюцца. Няўжо нам ад веку наканавана напачатку вымушана білінгвізмам, а затым і самахоць пераймаць усе шляхі суседзяў?

Пазбаўляе мову жаданага артыстызму замацаванне ў правапісе дыялектнага напісання, хай сабе і ў якасці факультатыўнага варыянту, тыпу «бацька й сын», «ды й дадому», «яна йдзе», «форма й змест», «пра Йвана», «будзе свята й на нашай вуліцы». У друку, што, як невядома якую навіну, укараняе гэтыя ятаваныя формы, не робіцца аніякіх адрозненняў, што зніжаны баечны, фальклорны лад іх зусім не пасуе да навуковага, дыпламатычнага, увогуле высокага моўналітаратурнага стылю. Ятаваны злучнік, апрача ўсяго, і сэнсава няўстойлівы, прымыкае да наступнага слова, як клітыка.

Раней мне ўжо даводзілася выказвацца пра немэтазгоднасць замены нашага беларускага «л» ва ўсёй шырыні яго дыяпазону ад мяккасці да цвёрдасці на польскае назальнае /геалёгія, міфалёгія, лёгіка, кляс/. Багацце на беднасць хіба што бяда змусіць змяніць. Мы ж можам сказаць і «лён», і «лоджыя». Да таго ж, назальнасць надзвычай цяжкая для беларускай артыкуляцыі і прыжылося б так званае сярэднееўралейскае «л» хіба толькі сярод інтэлігенцыі: хоць цяжкое на вымаўленне, але ж адразу элітарны шарм стварае.

Нечакана намеціўся прагрэс ва ўпарадкаванні навуковай тэрміналогіі, наданне ёй адметна беларускіх рысаў, а галоўнае — пераадоленне не вельмі характэрнага для нашай гукавай сістэмы збегу ій у канчатку. Найбольш спелымі прапановамі парадаваў Уладзімір Паўловіч, якога мы ведаем як навукоўца неардынарнай думкі і барацьбіта за нацыянальную справу. Як цікава ў духу нашага слова гучаць яго найменні хімічных элементаў: натр /натрый/, магнезь /магній/, алюмінь /алюміній/, ванад /ванадый/, ітрань /ітрый/, кадмень /кадмій/, цэзень /цэзій/ і г.д.

На канферэнцыі па правапісе 1992 г. была звернута ўвага на недахопы прапанаванай тэрміналогіі і не ацэнены фактычныя здабыткі яе, што з гэтым матэрыялам можна працаваць, удасканальваць далей. Вядома, у тэрмінах «гель», «бар», «каль», «туль», з-за іх аднаскладовасці, этымалагічны корань губляецца, узнікае непажаданая аманімія, недазваляльная для навуковай тэрміналогіі. Справу тут можна паправіць з дапамогай лацінскага тэрмінаўтваральнага суфікса «ум» /«геліум», «барыум», «туліум»/. Яго неабавязкова распаўсюджваць на ўвесь рэестр тэрміналогіі, бо ў даследчыка, як мы паказалі вышэй, ёсць сапраўдныя знаходкі, якія маглі б прыжыцца ў мове. Я яшчэ заспеў падручнікі, калі ўжывалася форма «натр». Над пытаннем «ружань» /родый/, «гега» /крэмній/, «ліхань» /радый/, «гален» /галій/, бо навуковая тэрміналогія ўсё ж імкнецца да міжнароднай уніфікацыі...

Нарэшце, пасля шматбаковага ўзважвання «за» і «супраць», справы не надта ўдзячнай, бо даводзіцца спрачацца ўвогуле з аднадумцамі па нацыянальнай справе, можна было б падвесці некаторыя пазітыўныя вынікі. Выйсце са складанасці сітуацыі мне бачыцца ў паэтапным разглядзе прапаноў: адны, дастаткова прапрацаваныя, ужо не церпяць адкладвання, над іншымі — яшчэ патрабуецца карпатлівая работа правапіснай камісіі, і прыняцце ці адхіленне іх — перспектыва будучых год.

У ліку першачарговых хацелася вылучыць наступныя прапановы:

1. Прызнаць прагрэсіўнай тэндэнцыю пашырэння асіміляцыі па аканні, менш па яканні на рэшту беларускай і частку запазычанай лексікі, адпаведна абумовіўшы яе непажаданасць у выпадках размывання этымалогіі парушэння эўфаніі, узнікнення аманіміі. Прапанаванае ўпарадкаванне фіксуецца ў дапоўненых перавыданнях слоўнікаў, а да гэтага дапускаецца варыянтнасць старога і

— Смутак па бацькаўшчыне і жаданне выжыць і знайсці сваю сцежку ў растрыбушаным свеце... Мы ўсведамлялі, што наша доля будзе цяжкай і пакутнай. У 1948 годзе я пайшоў вучыцца на хімічны факультэт Украінскага універсітэта... Там, у Нямеччыне, лёс звёў мяне з вядомым навукоўцам — баронам Аўгенам фон Энгельгартам, аўтарам кнігі «Weisrutenija» /«Беларусь»/, выдадзенай у Берліне 1943 годзе. Выданне гэта малавядомае і ў эміграцыі і на Беларусі, бо ўвесь тыраж аказаўся знішчаным ці ў выніку бамбёжкі, ці пажару. Толькі рэдкія экземпляры зараз ёсць на Захадзе... Я ў той час жыў на кватэры Усевалада Родзевіча, цяпер ён у Аўстраліі. І вось прыязджае да нас аднойчы Радаслаў Астроўскі. Кажа, такая справа, недалёка адсюль, у Сінбаху, у бальніцы ляжыць барон фон Энгельгарт, аўтар кнігі пра Беларусь. Астроўскі папрасіў, каб я з'ездзіў праведаць барона і завёз яму невялікі падарунак — некалькі слоікаў ператопленага масла. Я апрануў беларускую кашулю і паехаў. Знайшоў тую клініку, адшукаў там фон Энгельгарта. Перадаў яму прывітанне ад Астроўскага, ад усіх беларусаў. Як жа ён усцешыўся! Кажа: «Ніколі не спадзяваўся, што беларусы памятаюць мяне». Слова за слова — пачалі гаварыць. Ён расказаў, што ў вайну працаваў на Наваградчыне ў нейкім падраздзяленні па ахове лясоў. Меў у сваім распараджэнні беларускіх леснікоў і быў вельмі высокай думкі аб іх. «Доктар Тумаш, — казаў Энгельгарт, — крыху нападаў на мяне, што я ў сваёй кніжцы трохі не так вывеў граніцу на Палессі. Але ж я выводзіў паводле Карскага. Калі б Бог судзіў і я папраўіўся б, то цяпер я зусім іншую кнігу напісаў бы. А калі памру, то нічога не хацеў бы, каб быць пахаваным на Наваградчыне...»

**— А ці папраўіўся ён?**

— Не, праз два тыдні памёр. Там і пахаваны, у Сінбаху, светлая памяць яму. На ўсё жыццё запомніў я тую сустрэчу. Барон фон Энгельгарт паходзіў з Латгаліі, жыў там сярод беларусаў і вельмі любіў наш край і хацеў, каб зрабіць для Беларусі нешта добрае.



*Л.Пранчак, Я.Золак і М.Сенька ў Кліўлендзе.*

**— І вось у 1950 годзе вы прыехалі ў Амерыку. Разам з радасцю была, мусіць, і горыч, і разуменне, што Амерыка — гэта надоўга...**

— Безумоўна, але трэба было жыць... У Саўт-Рыверы сабраліся людзі, якія падчас вайны працавалі на бацькаўшчыне па адраджэнні Беларусі. Мы пачалі наладжваць грамадскае, рэлігійнае, палітычнае жыццё. Арганізавалі парафію. Людзі былі вельмі ахвярнымі, хоць зараблялі тады ўсяго па 50 ці 75 цэнтаў у гадзіну... У 1972 годзе мы выбудавалі сваю царкву. Вялікую ролю ў яе будаўніцтве адыграў настаяцель Мікалай Лапіцкі, інжынер Іван Касяк, прэзідэнт БЦР Радаслаў Астроўскі... Яны дабіліся прыняцця нашай царквы ў падпарадкаванне Усяленскаму патрыярху, — што азначае поўную легалізацыю нашага праваслаўнага жыцця. Нашы царкоўныя справы зараз палагоджвае экзарх Канстанцінопальскага патрыярха. Пры царкве дзейнічае грамадскі цэнтр. А ў ім стварылі хор, танцавальны гурток, самадзейны тэатр...

**— Адкуль жа вы бралі артыстаў?**

— Артысты былі свае, тутэйшыя. Тэатр існаваў дзякуючы Ірыне Цупрык і народнаму артысту Беларусі Вячаславу Селях-Качанскаму. Мы ставілі «Пінскую шляхту» Дуніна-Марцінкевіча, рэпеціравалі «Загубленае жыццё» Тодара Лебяды, але да пастаноўкі не давялі... Селях-Качанскі быў даволі прыкметным чалавекам у беларускім асяродку. Ён кіраваў хорам, тэатрам. Меў вельмі добрую памяць. Любіў расказваць розныя гісторыі са свайго жыцця. У 1927 годзе ён быў дырэктарам Першага Беларускага драматычнага тэатра — БДТ-1. Сваіх кадраў не хапала, і часта прыходзілася запрашаць артыстаў з Масквы. А тыя зусім не ведалі беларускай мовы. Асабліва цяжка расейцам давалася вымаўленне «ў». Селях-Качанскі прыдумаў ім практыкаванне: «Атаўка — сену прыбаўка. Але, гультай, не скасіў яе Саўка». Па сто разоў мо вымаўлялі гэтую фразу артысты. І толькі пасля таго, як навучацца правільна вымаўляць, прыступалі да рэпетыцыі. Шкада, што на бацькаўшчыне забыліся пра гэтага чалавека. Ён жа ў свой час быў дублёрам Шаляпіна...

**— Акрамя Вячаслава Селях-Качанскага у Саўт-Рыверы жылі і жывуць таксама вядомыя эміграцыйныя пісьменнікі і кампазітары...**

— Так, свае творы тут пісаў Юрка Віцьбіч, Янка Золак, Міхась Кавыль, кампазітары Дзмітры Верасаў і Ксаверы Барысавец...

**— Спадар Міхась, беларуская дзейнасць — ваша і вашых сяброў — ніколі не прыносіла ні славы, ні дывідэндаў. Але вы, нягледзячы ні на што, займаліся ёю...**

— Беларуская дзейнасць прыносіла толькі расходы, але яна заўсёды была патрэбай нашых душ, той нябачнай ніткай, якая лучыла нас з Беларуссю. Я заўсёды атрымліваў духовае задавальненне ад гэтай працы. Калі Беларусь не была незалежнай, мы рабілі ўсё, што маглі, каб як мага больш людзей у свеце даведалася пра гэта. На тыдні паняволеных народаў мы заўсёды неслі плакаты — «Няхай жыве незалежная Беларусь!», «Далоў расейскую акупацыю Беларусі!». І сёння гэтыя лозунгі ў нас ёсць...

**— А што, вы іх пакуль не выкінулі?**

— Не!

**— Думаеце, яны яшчэ спатрэбяцца?**

— Не дай Божа! Я не думаю, што яны спатрэбяцца. Але хачацца, каб Беларусь хутчэй даходзіла да самастойнага эканамічнага і нацыянальнага, а перадусім — рэлігійнага жыцця.

**— А чаму перадусім рэлігійнага?**

— А таму, што на Беларусі ў гэтай сферы творыцца няведама што. Праваслаўная царква — прамаскоўская, каталіцкая — глядзіць на Польшчу. Як жа так можа быць? Любая рэлігія павінна служыць таму народу, на зямлі якога яна знаходзіцца. А на Беларусі цэрквы чужыншчынай займаюцца! Сапраўдная Беларусь магчыма толькі тады, калі ўсе яе жыхары стануць свядомымі беларусамі. Людзі духова спустошаны камуністычным панаваннем. Ім трэба вярнуць Бога і веру. Трэба актыўней бараніць прынцыпы беларускасці праваслаўнай царквы...

**— Спадар Міхась, сёння Беларусь ужо не тая, якую вы калісьці пакінулі. Вы гэта заўважаеце?**

— І заўважаем, і разумеем. Хоць не ўсё прымаем. Напрыклад, што немагчыма прыняць, дык гэта сучасны правапіс. Як гэта можна скасаваць мяккі знак! Да нас прыязджаюць людзі з Беларусі, гавораць беларускімі словамі, а вымова — расейская! Не ўмеюць плаўна гаварыць! Беларусы, а размаўляюць — як чужынцы! Мы тут вельмі здзівіліся, калі ў цэнтры выступалі «Песняры». Са сцэны спявалі беларускія песні, а сышлі са сцэны — паміж сабой размаўляюць па-расейску... Што ж гэта такое?! Беларускасць — гэта не тая ідэя, якой можна спекуляваць. Гэта самае святое для кожнага беларуса. Добра было б, каб гэта зразумелі на бацькаўшчыне...

Я шчыра жадаю, каб жыццё на Беларусі нарэшце ўнармалізавалася, каб людзі сталі жыць шчасліва, каб спакойнымі сталі іх душы. Дасць Бог, і Беларусь будзе квітнеючай краінай, — чаго я жадаю ад усяго сэрца!

Рэпліка

# ЧАМУ РАПТАМ — ІМПЕРЫЯ?

Уражаны трактаваннем Вялікага княства Літоўскага ў серыі «100 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі» /«Звязда», 18.05.93/. Разумею, гэта не навуковы артыкул, але ж папулярызаваць трэба гісторыю, веды, а не фантазіі. У згаданай публікацыі Вялікае княства Літоўскае было названа імперыяй. Большай недарэчнасці не прыдумаеш!

Што такое імперыя? Нямала імперый ведала сусветная гісторыя — Персію, Рым, Візантыю, Атаманскую ды Святую Рымскую. Пры ўсёй іх непадобнасці мелі шмат агульнага. Імперыя — гэта, звычайна, вялікая і магутная дзяржава. Але самае важнае — у яе дзяржаўна-палітычных асаблівасцях. Імперыя — гэта не толькі вялізны рэгіён, але і адна палітычная сістэма ў рэгіёне. Яе дзяржаўнасці, у прыватнасці, абавязкова ўласцівы: а/ моцная цэнтралізацыя; б/поўнае панаванне цэнтра над перыферыяй; в/ таталітарная ўлада; г/ агрэсіўная знешняя палітыка; д/ у сферы ідэалогіі — дактрына сусветнага панавання. Апошняе асабліва важна. Прэтэнзія на ўвесь свет і экспансіянізм, няхай са[illegible]е патэнцыяльны, вызначаюць палітыку кожнай імперыі, фармуюць адмысловую ідэалогію. Так што далёка не ўсе вялікія дзяржавы можна называць імперыямі.

ВКЛ не ведала ніводнай з пералічаных асаблівасцей дзяржаўнасці імперскага тыпу. Наадварот, Вялікае княства ўяўляла дзяржаву процілеглага тыпу. Яно заставалася слабацэнтралізаваным. Некаторыя землі злучаліся з цэнтрам на канфедэратыўных пачатках. Дэмакратызм, захаванне старыны, аўтарытэт права — вось што вызначала ўнутраны лад Вялікага княства Літоўскага, а не таталітарызм. Што да палітыкі, ідэалогіі — тут таксама марна шукаць імперскае. Ад часоў Вітаўта княства забылася нават на рэгіянальны экспансіянізм /таму й забылася, што не мела імперскай сутнасці/, а ў сярэдзіне XV ст. і зусім адмовілася ад актыўнай знешняй палітыкі. Кажу пра адстойванне сваіх інтарэсаў сілай, а не пра дыпламатыю. Не знешняя, а ўнутраная палітыка можа лічыцца дамінантай гісторыі Вялікага княства. Не пра развязванне вайны, а пра тое, як унікнуць яе, думала беларуская шляхта. І калі ў нашым мінулым спрэс войны і войны, гэта яшчэ не сведчанне ваяўнічасці нашай сярэднявечнай дзяржавы. Наадварот, у канцы XV ст. праблема абароны зрабілася для яе першачарговай. Чаму так сталася і да чаго гэта прывяло — асобная тэма, надзвычай важная для разумення гісторыі Вялікага княства. Але тут пра гэта, як і пра шмат што іншае, закранутае ў артыкуле «Што такое ВКЛ?», пісаць проста не выпадае. Таксама, як не выпадала не напісаць, што яно, гэтае княства, ну ніяк не было імперыяй.

**Генадзь САГАНОВІЧ**

# ПРА МУЗЫЧНЫЯ ГУСТЫ СПРАЧАЮЦЦА... У СУДЗЕ?

4 верасня 1992 г. у «ЛіМе» быў надрукаваны артыкул Ю.Будзько «Лебядзіная песня ў стылі «наменклатурны поп», або Бывай, «Славянский базар»!» Згаданы ў гэтай публікацыі грамадзянін У.Правалінскі падаў іск у суд да аўтара Ю.Будзько і рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва» аб абароне гонару і годнасці. Суд адбыўся. Рэдакцыя «ЛіМа» атрымала выканаўчы ліст з рашэннем народнага суда Партызанскага раёна г.Мінска, у якім гаворыцца:

«Признать сведения, опубликованные в статье Ю.Будько «Лебядзіная песня ў стылі «наменклатурны поп», або Бывай, «Славянский базар»!» в газете «Літаратура і мастацтва» 4 сентября 1992 года, порочащими честь и достоинство Провалинского Владимира Михайловича. Обязать автора статьи Будько Юрия Иосифовича, редакцию газеты «Літаратура і мастацтва» принести публичные извинения Провалинскому В.М. через газету».

Падпарадкоўваючыся закону, мы, рэдакцыя газеты, робім гэта.

Юрыдычна дасведчаныя людзі, аднак, лічаць беспрэцэдэнтным здарэннем факт такога суда, калі крытычныя заўвагі /прадмет чыста мастацтвазнаўчых спрэчак, а не сферы грамадзянскіх стасункаў людзей/ разглядаюцца ў судовых органах і заява ў суд скарыстоўваецца як аргумент у мастацтвазнаўчай палеміцы.

Што датычыць аўтара, Ю.Будзько, дык ён, як паведаміў нам, мяняць сваіх музыканцкіх густаў, меркаванняў і ацэнак пад уздзеяннем суда пакуль не збіраецца...

**P.S.Гэты матэрыял быў здадзены ў набор у аўторак, 1 чэрвеня, а ў сераду, 3 чэрвеня, «Народная газета» надрукавала інтэрв'ю свайго карэспандэнта з «известным певцом из Беларуси Владимиром Провалинским», співаком з «созвездия» такіх зорак, як Л.Лешчанка, Г.Веліканава, В.Лявонцьеў, А.Газманаў, І.Кабзон і інш. Каментаваць гэтае інтэрв'ю нам не выпадае. Адно скажам. Словамі коласаўскага дзяка Бацяноўскага: «Няма на свеце тайны, якая б не сталася яўнай, і ўсякую гардыню наказуе Гасподзь».**

**А калегам з «Народнай газеты» — вялікі наш дзякуй за гэтакія «блестяще» выказаныя разуменне і падтрымку.**

новага напісанняў.

2. Увесці пазіцыйнае пазначэнне мяккасці сібілянтаў адпаведным знакам палаталізацыі /'/.

3. Звярнуць увагу на ўдасканаленне беларускай арфаэпіі, у якой больш глыбока і паслядоўна апісваліся б моўныя асаблівасці, якія не ахоплены правіламі арфаграфіі, і інш.

Спіс многіх іншых прапаноў, якія, на маю думку, патрабуюць дадатковага, больш паглыбленага вывучэння, перадаць на разгляд пастаянна дзеючай правапіснай камісіі, якая хоць запознена, але павінна ж, нарэшце, быць створана ў рэспубліцы з наданнем ёй аўтарытэтных, у тым ліку і інспекцыйных, паўнамоцтваў.

Абмеркаванні ў правапіснай камісіі на ўзроўні Таварыства беларускай мовы паказалі, колькі, побач з агульнымі, самых розных прыватных пытанняў яшчэ не ўпарадкавана і колькі працы яшчэ наперадзе.

Само па сабе багацце прапаноў, не заўсёды, можа, прадуманых, часам зусім непрымальных, з'ява станоўчая, выкліканая намаганнем грамадскасці развесці нашы ўсходнеславянскія мовы ў іх ракавым білінгвізме.

Гэта толькі на першы погляд усё проста. Вядома, наш густ не пагадзіцца пісаць «радакцыя», «анергія», «аканоміка», аднак у мове прэтэндэнт такога напісання ёсць — «сакратар», «рамонт». Непрымальна «сэрыя», «бэнзін», «пэрац», але ж у мове ёсць «сэнс», «сэрвіс» і інш. Вядома, не прыжывецца «рыскі» ад Рыга , але ж атрымалі прапіску вымаўляльныя формы «прыгоства», «таварыства».

А, напрыклад, прапановы пісаць «шніцаль», «шпаталь», «метар», «літар», «цыліндар», «ансамбаль», «дырыжабаль» для аблягчэння цяжкага для нашага вымаўлення канцавога збегу зычных, на мой погляд, маюць перавагі над існуючым напісаннем. Тым больш, што гэта уніфікавала б правіла па тыпе ўжо вядомага напісання: бугалтар, карцар, майстар, скульптар. Не забудзем толькі, што уніфікаванне, спрашчэнне правіла наколькі пажаданыя, настолькі ж і цяжкадасягальныя ў правапісе.

У адным мне бачыцца аднабаковасць сённяшніх прапаноў — у абсалютызацыі правапіснай канцэпцыі Б.Тарашкевіча. Хоць на «тарашкевіцы» ў сённяшніх рэфарматараў нібы свет клінам сышоўся, за ёй якраз не ўся праўда аб нашым слове, аб нашых моўных асаблівасцях. Складвалася яна на ашмянска-віленскіх гаворках, а вам кожны дыялектолаг засведчыць, што рэгіён іх няўстойлівы, пастаянна размываемы летувіскімі і польскімі ўплывамі. Многія моманты Тарашкевічавага правапісу зроблены пад уплывам польскай традыцыі, пра што ў свой час напаміналі В.Ластоўскі, Я.Карскі, але ў польскай арфаграфіі яны дзейнічаюць паводле сэнсаваадрознай функцыі, у нас — дзеля адметнасці.

Так, нам яшчэ давядзецца ўзнаўляць шмат што з нашай моўнай самабытнасці, але не штучнага або запазычанага збоку. Дыялектолагі пацвердзяць, як слаба прадстаўлены ў нашым правапісе рысы ўсяго рэгіёна паўночна-ўсходніх гаворак, Палесся і Брэстчыны, не выкарыстаны для ўзбагачэння літаратурнай мовы прагрэсіўныя тэндэнцыі ў іх.

Невыпадкова дзеячы старэйшага пакалення, у якіх на памяці выпрацоўка першых правапісных нормаў, схільныя аддаваць перавагу ў многіх пытаннях моўнаму чуццю і прапановам Я.Ф.Карскага, энцыклапедычна дасведчанага заснавальніка беларускай філалогіі, моўная канцэпцыя якога грунтавалася на фундаментальным вывучэнні ўсіх рэгіёнаў Беларусі.

Таксама не знята яшчэ і сёння праблема ўзбагачэння нашага алфавіта, якую ўзнімаў хай сабе і самавукам К.Каганец, і, у прыватнасці, распрацоўка лігатур для больш зручнага абазначэння афрыкатаў «дз», «дж», а для апошняй дык і, магчыма, удакладнення гукаспалучэнняў.

Ды гэта справа не аднаго дня: у правапісе — сем раз адмер і толькі тады зможаш адрэзаць, а, магчыма, і не. Практыка правапісных камісій большасці сусветных моў здзіўляе сваім кансерватызмам. Дзесяцігоддзямі працуюць аўтарытэтныя навуковыя калектывы, праводзіцца франтальны перагляд правапіснага матэрыялу, уносіцца мноства прапаноў. Калі ж справа даходзіць да практычных змен, перамагае абачлівы, цвярозы сэнс па прынцыпе, што найлепшае з рашэнняў — захаванне статус-кво.

Архівы

**_Адна з характэрнейшых рысаў камуністычнай дыктатуры — татальны кантроль над свядомасцю людзей. Для гэтай мэты была створана цэлая армія палітрэдактараў, літаратурных цэнзараў, прапагандысцкіх наглядальнікаў, якія цэрберамі накідваліся на любыя «прегрешения» ідэалагічна-палітычнага парадку, за што «вінаватыя» часам расплачваліся не толькі пасадай, кар'ерай, а, бывала, і жыццём._**

**_У гэтай публікацыі чытачу прапануецца некалькі звычайных для таго часу сюжэтаў з практыкі паліткантролю._**

# «ДРУКАВАЦЬ НЕЛЬГА!..»

## З ПАСТАНОВЫ АБ'ЯДНАНАГА ПАСЯДЖЭННЯ ПРЭЗІДЫУМА ЦК КП/Б/Б І КАЛЕГІІ НК РСІ БССР

АД 13 КРАСАВІКА 1930 Г.

«г/ Прапанаваць БДВ /Белдзяржвыдавецтву/ пільна сачыць за ідэалагічнай вытрыманасцю выдавецкай прадукцыі. У выпадку з'яўлення ў свет палітычна-шкоднай літаратуры прыцягваць да партыйнай і савецкай адказнасці палітрэдактараў.

д/ Пры праглядзе кніжкі палітрэдакцыяй зварочваць асаблівую ўвагу на наступныя пытанні:

ці адбівае кніжка матэрыялістычны светапогляд у трактоўцы матэрыялу;

чыстата пралетарскай ідэалогіі, або скажэнне яе ў бок ідэалізму, народніцтва, нацыянал-дэмакратызму, шавінізму;

адпавяданне кніжкі задачам сацыялістычнага будаўніцтва;

наколькі кніжка адлюстроўвае антырэлігійную думку;

метадалогія, стыль і грамадская карысць кніжкі».

Сакрэтна

## САКРАТАРУ ПАРТ'ЯЧЭЙКІ

Культпрап ЦК КБ/б/Б прапануе тэрмінова запоўніць уліковыя карткі і скласці падрабязныя партыйныя характарыстыкі на палітрэдактараў. У характарыстыцы абавязкова павінна быць указана: сацыяльнае паходжанне і сувязь з бацькамі зараз, уся яго праца да 1917 года. Дзе быў у часе Кастрычніцкай рэвалюцыі, яго ўдзел у грамадзянскай вайне, дзе быў і яго пазіцыя ў час партыйных дыскусій /21 г., 23 г., 27-28 гг./. Членства ў іншых партыях і яго праца там. Партспагнанні і за што — дакладна.

У палітычных характарыстыках, за Вашым подпісам, указаць між іншым адносіны да пастаноў студзеньскага пленума ЦК і ЦКК КП/б/Б і яго працу ў час нарыхтовак 1932—33 гг., а таксама дзелавую характарыстыку аб выкананні яго непасрэдных абавязкаў.

5.III.33 г.

**Нам. заг. культпрапа**
**ЦК КП/б/Б** /Ягораў/

*У 1933 годзе кінастудыя «Савецкая Беларусь» здымала фільм «Двойчы народжаны» па сцэнарыі Рыгора Кобеца. Улічваючы цікаўнасць да здымак, аўтар вырашыў надрукаваць сцэнарый у часопісе «Беларусь калгасная». Хаця да гэтага часу ён ужо прайшоў патрэбны тады паліткантроль, тым не менш сцэнарый зноў быў накіраваны на прагляд. Заключэнне палітрэдактара было адназначным: друкаваць нельга. А чаму, бачна з тэксту заключэння, які захаваўся ў архіве /напісаны на рускай мове/:*

**Кобец.** «Дважды рожденный» печатать нельзя по следующим причинам:

1. Кто такой основной персонаж сценария Лопух?

Вот его лицо:

Прижатый к обрыву верховыми колхозниками «является в кадр» конокрад Лопух, который украл колхозную лошадь. Подкулачник бросается к нему и ударяет в лицо, бьют и остальные колхозники. В колхозе конокрада берет к себе Дубовик /председатель колхоза/, где он умеет чинить сбрую. Утром председатель под конвоем комсомольца Лешки с винтовкою отправляет Лопуха в амбар, где лежит сбруя. Сам Лопух сначала берется починять сбрую, потом бросает, потом снова берется /«перерождается»/. Потом узнают, что Лопух умеет лечить лошадей. Его направляют в конюшню, где он лечит больных колхозных лошадей. Конокрад переродился. Потом приходит милиционер и забирает Лопуха в суд. Председатель жалеет и говорит: «Таков закон» — и передает в суд просьбу от колхоза, быть может, об освобождении конокрада.

Вот такой в представлении Кобеца конокрад Лопух.

Из этого можно сделать вывод, что тех, кто раскрадывает колхозное имущество, врагов народа /постановление ЦИК и СНК/, нужно не расстреливать, или изолировать на 10 лет, а принимать в колхоз и там они через несколько дней /буквально/ станут ударниками социалистического строительства. Кобецу нужно было показать, кто такой конокрад Лопух, что его толкнуло на это и т.д., чтобы обнаружить перед массами, что Лопухи выполняют дело классового врага, являются врагами народа и этим мобилизовать массы на выявление Лопухов. Этого требует данный этап классовой борьбы в стране, а не возбуждать любовь масс к ворам, которые расхищают государственное и колхозное добро, выставлять свои другие пути борьбы с расхитителями общественного добра, чем определили партия и Советская власть.

2. Есть еще ряд моментов, менее важных по своему значению, но их также нужно отметить. Совершенно неправильно делает Кобец показывая, что колхоз имеет винтовки и колхозники оперируют ими, как средством защиты колхоза. Это неверно. Винтовка является боевым оружием Красной Армии, а не сельских колхозников.

С политической точки зрения эту вещь печатать нельзя.

**Политредактор Гарбуз**
**Верно: Секретарь Главлитбела Сикорский**

10/1-33 г.

*У 1933 г. у ЦК КП/б/Б рыхтаваліся да нарады па пытаннях дзейнасці літаратурных аб'яднанняў, якія трэба было аб'яднаць у адзіны Саюз савецкіх пісьменнікаў. Да гэтай нарады з афіцыйных і неафіцыйных крыніц, з подпісамі і без подпісаў, збіралася і паступала самацёкам інфармацыя аб становішчы літаратурнай справы. Палітцэнзар, які займаўся часопісам «Беларусь калгасная», звяртаў увагу вышэйшага партыйнага кіраўніцтва на важнасць арыентацыі пісьменнікаў, асабліва «ўдарнікаў», на вывучэнне граматыкі і правіл пунктуацыі: «Інакш могуць здарыцца вялікія непрыемнасці».*

... «А вот еще пример из творчества ударников. Один из начинающих в своем стихе написал:

**Ничего нам не страшно,**
**Ибо был у нас Ленин,**
**Есть Сталин — агент капитала**
**Сидит и ворожит,**
**Чтобы нашу страну**
**Загнать в неволю, в рабство.**
**Но нам не страшно,**
**Был Ленин, есть Сталин.**

Что получилось? Получилось, что т.Сталин есть будто бы агент капитала. Почему получилось так? Потому, что Федор Подвойский — автор стиха «Мы победим», отрывок из которого мы дали, определенным образом расставил знаки препинания. Как мы видели, после слова Ленин он поставил запятую и вслед за этим написал «Есть Сталин», а затем тире и дальше слова: «агент капитала сидит и ворожит, чтобы нашу страну загнать в неволю, в рабство».

А в результате слова, взятые целиком, составляют понятие, что —

**...Есть Сталин — агент капитала**
**Сидит и ворожит**
**Чтобы нашу страну**
**Загнать в неволю, в рабство.**
**После — «в рабство» — точка.**

Получилась, как видно, бессмыслица. Ибо лучший ученик Ленина, вождь всемирного пролетариата т.Сталин объявлен «агентом капитала».

Эти примеры ярко показывают, какую роль в речи играют знаки препинания и особенно настойчиво требуют от каждого поэта внимательного отношения к грамматике и пунктуации, требуют твердого изучения соответствующих правил».

*У снежні 1934 г. інструктар Мінскага ГК КП/б/Б Ксяндзоў накіраваў загадчыку аддзела культуры і прапаганды ленінізму дакладную запіску аб становішчы палітычнай работы ў медінстытуце. Як і патрабавалася ў той час, быў у ёй і раздзел: «Настроі, контррэвалюцыйныя вылазкі і рэагаванне парткома». Інструктар паведамляў:*

«Дырэкцыя лічыць, што асоба дрэнных настрояў у масе не маецца, а між тым выяўлена:

а/ На касцях, якія вывучаюць студэнты, былі намаляваны фашысцкія значкі і з гэтымі значкамі косці курсіравалі з адной групы ў другую /аб гэтым факце партком даведаўся ад брыгады ГК, якая абследавала медінстытут/.

б/ Прафесар Цітоў, які ў мінулым падтрымліваў нацдэмаў, выказаўся: «што пастанова Урада аб вышэйшай школе ёсць зварот да старых дарэвалюцыйных метадаў вучобы». Такія перлы выказваліся і іншымі навуковымі работнікамі, нават і ў гутарцы з членамі парткома т.Сапірам не сустракаліся з належным адпорам.

в/ На працягу некалькіх дзён дыскуціравалі ў адным пакоі ў інтэрнаце на Студэнцкай вул. /у пакоі былі і камсамольцы і партком аб гэтым не ведаў/ пытанні, якія ў наступнай фармулёўцы былі пададзены ў выглядзе ананімных пытанняў тав. Валабрынскаму на лекцыю па дыямату 28.XI:

«Ці спрыяе тэорыя Троцкага аб немагчымасці пабудовы сацыялізма ў адной краіне ў развіцці ленінізма?»

«Ці правільна будзе параўнаць: мэтафізічны матэрыялізм марксізма — тэорыя Троцкага аб немагчымасці пабудовы сацыялізма — крыніца ленінізма?».

«Ці спрыяе любая контррэвалюцыйная тэорыя, дзякуючы яе крытыцы, развіццю філасофскай навукі ўперад, напр., тэорыя Троцкага аб перманентнай рэвалюцыі, апартуністычная тэорыя Бухарына аб раўнавазе і інш.?»

Тав.Валабрынскі правільна зрэагаваў, выявіў аўтараў пытанняў, прысвяціў 2 заняткі гэтаму пытанню і даў правільную ацэнку характару і зместу гэтых пытанняў. Але партком задаволіўся такім акадэмічным рэагаваннем у гэтай групе і толькі 2/XII збіраецца абгаварыць гэтае пытанне на парткоме».

**Р.ПЛАТОНАЎ,**
**доктар гістарычных навук**



ЗАСНАВАЛЬНІКІ:

**САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**ГАЗЕТУ РЭДАГАВАЛІ:**

| | |
|---|---|
| Х.ДУНЕЦ | (1932-35) |
| І.ГУРСКІ | (1935-41) |
| А.КУЛЯШОЎ | (1945-46) |
| М.ГОРЦАЎ | (1947-49) |
| П.КАВАЛЁЎ | (1949-50) |
| В.ВІТКА | (1951-57) |
| М.ТКАЧОЎ | (1957-59) |
| Я.ШАРАХОЎСКІ | (1959-61) |
| Н.ПАШКЕВІЧ | (1961-69) |
| Л.ПРОКША | (1969-72) |
| Х.ЖЫЧКА | (1972-76) |
| А.АСІПЕНКА | (1976-80) |
| А.ЖУК | (1980-86) |
| А.ВЯРЦІНСКІ | (1986-90) |

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Юрась ЗАЛОСКА, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Барыс ПЯТРОВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), Юрась СВІРКА**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.**

**Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі -- 33-24-61; намеснікі галоўнага рэдактара -- 33-25-25; 33-19-85; аддзелы: публіцыстыкі -- 33-25-25, пісьмаў і грамадскай думкі -- 33-19-85, літаратурнага жыцця -- 33-24-62, крытыкі і бібліяграфіі -- 33-22-04, паэзіі і прозы -- 33-22-04, музыкі -- 33-21-53, тэатра, кіно і тэлебачання -- 33-21-53, выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў -- 33-24-62, навін -- 33-19-85, мастацкага афармлення -- 33-24-62; фотакарэспандэнт -- 33-24-62; бухгалтэрыя -- 26-86-40.**

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ". Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.*

**Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах**

**Друкарня "Беларускі Дом друку"**

Індэкс 63856. Тыраж 15.000.
Нумар падпісаны 27.05.1993 г.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12